

**Др. Аляксандар ОРСА**

Ведамы Настаўнік, грамадзкі дзеяч ды выдатны беларускі патрыёт

**БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ**
**BYELORUSSIAN WORLD**
№ 18 (47) — 1986

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

 

# СВЯТЛО ТВАІХ ВАЧЭЙ

*Словы І. СКУРКО* *Музыка У. БУДНІКА*

ЗАДУМЕННА




**Прасіў цябе на развітанне, —**
**Пішы, каб шлях закрыць журбе.**
**І пішам мы, як сумна стане,**
**Ты — пра мяне, я — пра цябе.**
**Жаданы воблік не растане,**
**Хоць колькі часу не міне,—**
**Мы будзем думаць у расстанні —**
**Я — пра цябе, ты — пра мяне.**
**Я — пра цябе, ты — пра мяне.**

**Мы не забудзем той хвіліны,**
**Калі сказалі мы сабе:**
**Адна, адзіная... адзіны**
**Ты ў мяне, я ў цябе.**
**Святло тваіх вачэй мне свеціць,—**
**Яно—другое сонца мне!**
**І мы жывём з табой на свеце,**
**Я — для цябе, ты — для мяне.**
**Я — для цябе, ты — для мяне.**



Сям'я др. Аляксандра Орсы ў 1958 г.

 

Васіль ПЛЕСКАЧ (ЗША)

# Др. АЛЯКСАНДАР ОРСА

Беларуская эміграцыя ў заходнім сьвеце, а асабліва ўвесь беларускі народ адчуў праўдзіва глыбокую страту, калі 2-га лістапада 1959 году адыйшоў на вечны супачынак др. **Аляксандар Орса,** — вялікі патрыёт Беларусі й змагар за яе слушныя правы й належнае месца ў сям'і вольных незалежных народаў.

Далёка ад сваёй роднай Навагрудчыны, сярод чужых людзей і рассваранай беларускай эміграцыі прыйшлося яму закончыць сваё цяжкае жыцьцё, ня скончыўшы вялікай яго працы, якой галоўнаю мэтаю было палітычнае й духовае адраджэньне беларускага народу.

Ён — не паэт, ані пісьменьнік шукаючы славы, ані вялікі правадыр, — ён папросту нязмучаны працаўнік і піянер нашай нацыянальнай справы, адданы й самаахвярны будаўнік бяз ніякіх амбіцыяў на вялікасьць, бяз ніякіх аспірацыяў да гучных тытулаў.

Гэты скромны чалавек здабыў сабе вялікі маральны аўтарытэт і праўдзівае прызнаньне ўсяго беларускага народу й сфэраў нашай эміграцыі. Яго мудрае слова, праўдзівы патрыятызм і самаахвярная праца застануцца запаветам для тых, хто меў нагоду працаваць зь ім за часоў яго жыцьця, як і для тых, хто яшчэ застаўся й якія прыйдуць пасьля, каб папоўніць нашыя рады й прадаўжаць незакончаную працу, якую пачаў др. А. Орса.

Яго нясупынная дзейнасьць на нацыянальна-грамадзкай ніве, маральнае ўзьдзеяньне на беларускую моладзь і сучасных яму беларускіх грамадзкіх працаўнікоў, застануцца багатаю спадчынаю й маральнымі вартасьцямі на прышласьць.

Яго нацыянальная дзейнасьць пачалася ад часоў юнацтва й была пуцяводнаю зоркаю праз усё ягонае жыцьцё.

Др. Аляксандар Орса нарадзіўся 24-га ліпеня 1896 году ў мястэчку Нягневічы ў Навагрудчыне. Мараю ягоных маладых гадоў было здабыцьцё добрай асьветы, што ня было лёгкаю справаю для сына беднай беларускай сялянскай сям'і за часоў царскай Расеі. Нягледзячы на розныя перашкоды й цяжкасьці матэрыяльнага характару, Аляксандар атрымаў сярэднюю асьвету, скончыўшы ў 1913 годзе Гарадзкое вучылішча ў Навагрудку й наступна паступіўшы на 2-х гадовыя настаўніцкія курсы. Па сканчэньні гэтых курсаў у 1915 годзе ён атрымаў тытул настаўніка пачатковых школаў. Аднак ня прышлося яму працаваць у ягонай прафэсіі, бо пасьля сканчэньня курсаў ён быў пакліканы ў царскую армію ў школу прапаршчыкаў, зь якое выйшаў у ранзе прапаршчыка. Пасланы на фронт падчас І-ай Сусьветнай вайны, прабыў ён каля двух гадоў у франтавых акопах пад Дзьвінскам і атрымаў рангу капітана перад заканчэньнем вайны.

У часе рэвалюцыі, на пачатку 1918 году, вяртаецца ён у Навагрудчыну й атрымоўвае падчас нямецкай акупацыі назначэньне на настаўніка пачатковае школы ў вёсцы Гараб'евічы. Неўзабаве Навагрудчына была занятая палякамі, і ён быў змушаны пакінуць працу настаўніка, пасьвячаючы ўсю сваю дзейнасьць грамадзкай беларускай працы. Ужо ў гэты час ён карыстаецца вялікім даверам насельніцтва Нягневіцкай воласьці, якое выбірае яго сваім прадстаўніком для распадзелу харчовай дапамогі зарганізаванай урадам ЗША для пацярпеўшых у



вайну. Гэтыя дапамаговыя камітэты арганізуюцца пад кіраўніцтвам А. Орсы на тэрыторыі цэлай Навагрудзкай акругі, прыносячы вялікую дапамогу насельніцтву. Адначасна догавар аб нацыянальных меншасьцях паміж Польшчаю й Заходнімі дзяржавамі з 1921 г. дае гваранцыі нацыянальным меншасьцям у Польшчы, у тым ліку й беларусам у Заходняй Беларусі, палітычных і грамадзянскіх правоў. Нажаль, польская Другая Рэчпаспалітая ўжо ад пачатку свайго існаваньня не датрымала гэтых гваранцыяў і пачала палітыку дыскрымінацыі й рэлігійнай неталяранцыі ў адносінах да беларусаў. З увагі на гэтую палітыку польскага ўраду, грамадзка-нацыянальная праца беларусаў была кантраляваная польскімі афіцыяльнымі чыньнікамі, якія імкнуліся да дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва, ужываючы розныя мэтады суровай рэпрэсіі супроць беларускіх дзеячоў. Аднак і гэта не паўстрымала маладога настаўніка ад актыўнай працы. Ён памагаў арганізаваць культурна-асьветную дзейнасьць сярод беларускага насельніцтва ў нашых вёсках, ладзячы спэктаклі й рэфэраты ды ўсьведамляючы нацыянальна беларускага селяніна. Калі на пачатку Другой Рэчыпаспалітай палякі рабілі ўражаньне, што будуць датрымоўваць пастановы догавару аб нацыянальных меншасьцях, беларусы стараліся пад абаронаю гэтага дагавору праводзіць палітычную працу. І так, у 1922 годзе перад выбарамі ў польскі сойм, беларусы выставілі сваю выбарчую лісту ў сойм і сэнат. Тут малады настаўнік укладае сваю поўную энэргію, каб здабыць рэпрэзэнтацыю беларусаў у польскім устававадаўчым воргане. На тэрыторыі Навагрудзкай акругі, беларусы здабываюць 4 мандаты, з магчымых 6-ці — 3-х паслоў і 1-го сэнатара. Нягледзячы на гэта, палякі далей інтэнсыўна прадаўжаюць рэпрэсыйную дзейнасьць, праводзячы дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да беларусаў. Такія адносіны польскіх уладаў змусілі маладога дзеяча пакінуць свой родны край ды выехаць заграніцу, у Чэхаславаччыну, каб там здабыць вышэйшую асьвету.

Разам зь ім выяжджаюць на студыі ў Прагу многія маладыя беларускія абсальвэнты сярэдніх школаў, якія там закончываюць вышэйшую асьвету.

Малады Аляксандар здабывае экстэрністам дыплём сярэдняй школы пры Украінскім Пэдагагічным Інстытуце й адначасна залічваецца студэнтам прыродазнаўчага факультэту чэскага Унівэрсытэту Карла ў Празе.

Пасьля абароны дысэртацыі 23-га чэрвеня 1929 году атрымоўвае ён дыплём з тытулам Доктара прыродазнаўчых навук.

У часе студыяў маладому аспіранту прыродазнаўчых навук была вялікаю маральнаю падпораю яго жонка Натальля Сьцяпанаўна з дому Сазыновіч, яго блізкая суседка з родных Нягневічаў. У 1923 годзе яна выехала ў Прагу Чэскую на студыі, а хутка пасьля гэтага прыехаў і малады Аляксандар, каб здабыць вышэйшую асьвету. У Празе навязаліся вельмі прыяцельскія адносіны паміж маладою параю — іх моцна зьвязала й зблізіла да сябе агульная беларуская ідэя й нацыянальная праца, любоў да Бацькаўшчыны й непатухаючае жаданьне служыць усімі сваімі маладымі сіламі гаротнаму беларускаму народу. Праўдзівае каханьне й узаемная пашана закончылася шлюбам 13 лістапада 1926 г. у Празе. Неразлучны лёс, цяжкая жыцьцёвая дарога, змаганьне за існаваньне зьвязала іх моцна аж да апошняга дня. Натальля Сьцяпанаўна была ягонаю вернаю спадарожніцаю ў ягоным цэлым жыцьці, разам працуючы на грамадзкай ніве й зносячы цяжкія мамэнты, расчараваньні й няўзгоды ў іхным асабістым жыцьці. Трэба асабліва падкрэсьліць, што ўсе вялікія дасягненьні др-а Аляксандра Орсы былі бясспрэчна

заслугаю й ягонае жонкі, настаўніцы сярэдніх школ і самаахвярнай працаўніцы ў беларускім нацыянальным руху.

У 1929-ым годзе разам із жонкаю Натальляю ён вяртаецца ў Беларусь і атрымоўвае працу настаўніка прыродаведы ў Беларускай Гімназіі ў Наваградку. Для здабыцьця поўных дзяржаўных правоў настаўніка сярэдніх школаў, Аляксандар Орса настрыфікуе свой чэскі дыплём пры Варшаўскім Унівэрсытэце ў 1931 г. Пазьней пры Віленскім Унівэрсытэце Сьцяпана Баторага здае пэдагагічны экзамін, атрымоўваючы ўсе правы на навучаньне ў дзяржаўных сярэдніх школах.

Тут хочацца асабліва заўважыць, што др. А. Орса маючы ўсе правы выкладаньня ў польскіх дзяржаўных гімназіях, зьвязаў неразлучна свой лёс зь Беларускаю Гімназіяю ў Наваградку аж да часу яе ліквідацыі ў 1934 годзе.

Што-ж было галоўным матывам маладога настаўніка ўпорыста трымацца пры матэрыяльна неабясьпечанай і вельмі скромнай школе? Адказ ёсьць вельмі просты — яго бязьмежная адданасьць беларускай справе й любоў да беларускага сялянства, якое разумела значэньне асьветы й за ўсякую цану, ня маючы фінансавых сродкаў, старалася пасылаць сваіх дзяцей у сваю беларускую гімназію. Гэтая сярэдняя школа ня мела дзяржаўных правоў і ўтрымоўвалася толькі з аплатаў вучняў бедных сялянскіх і мяшчанскіх бацькоў. Здаралася так, што настаўнікі працавалі без аплаты месяцамі, бо бацькі не маглі плаціць за асьвету сваіх дзяцей. Аднак гэта ў вачох самаахвярных настаўнікаў ня было прычынаю выключэньня са школы вучняў; усе настаўнікі працавалі аддана з пасьвячэньнем, даючы асьвету беларускай моладзі на найвышэйшым узроўні. Яны ўзгадоўвалі гэтую моладзь у нацыянальным духу, прывівалі любоў да свайго краю, хоць гэта было вельмі небясьпечна з погляду на палітыку польскіх шавіністычных уладаў.

Стараючыся зрабіць ураджаньне, што яны выконваюць пастановы догавару аб гварэнцыях правоў нацыянальных меншасьцяў, гэтыя ўлады лічылі ўсе праявы нацыянальнай дзейнасьці беларусаў, як камуністычную й дывэрсыйную акцыю, скіраваную супроць польскай дзяржавы. Ясная рэч, што галоўным матывам польскай дэфэнзывы было зьліквідаваць усе праявы беларускага нацыянальнага руху й застрашыць сьведамых і актыўных беларусаў. Адносілася гэта таксама й да Беларускай Гімназіі ў Наваградку, якая быяа ўвесь час пад кантроляю польскіх уладаў бясьпекі, якія насылалі сваіх агентаў, арыштоўвалі вучняў гімназіі, закідаючы ім беспадстаўна сувязь з Масквою й камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. Як прыклад, хочацца тут падаць, што адзін з вучняў сярэдняе клясы гімназіі — Аляксандар Малец быў абвінавачаны, як удзельнік падпальваньня дамоў у ваколічных вёсках Наваградку на загад камуністычнай арганізацыі. У запраўднасьці ўспомнены вучань быў вельмі нацыянальна сьведамым і адданым беларусам. Акруговы суд у Наваградку на аснове фальшывых абвінавачаньняў, сфабрыкаваных польскаю бясьпекаю, выняс прысуд сьмерці й Аляксандар Малец разам з трыма другімі абвінавачанымі быў павешаны ў турме ў Наваградку. Не памаглі ў гэтай справе й пераконваючыя аргумэнты шырока ведамага беларускага юрыстага й адваката др. Паўла Сьвірыда, які ў сваёй абароне давёў, што абвінавачаны А. Малец ніякай сувязі з камуністамі ня меў і ня браў ніякага ўдзелу ў падпальваньні дамоў, а якога адзінаю віною была глыбокая нацыянальная сьведамасьць і дзейнасьць для беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы.

У такой атмасфэры трэба было працаваць маладому настаўніку ў Беларускай Гімназіі ў Наваградку, выкладаць свой прадмет і ўзгадоўваць моладзь у нацыянальна-сьведамым духу. Трэба тут дадаць, што й іншыя настаўнікі, асабліва дырэктар гімназіі Янка Цеханоўскі, Пётра Скрабец і Міхась Чатырка, аддавалі ўсе свае сілы й здольнасьці, каб утрымаць гэтую сярэднюю школу на належным навуковым узроўні, прыгатаваць моладзь да вышэйшых студыяў ды прышчапіць любоў да свае Бацькаўшчыны й да самаахвярнай працы на карысьць беларускай справе.



Гэтая адданая праца др. Аляксандра Орсы й усяго настаўніцкага калектыву не пайшла намарна. Сёньня ўва ўсіх беларускіх эміграцыйных асяродках далей працуюць і праяўляюць сваю актыўнасьць былыя абсальвэнты гэтай гімназіі, прадаўжаючы незакончаную працу на карысьць беларускага народу, перадчасна памёршага др. Аляксандра Орсы.

Так званы «трыўмвірат» настаўнікаў, у складзе дырэктара Янкі Цеханоўскага, папярэдняга дырэктара Пётры Скрабца й настаўніка др. Аляксандра Орсы, быў душою ўсёй культурнай і нацыянальнай дзейнасьці ня толькі гімназіі, але й усёй Наваградчыны. Дапаўняў гэты «трыўмвірат» настаўнік музыкі й сьпеву, кампазытар Антон Валынчык, які паставіў хор гімназіі на вельмі высокім мастацкім узроўні. Гэты хор даваў канцэрты па ўсёй Наваградчыне; слаўна грымела беларуская музыка, песьня, й жывое слова, усьведамляючы сялянскія масы аб музыкальнай спадчыне сваёй краіны. Нават шавіністычная польская музычная прэса не магла паўстрымацца, каб ня выразіць праўдзівага прызнаньня мастацкім дасягненьням вучняў і дырыгэнту Антону Валынчыку.

За ўвесь час свайго існаваньня Беларуская Гімназія ў Наваградку знаходзілася ў вельмі крытычным матэрыяльным становішчы. Яна існавала, як прыватная ўстанова й ніякіх фінансавых дапамогаў ад дзяржавы не атрымоўвала, укладаючы свой гадавы бюджэт з аплатаў вучняў. У большыні выпадкаў гэтыя вучні, дзеці бедных сялянскіх і мяшчанскіх гаспадароў не маглі плаціць за навуку й дырэкцыі гімназіі ня было іншага выхаду, як звальняць іх ад аплаты за навуку. Пераважная бальшыня настаўнікаў працавала бясплатна, для ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня й узгадаваньня нашай моладзі. З ліку прыблізна 18-20 настаўнікаў, аплачваліся толькі 4 настаўнікі, якім польскім міністэрствам асьветы былі прызнаныя т. зв. этаты, як асобам, адпавядаючым вымаганьням куратарыюм асьветы ў Вільні. На прапазыцыю настаўніцы Зофіі Барановіч, толькі гэтымі чатырма этатамі дзяліліся ўсе настаўнікі. Між іншым др. А. Орса меў таксама этат, зь якога затрымоўваў для сябе толькі невялічкую частку аплаты, дзелячыся рэштаю з другімі настаўнікамі. Тут трэба прыпомніць, што таксама й пасол В. Рагуля выдатна памагаў гімназіі фінансава, аддаючы ўсю сваю пасольскую пэнсыю на гэтую беларускую сярэднюю школу.

У такіх фінансавых варунках даводзілася працаваць усяму пэрсаналу настаўнікаў і адначасна адбіваць усе пагрозы й намаганьні польскіх уладаў зьліквідаваць гэтую навуковую ўстанову, для мэтаў поўнай палянізацыі Наваградчыны. Можна лёгка было маральна заламацца працуючы ў такой прыгнятаючай атмасфэры. Аднак гэта ня ўплыло на А. Орсу, які рашуча аддаваў сваю працу й усе свае сілы, каб утрымаць гэтую гімназію на высокім узроўні. Нягледзячы на перагрузку ў працы як настаўніка й выхаваўцы, др. А. Орса прыймае на сябе бязплатна функцыю кіраўніка інтарнату для хлапцоў — вучняў гімназіі. І тут ён прыкладае многа высілкаў і стараньняў, а асабліва часу, каб навучыць «бурсакоў» дысцыпліны й адказнасьці. Ён умелым бацькаўскім падыходам наглядае за выхаваньнем

юнакоў, палагоджвае непаразуменьні, папраўляе памылкі, прывучае да паслушэнства й сужыцьця.

Разам з мужам працуе, як кіраўнічка жаночага інтэрнату для вучаніц гімназіі й спд. Натальля Орса. Яна таксама пасьвячаецца вялікаму ідэалу ўзгадаваньня беларускай моладзі, занядбоўваючы сваё асабістае жыцьцё.

Дзе-ж можна знайсьці лепшы прыклад такой сямейнай самаахвяры для беларускай справы, як сям'я Орсаў? Напэўна нашая мінуласьць ня мае шмат такіх прыкладаў!

Нягледзячы на розныя перашкоды, гімназія разьвівалася, вяла культурна-асьветную працу ды нават стварыла будаўляны камітэт. Душою й ініцыятарам гэтага вялікага праекту быў др. А. Орса. Выдатна дапамагалі яму ў гэтым дырэктар гімназіі, Янка Цеханоўскі й адвакат др. Павал Сьвірыд, якія разам з другімі настаўнікамі, бацькоўскім камітэтам ды вучнямі павялі інтэнсыўную акцыю на збор матэрыяльных сродкаў. Маладому настаўніку разам зь сябрамі камітэту й усімі ўдзельнікамі, прышлося не даспаць многіх ночаў, перанесьці многа непрыемнасьцяў, перашкодаў і расчараваньняў у гэтай падрыхтоўчай працы.

Ахвярныя высілкі будаўнічага камітэту не пайшлі надарма. Як на дражджах рос новы прыгожы будынак, кіпела праца; паволі ажыцьцяўлялася рамантычная мроя беларускага грамадзтва Наваградчыны стварыць свой культурны асяродак у гэтым будынку. Нажаль, будаўлянаму камітэту не ўдалося выканчыць гэтага будынку. Ужо пазьней польскія ўлады закончылі яго пабудову. І цяпер гэты прыгожы будынак зьяўляецца помнікам вялікага высілку беларускага грамадзтва Наваградчыны.

Бесперастанку й пасьлядоўна польскія ўлады прадаўжаюць сваю працу над ліквідацыяю гімназіі. У гэтай мэце ў 1932 годзе школьнае куратарыюм выдае загад аб пераменаваньні Беларускай Гімназіі ў Беларускую Філію польскай дзяржаўнай гімназіі імя Адама Міцкевіча, а пазьней — вясною 1934 году яе зусім зачыняюць.

І так закончыла сваё існаваньне Беларуская Гімназія ў Наваградку.

Трэба тут аднак падкрэсьліць, што гэтая Беларуская Гімназія ў Наваградку выканала сваю функцыю, дзякуючы такім энтузыястам, як др. А. Орса. Вучні гэтай гімназіі атрымалі глыбока-нацыянальную й патрыятычную падрыхтоўку ды пайшлі студ'яваць у розныя ўнівэрсытэты Польшчы, Францыі, Бэльгіі й Нямеччыны, каб здабыць асьвету й прадаўжаць працу сваіх настаўнікаў на карысьць Беларусі.

У рэзультаце ліквідацыі Беларускай Гімназіі ў Наваградку, др. А. Орса часова назначаецца ў польскую пачатковую школу ў Наваградку з прызнаньнем усіх правоў выкладчыка сярэдніх школаў. У 1938 годзе яго пераводзяць у глыб Польшчы на працу настаўнікам Гімназіі ў Коньскае, Келецкага ваяводзтва. Гэтае перасяленьне др. А. Орсы з этнаграфічных беларускіх тэрыторыяў у цэнтральную Польшчу, было згодна з палітыкаю дэнацыялізацыі — не дапусьціць нацыянальна сьведамых беларускіх інтэлігентаў да працы на сваіх тэрыторыях і ізаляваць іх ад беларускіх масаў.

На пачатку Другой Сусьветнай вайны ў 1939 годзе, др. Орса зь сям'ёю вяртаецца на родныя землі й дастае назначэньне на працу настаўнікам у Беларускай Дзесяцігодцы ды ў Пэдагагічным Вучылішчы ў Наваградку.

У 1941 годзе, пасьля акупацыі Беларусі немцамі, др. А. Орса прадаўжае працу ў навучаньні. Неўзабаве беларускія настаўнікі выбіраюць яго на становішча школьнага інспэктара Наваградзкай акругі. Цяжкія гады настаўніцкай працы за часоў савецкай і нямецкай улады на нашых землях ня здолелі зламаць духа настаўніка й выхаваўцы падрастаючай моладзі. Ён надалей усімі магчымымі спосабамі праводзіў культурна-асьветную й узгадаваўчую акцыю сярод моладзі, нягледзячы на тое, што адзін неабдуманы крок мог прывесьці да трагічнай сытуацыі ў часе нацыянальнага гнёту й жахлівых ваенных умоваў, асабліва падчас нямецкай акупацыі. Ён надалей астаўся верным сваім ідэалам служэньня беларускаму народу, толькі свае мэтады мусіў дастасаваць да існуючых палітычных абставінаў. Дзякуючы ягоным стараньням і адданай працы, моладзь вучылася ў сваіх родных школах, здабывала веды й пашырала свой кругазор, каб у прышласьці прыняць на сябе адказнасьць за свой край.



На становішчы Акруговага Школьнага Інспэктара др. А. Орса прабыў аж да палавіны 1944 году, пасьвячаючы ўсю сваю энэргію школьным праблемам. Ён заўсёды заставаўся скромным, але нязмораным працаўніком для дабра свайго народу.

Ваенная завіруха Другой Сусьветнай вайны закінула др. А. Орсу й ягоную сям'ю ў Нямеччыну. І тут ён знайшоў шмат цярплівасьці й сілы волі, каб зарганізаваць беларускую сярэднюю школу й даць магчымасьць беларускай моладзі ў лягерох перамяшчэньня вучыцца. Яго галоўнаю мэтаю было пашыраць беларускае слова на чужыне, выцягнуць моладзь зь лягернае бяздзейнасьці й даць ёй надзею на будучыню. Ён сам асабіста стараецца навязаць сяброўскі кантакт з моладзьдзю, наладжваць зь ёю спатканьні ды пераконваць яе аб небходнасьці прадаўжэньня перарванай вайною навукі. Яго бацькоўскі падыход і сіла перакана734ньня зрабіла свой уплыў на беларускую моладзь.

Др. Аляксандар Орса ды іншыя беларускія настаўнікі, якія апынуліся на эміграцыі, арганізуюць Беларускую Гімназію імя Янкі Купалы. Дырэктарам гэтае гімназіі становіцца др. А. Орса. Гэтую сярэднюю беларускую школу за час яе існаваньня наведала прыблізна 200 вучняў, зь якіх многа атрымала вышэйшую асьвету ў розных унівэрсытэтах заходняга сьвету.

Многія абсальвэнты гімназіі імя Янкі Купалы працуюць у розных грамадзкіх беларускіх арганізацыях самаахвярна й з упартым пасьвячэньнем. Даў ім натхненьне да гэтай працы іх любімы й шанаваны настаўнік і ідэяліст беларускай справы, др. А. Орса.

У другой палавіне 1949 году, др. А. Орса разам з сваёю сям'ёю эмігруе зь Нямеччыны ў ЗША. Без ніякіх фінансавых сьродкаў, бяз веды ангельскай мовы, ён пачынае жыцьцё ў чужой па культуры краіне. На пачатку працуе як стораж дому, пасьля пазнаёміўшыся бліжэй з ангельскаю моваю, ён атрымоўвае працу лябаранта пры жыдоўскім шпіталі ў Брукліне. Неўзабаве др. А. Орса канчае курсы рэнтгеналёгаў.

Нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцьця, у хуткім часе пасьля прыезду ў ЗША, др. Орса кідаецца ў вір беларускага грамадзкага жыцьця. Першым крокам ягонай актыўнасьці была арганізацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня; ён зьяўляецца адным зь сяброў-закладчыкаў гэтай арганізацыі. Дацаняючы належную ролю царквы ў жыцьці беларускай эміграцыі, др. А. Орса прыймае актыўны ўдзел у арганізацыі першай парахвіі Беларускай Аўтакефальнай Царквы ў Нью Ёрку, будучы адным зь сяброў-закладчыкаў гэтай парахвіі. Ён таксама, разумеючы

значэньне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі й яе рэпрэзэнтацыю й бязупыннае змаганьне за слушныя правы беларускага народу да самавызначэньня на міжнародным форуме, бярэ на сябе абавязкі старшыні сэктару БНР у штаце Нью Ёрк. Пазьней выконвае функцыю сакратара асьветы БНР, для якой ён пасьвяціў амаль усё сваё жыцьцё й якая была асноўным матывам ягонай усёй грамадзкай дзейнасьці для беларускага народу.

Яго цэлая сям'я таксама была й ёсьць прыкладам адданасьці служэньню свайму народу. Жонка — Натальля, нягледзячы на дрэнны стан здароўя прыймае вельмі актыўны ўдзел у розных беларускіх жаночых арганізацыях. Яна таксама зьяўляецца сябрам Рады БНР. Старэйшая дачка, сьвятой памяці Галіна Орса, была удзельніцай многіх беларускіх ансамбляў сьпеву, бяручы таксама актыўны ўдзел у царкоўным хоры. Была яна дзейнаю й у розных грамадзкіх беларускіх арганізацыях. Малодшая дачка др. Алла Орса-Рамано зьяўляецца кіраўнічкаю беларускай танцавальнай групы моладзі. Гэтая танцавальная група ведамая сярод беларусаў і не беларусаў у многіх штатах Амэрыкі й Канады.

Такім чынам уся сям'я др. А. Орсы пайшла па сьлядох вялікага настаўніка й прадаўжае ягоную працу для дабра беларускае справы. Няхай-жа прыклад гэтай сям'і будзе вядучаю зоркаю для ўсёй беларускай эміграцыі ў яе працы.

Др. А. Орса адыйшоў ад нас у росквіце сваіх сілаў, пакінуўшы па сабе вялікую спадчыну наступным пакаленьням.

Уся сынтэза працавітага жыцьця др. А. Орсы заключалася ў ягонай самаахвярнай адданасьці свайму народу без увагі на розныя палітычныя кан'юнктуры. Ягоная праца й мудрае пераканаўчае слова адчуваецца ўсюды: тут на эміграцыі й у родным краі. Ён пакінуў свой сьветлы адбітак у душах нязьлічоных беларускіх інтэлігентаў, якія пайшлі па ягонай дарозе й цяпер працуюць на беларускай ніве.

Памяць аб ім будзе жыць вечна, як аб вялікім чалавеку, настаўніку ды праўдзівым сыну беларускай зямлі...

---

Сяргей ПАНІЗЬНІК

## ЛЯ ВЕЖАЎ НАВАГРАДКА

> Самы маленечкі гарадок
> Да тоўстай кнігі падобны...
>
> Вольга Іпатава.

Схавай ты, вежа, і мяне
за шэры загрудак:
пачуць-бы, як ускалыхне
вякі Наваградак...
Маўчаць каменьні й гара,
хоць і варушацца...
Няхай раскрыліцца зара
з чырвонай ружыцы, —
каб нашу памяць
кветка-звон
у шлях паклікала,
каб ведаў кожны маладзён:
зямля — вялікая;
зямля высокая,
і нашы вежы ў добры час
люлялі сокалаў.
Адкуль ідзём? Ад баразны
з малога каліва...
няма наваградзкай сьцяны,
і замак спалены?
Затое мы — саюз вякоў
жывучай спадчыны...
Наваградак — ты меч бацькоў,
ты — песьня матчына.



# НАШАЯ РОДНАЯ МОВА

**(Гістарычныя ўмовы яе ўтварэньня й разьвіцьця)**

Мова — найважнейшы сродак чалавечых зносін. Зь яе дапамогаю людзі пазнаюць навакольны сьвет, выказваюць свае думкі, пачуцьці, перажываньні, дзеляцца практыкай працоўнай дзейнасьці, набытай у працэсе жыцьця грамадзтва. У сваім разьвіцьці мова зьмяняецца й удасканальваецца.

На сьвеце ёсьць каля трох тысяч найбольш вывучаных моваў, сярод іх — 12 славянскіх, якія паходзяць з аднэй агульнаславянскай мовы. У ўсіх славянскіх мовах шмат аднолькавых словаў, якія называюць агульнаславянскімі. Падабенства славянскіх моваў праяўляецца таксама ў фанэтычнай сыстэме й граматычным ладзе.

У гістірычныя часы ўсходнія славяне — продкі сучасных беларусаў, расейцаў і украінцаў складалі адну ўсходнеславянскую сям'ю. Яна мела сваю мову — усходнеславянскую.

Беларуская мова — адна із славянскіх моваў. Шлях яе разьвіцьця быў складаны, з рознастайнымі перашкодамі. У канцы XI — пачатку XII ст. старажытная сям'я ўсходніх славян распалася.

Беларуская мова, як расейская й украінская, пачала складвацца яшчэ ў XIII ст. Асновай фармаваньня фанэтычнай сыстэмы, слоўніка й граматычнага ладу мовы беларускага народу, стала ўсходне славянская мова зь яе дыялектнымі асаблівасьцямі. Гэтая мова, напрыклад, перадала ў спадчыну беларускай мове такую фанэтычную зьяву, як поўнагалосьсе (**ворага**, **серада**). Некаторыя яе дыялектныя рысы спрыялі таму, што ў беларускай мове ўзьнік і пашырыўся зычны (ў) з былога (в) (праўда, крыўда); склады ро, ло, ле не пад націскам пачалі чаргавацца з ры, лы, лі (гром — грымець, блеск (бляск) — бліскавіца).

Сярод іншых асаблівасьцяў беларускай фанэтыкі, якія разьвіліся ў XIII-XIV ст., можна адзначыць памякчэньне (д), (т) і ўтварэньне мяккіх (дз') і (ц') [дзіця, дзьвесьце], зацьвярдзеньне (р) (прылажыць) і шыпячых (ж), (ш), (ч) (рыжага, служыць, шосты), падаўжэньне зычных (калосьсе, жыцьцё) і інш. Папаўняўся лексічны склад мовы словамі зь мясцовых гаворак, некаторыя словы замянялі агульнаславянскія й ўсходнеславянскія: замест слова (строить) з XIV ст. стала ўжывацца лова (будаваць), замест (видети — бачыць), замест (ждати — чакаць). Слоўнікавы склад узбагаціўся такімі словамі, як: але, даведацца, збожжа, кашуля, млын, нядзеля, помста, справа, сьвітаньне, слушны, твар, хустка й інш. Такім чынам, мова беларускага народу зь яе фанэтычнымі, лексічнымі й граматычнымі асаблівасьцямі склалася ў XIV - XVI ст. і істотна адрозьнівалася ад усходнеславянскае мовы X - XII ст.

У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была дзяржаўнай, на ёй вялася дыпляматычная перапіска, яна была моваю справаводзтва й судаводзтва (летувісы амаль да канца XVI ст. ня мелі сваёй пісьменнасьці). Да нас дайшоў вялікі архіў дзяржаўных актаў (каля 600 кнігаў) «Літоўская Мэтрыка», зборнік законаў і кодэкс права Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1588 гг., напісаных на беларускай мове. На яе перакладалі воінскія й рыцарскія аповесьці, раманы, на ёй пісалі мастацкія й публіцыстычныя творы.

Вялікую ролю ў разьвіцьці старажытнай беларускай мовы адыграла ўзьнікшае ў XVI ст. кнігадрукаваньне. Першым беларускім друкаром, вучоным і асьветнікам быў Францішак Скарына (каля 1490-1551) «з слаўнага горада Полацка». У 1517-1519 гг. ім былі выдадзеныя 23 кнігі Бібліі «для вучэньня простых людзей». Яго кнігі былі пашыраны на Беларусі, у Расейскай дзяржаве ды іншых славянскіх краінах. За Скарыною пайшлі такія дзеячы старажытнай беларускай культуры, як С. Будны, В. Цяпінскі й інш. У тым-жа XVI стагодзьдзі пачалі друкавацца кнігі ў Нясьвіжы (1562), Заслаўі (1571), Слуцку (1580) і іншых гарадох і мястэчках.

У XVI - XVII ст. разьвіцьцю й удасканаленьню беларускае літаратурнае мовы спрыялі лексікаграфічныя працы «Лексисъ» (1596) Л. Зізанія, «Лексиконъ» (1627) П. Бярынды й інш.

Пасьля вуніі Польшчы й Вялікага княства Літоўскага ў Рэч Паспалітую (1569) на Беларусі-Літве ўзмоцніўся нацыянальны й рэлігійны ціск, пачалася палянізацыя й акаталічваньне беларусаў, а беларуская мова памалу абмяжоўвалася ў афіцыяльным ужытку.

Пастановай Варшаўскага сойму 1696 г. беларуская мова забаранялася ў дзяржаўных установах. Беларускія школы й друкарні закрываліся. З гэтага часу рзьвіцьцё літаратурнай пісьмовай мовы спынілася на доўгі час. Аднак народ гаварыў на сваёй роднай мове, ствараў цудоўныя песьні, казкі, легенды, прыказкі й загадкі — гэтыя неацэнныя скарбы народнай мудрасьці, у якіх праўдзіва адлюстроўвалася жыцьцё беларускага народу, яго барацьба за свае нацыянальныя й сацыяльныя правы.

Яшчэ перад XIX ст. пачаўся новы працэс складваньня беларускай нацыі й фармаваньня беларускай нацыянальнай мовы. Разам з гэтым пачалося ажыўленьне новай беларускай літаратуры й літаратурна-пісьмовай мовы. Вялікую ролю ў станаўленьні новай беларускай літаратурнай мовы адыгралі ананімныя паэмы «Энаіда на выварат» і «Тарас на Парнасе», творы В. Дуніна-Марцінкевіча, паэтыдэмакрата Ф. Багушэвіча й інш. Новая беларуская літаратурная мова складвалася на базе фанэтычных, лексічных і граматычных асаблівасьцяў жывых народных гаворак.

Пачатак XX ст. азнаменаваўся рэвалюцыйнымі падзеямі 1905 - 1907 гг. Царскі ўрад быў вымушаны пайсьці на паслабленьне цэнзуры друку. Узьніклі беларускія газэты «Наша доля», «Наша ніва», выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» й інш. На беларускай мове ўбачылі сьвет мастацкія, публіцыстычныя й навуковыя творы. Пачала разьвівацца літаратурная творчасьць Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі ды інш.

Аднак арфаграфічныя, лексічныя, арфаэпічныя й граматычныя нормы толькі выпрацоўваліся. Таму кожны пісьменьнік у сваёй творчасьці шырока выкарыстоўваў багацьці народна-дыялектнай мовы той мясцовасьці, дзе ён нарадзіўся, жыў і працаваў. Найбольш глыбокі ўплыў на разьвіцьцё й фармаваньне нормаў літаратурнай беларускай мовы зрабілі выдатныя беларускія пісьменьнікі Я. Купала й Я. Колас.

Пасьля Першае Сусьветнае вайны пачалося хуткае разьвіцьцё беларускай літаратурнай мовы. Яна стала мовай школы, кіно, радыё. Масавымі тыражамі пачалі выдавацца газэты, часапісы, мастацкая й навуковая літаратура, слоўнікі, падручнікі. У гісторыі станаўленьня нормаў беларускай літаратурнай мовы й яе далейшага разьвіцьця вялікую ролю адыграла «Граматыка беларускай мовы для школ» Браніслава Тарашкевіча (1918). У ёй вызначаныя асноўныя асаблівасьці фанэтыкі й граматычнага ладу беларускай літаратурнай мовы, сфармуляваныя правілы правапісу.



У 1921 годзе была створаная Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія, якой даручалася распрацаваць тэрміны па ўсіх галінах навукі ў аб'ёме сярэдняй школы. Толькі за 1922-30 гг. выдадзеныя 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі па альгебры, батаніцы, геаграфіі, пэдагогіцы, грамадазнаўству, мастацтве, музыцы й г. д.

У 1922 годзе быў заснаваны Інстытут Беларускай Культуры, на базе якога ў 1929 годзе створана Акадэмія навук Беларусі.

У навейшы час беларуская літаратурная мова дасягнула небывалага росквіту. Выпрацаваліся нормы літаратурнай мовы, разьвіліся новыя афіцыйна-справавы й навуковы стылі, удасканаліліся стылі мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

Апошнім часам увага Інстытуту мовазнаўства накіравана на грунтоўнае вывучэньне граматычных нормаў і распрацоўку пытаньняў культуры мовы.

Значным дасягненьнем у справе нармалізацыі лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы зьявілася выданьне «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў 5-ці тамох. Упершыню ў гісторыі ўбачыла сьвет 12-томная Энцыкляпэдыя, у якой зьмешчаны рознастайныя зьвесткі з розных галін ведаў, хоць штопраўда ёсьць у ёй шмат розных непатрэбнасьцяў і недакладнасьцяў. Цяпер на беларускай мове выдаюцца творы пісьменьнікаў многіх народаў сьвету.

Ужо даўно завяршыўся працэс фармаваньня беларускай нацыянальнай мовы, якая мае дзьве рознавіднасьці — літаратурную мову ў яе вуснай і пісьмовай формах і народна-дыялектную зь яе мясцовымі гаворкамі. Літаратурная мова й дыялекты знаходзяцца ў цеснай сувязі й узаемнадзеяньні, але паміж імі ёсьць і пэўныя адрозьненьні.

Л і т а р а т у р н а я мова — гэта адзіная мова на ўсёй тэрыторыі, на якой жыве нацыя. Яна строга ўнармаваная, апрацаваная майстрамі слова: пісьменьнікамі, вучонымі, дзеячамі культуры. Яе нормы рэглямэнтуюцца слоўнікамі, нарматыўнымі граматыкамі, правіламі арфаграфіі й пунктуацыі, падручнікамі. Беларуская літаратурная мова — вышэйшая форма нацыянальнай мовы, бо яна абслугоўвае ўсе сфэры грамадзкага жыцьця народу, яго культуру, навуку, справаводзтва.

Н а р о д н а я - д ы я л е к т н а я мова існуе ў выглядзе рознастайных мясцовых, тэрытарыяльных гаворак, якія зьяўляюцца вуснай формай бытавой мовы. Гаворка — гэта мова аднаго ці некалькіх насельных пунктаў з аднатыпнымі моўнымі рысамі. Блізкія між сабою мясцовыя гаворкі пэўнай тэрыторыі аб'ядноўваюцца ў групы, а групы — у дыялекты, якія зьяўляюцца часткай агульнанароднай мовы. Аднак кожны тэрытарыяльны дыялект мае спэцыфічныя рысы ў лексіцы, фанэтыцы, марфалёгіі й сінтаксісе, якімі ён адрозьніваецца ад іншых дыялектаў і літаратурнай мовы.

У беларускай мове наглядаюцца два дыялекты: паўночна-ўсходні й паўднёва-заходні. Кожны зь іх мае свае спэцыфічныя лексічныя, фанэтычныя й граматычныя рысы, якія то супадаюць, то не супадаюць з рысамі літаратурнай мовы. У некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту (тэрыторыя Віцебшчыны, большая частка Магілёўшчыны й паўночныя раёны Меншчыны) ўжываюцца словы: маліц (хлопец), гален (венік), гарлач (збанок), волак (невад); вымаўляюць: ныга (нага), сістра (сястра), зімля (зямля); парасёнак (парася), цялёнак (цялё-я) нясець (нясе),

бярэць (бярэ). У гаворках паўднёва-заходняга дыялекту (паўднёвыя раёны Меншчыны, у большай частцы Горадзеншчыны, Гомельшчыны ды Берасьцейшчыны) пачуем: нябога (пляменьніца), худоба (буйная рагатая жывёла), шуляк (каршун), сено (сена), буў (быў), гавечка (авечка), чытацьму (буду чытаць), дзьве карове (дзьве каровы). Паміж паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім дыялектамі вылучаюцца сярэднебеларускія гаворкі, якія праходзяць паласою праз цэнтральную частку Беларусі з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход: гэта гаворкі Ашмянскага, Валожынскага, Маладэчынскага, Койданаўскага, Менскага, Лагойскага, Барысаўскага, Рагачоўскага ды іншых раёнаў.

Дыялекты маюць агульныя рысы зь літаратурнай моваю й рысы, якія адрозьніваюць іх паміж сабою. Так, большасьці беларускіх гаворак і літаратурнай мове ўласьцівыя аканьне (стол - стала) й яканьне (зелень - зялёны), дзеканьне (сад - у садзе) й цеканьне (хата - у хаце), зацьвярдзеньне (ж), (дж), (ч), (ш), (р) і этымалягічнага (ц). І ў гаворках, і ў літаратурнай мове вялікая колькасьць слоў агульная, зьменныя часьціны мовы маюць тры роды (мужчынскі, жаночы й ніякі), два лікі (адзіночны й множны). У гэтым і выяўляецца адзінства беларускай нацыянальнай мовы.

Нястомным зьбіральнікам народнай лексікі быў Янка Насовіч — аўтар «Словаря белорусского наречия» (1870), у якім звыш 30 тысяч слоў, запісаных у большасьці на Магілёўшчыне. Усебаковае вывучэньне беларускіх гаворак зьвязана зь імем заснавальніка беларускага мовазнаўства Яўхіма Карскага.

У цяперашні час узровень народнай асьветы й валоданьне нормамі літаратурнай мовы спрыяюць паступоваму сьціраньню дыялектных асаблівасьцяў. Але й цяпер жывая народная мова — гэта крыніца літаратурнай мовы.

**Мікола Гайдук** (Беласточчына)

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА "СЛОВА"

Адным зь першых, хто выказаўся ў друку, што «Песьня або Слова» пра паход Ігаравы напісана на беларускай мове невядомым паэтам», быў паэт і гісторык Людвіг Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля). Яго думку падтрымаў вядомы вучоны-славіст Пётра Бяссонаў, які ў 1871 годзе сьцьвярджаў: «Мову сваю Беларусь дала большай частцы іншых... народнасьцяў, а з мовай — пісьменнасьць...», бо якраз на Беларусі ў старажытныя часы «народныя звычаі разьвіваліся бесперашкодна й да падрабязнасьцяў творчасьць кіпела багатымі сіламі; песьняй і вершам, яе шырокім і ня доўгім, а ў тысячах відаў; прыгожым і часткова жартоўным характарам напаўняўся ўвесь гэты бачымы й нябачымы вобраз народнага жыцьця» й у гэтых абставінах узьнікла на Беларусі «Слова пра паход Ігаравы».

Аўтар першага падручніка па гісторыі «старадаўняй беларускай літаратуры» праф. Мікола Янчук «Слова» назваў «высокамастацкай песьняй невядомага аўтара» й далей падкрэсьліваў, што пільны чытач «адразу заўважыць на гэтай «Песьні» беларускую афарбоўку, пабачыць асаблівасьці, характэрныя для нашай краіны».



Нашага выдатнага земляка, бо, як вядома, М. Янчук нарадзіўся ў вёсцы Корніца над Бугам, падтрымаў і ўдакладніў заслужаны дасьледчык беларускіх гаворак праф. Павал Растаргуеў. У сваёй працы ён даказаў, што «Слова» напісана «на мове Северскай беларускай зямлі». Северскай беларускай мовай П. Растаргуеў называе беларускую гаворку, «якая бытуе на тэрыторыі былых паўночных паветаў Чарнігаўскай губэрні, гэта значыць на тэрыторыі Мглінскага, Навазыбкаўскага, Старадубскага й Суражскага паветаў і гаворка заходняй паласы Трубчэўскага павету былой Арлоўскай губэрні (гэтая тэрыторыя ў XII-XIII ст. ст. уваходзіла ў Ноўгарад-Северскае й Трубчэўскае княствы, цяпер яна знаходзіцца ў складзе Бранскай вобласьці Расейскай СФСР — М. Г.)... Северска-беларуская мае шэраг рысаў, агульных з паўднёва - заходнімі беларускімі гаворкамі й невядовых іншым чыстым гаворкам Беларусі».

Таксама вучоныя-фальклярысты пацьвярджаюць беларускі радавод фальклёрных элемэнтаў у «Слове». А беларускі гісторык літаратуры Сьцяпан Майхровіч на падставе досьледаў сьцьвердзіў «кроўнае сваяцтва паэтычнай стылістыкі, лексікі й фразаалогіі «Слова...» з вуснай мастацкай творчасьцю беларускага народу».

На падставе грунтоўнага аналізу гістарычных падзеяў XII-XIII ст. ст. у Эўропе й Азіі й адносін да іх аўтара «Слова» савецкі гісторык Леў Гумілёў прыйшоў да вываду, што гэты твор быў напісаны паміж 1249-1256 гадамі, калі землі Паўночна-Усходняй і Паўднёва - Заходняй Русі знаходзіліся ў татарскай няволі.

І фактычна, гады 1249-1256 былі вельмі трагічным часам на захопленых татарамі рускіх землях, ім найболей якраз адпавядала сказанае аўтарам «Слова», што тады «на Рускай зямлі рэдка пяяў аратай, але вараньнё пакрумквала часта, дзелячы тру'ё між сабою, а галіцы гоман заводзілі свой, на ежу ляцелі зьбіраючыся». Вінаваты ў гэтай трагедыі свае князі, якія міжусобнымі братабойчымі войнамі абяскровілі ды аслабілі айчыну, «а паганыя (інакш татары, бо полаўцы ў асноўным былі праваслаўнымі хрысьціянамі — М. Г.) самі адны, зь перамогамі навалiўшыся на Рускую зямлю, дань вымагалі па белцы з двара» (полаўцы ніколі не здолелі абкласьці Русі данінамі, але такую даніну сьцягвалі з Русі якраз татары — заўважае Л. Гумілёў). Такім чынам, паэт прыкладамі зь мінулага й закамуфляванымі, іншасказальнымі вобразамі заклікаў усю Усходнюю Эўропу да яднаньня з краінамі Заходняй Эўропы на барацьбу супраць татараў. Пры тым ён паказваў, што яднацца трэба з чэхамі, немцамі, вэнэцыянамі й грэкамі (эўрапэйская частка Візантыі разам са сталіцай Канстантынопалем былі тады ва ўладаньні заходнеэўрапейскіх крыжаносцаў і вэнэцыянцаў). Значыць, аўтар «Слова» заклікаў яднацца ў тую кааліцыю супраць татараў, якую намагаўся стварыць папа рымскі Інакенці IV (ягоны пантыфікат працягваўся з 1243 па 1254 гады). З гэтай мэтай папа ўзьвёў у каралі ў 1253 годзе вялікага князя літоўскага Міндоўга й князя галіцка-валынскага Данілу Раманавіча, а папскія дыпляматы рабілі стараньні, каб прыхіліць да гэтай-жа кааліцыі князя Аляксандра Неўскага, які тады княжыў у заможным Ноўгарадзе, а таксама іншых князёў Паўночна-Усходняй Русі.

Вось чаму ў «Слове» надзвычай красамоўна ўслаўляюцца князі: галіцкі Яраслаў Асмамысл і валынскі Раман Мсьціслававіч — папярэднікі Данілы Раманавіча па княжэньні ў разлеглым Валынска-Галіцкім княстве, а таксама ўладальніка аграмаднага й заможнага Уладзіміра-Суздальскага княства, Усевалода — бацьку сварлівых князёў, якія ў палове XIII ст. панавалі ў Паўночна-Усходняй Русі. Тым больш не выпадкова ў «Слове» цэнтральнае месца займае Полацкае княства й яго князі —

гэта-ж вялікі князь літоўскі Міндоўг свой род выводзіў з княскай дынастыі Рагвалодавічаў і яго продкам лічыўся легендарны князь полацкі Усяслаў! Прытым варта адзначыць, што многія рысы ў вобразе Усяслава нагадваюць асобу Міндоўга — цэнтральную фігуру ў фармаванай папам кааліцыі супраць татараў.

Усё гэта дае падставу меркаваць, што аўтарам «Слова» быў высокаадукаваны саноўнік вялікага князя літоўскага Міндоўга. Ён быў чалавекам грунтоўна азнаёмленым зь вельмі складаным і багатым канфліктамі мінулым роднай яму Усходняй Славяншчыны, яе літаратурай, фальклёрам, абычаямі, добра арыентаваўся ў мінуўшчыне й сучаснасьці бліжэйшых і далейшых суседзяў Вялікага Княства Літоўскага, не чужымі былі яму таксама справы тагачаснай міжнароднай палітыкі й густы ў эўрапэйскай літаратуры й культуры. Паэт паходзіў зь беларусамоўнай часткі Ноўгарад-Северскага або Трубачэўскага княстваў, якія непасрэдна межавалі з уладаньнямі татарскага хана Батыя, таксама, як раней межавалі з полаўцамі. Гэтым землям таксама, як і Вялікаму Княству Літоўскаму ды ўсёй Эўропе, пагражала сьмяротная небясьпека з боку татараў. Хто-ж тады мог ведаць, што праз некалькі год татарскім ханам уздумаецца рушыць у «жоўты паход» у Малую Азію, на Багдад, а не ў Эўропу?

«Слова» было напісана ў Наваградку — тадышняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — падчас прабываньня яго аўтара пры князю Міндоўгу. Рыцарскімі прыгодамі Ігара з 1185 г. ён пакарыстаўся як канвой для выказаньня важных палітычных думак цэлай партыі дзяржаўных дзеячоў пры Міндоўгу, якая была зарыентавана на Захад. Пра Ігаравы паход памяталі ўсе землі Усходняй Славяншчыны, пра яго пісалі летапісцы, мабыць, складаліся легенды й песьні. Такі прыклад быў надзвычай зручны для распаўсюджваньня ідэяў і яднаньня ім прыхільнікаў, нават бясьпечна было зьвярнуцца з заклікам: «Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысьціян на войска паганых!» — гэта значыць: на татарскае войска. І прытым не баяцца быць патаемна зарэзаным прыхільнікамі татараў; а яны, несумненна, знаходзіліся ў акружэньні Міндоўга. Ды й ня быць пакараным самым вялікім князем літоўскім, бо ён імкнуўся захоўваць мірныя суадносіны з ханам Батыем і яго сынам Сартаком і нічым не правакаваць іх да нападу на Вялікае Княства Літоўскае.

Неабходна дадаць і тое, што за імкненьнямі папы Інакенція IV стварыць антытатарскую кааліцыю скрывалася яго намаганьне праз вунію падпарадкоўваць каталіцкаму Рыму праваслаўную царкву Усходняй і Паўднёвай Славяншчыны. Гэтыя імкненьні Апостальскай сталіцы не карысталіся папулярнасьцю на ўсходнеславянскіх землях. Таму з заклікам да яднаньня Усходняй Славяншчыны з Заходняй Эўропай у кааліцыю, трэба было выходзіць вельмі асьцярожна й умела, а яшчэ больш далікатна неабходна было прапаведваць ідэю вуніі праваслаўя з каталіцтвам. І гэта па-майстэрску зрабіў невядомы па імені й прозьвішчу наваградзкі аўтар «Слова», пра якое мой незабыўнай памяці прафэсар і дэкан Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Міхась Ларчанка сьцьвярджаў: «Беларуская старажытная літаратура ў яе прагрэсыўным напрамку выйшла са «Слова пра паход Ігаравы»...





# Слова
## ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ

А ці ня лепей, братове,
пачаць у спрадвечным слове
мужны сьпеў пра паход Ігара,
Сьвятаслава сына?
І пачаць сьпеў гэты нашча
па былях дня нашага,
а не па надуме Баяна!
Бо вешчы Баян калі
хацеў каго ўзьнесьці ў сьпеве,
дык расьцякаўся ваверкай па дрэве,
шэрым ваўком па зямлі,
шызым арлом пад аблокамі.
Бо, казаў, памятаць собіла
першых часін усобіцы.
Тады выпускаў высока
на чараду лябёдак дзесяць сокалаў,
якую лябёдку даганялі,
тая першая песьню слала
старому Яраславу,
харобраму Мсьціславу,
што зарэзаў Радзедзю перад палкамі
касожскімі,
Раману слыннаму,
Сьвятаслававу сыну.
Баян-жа, братове, ня дзесяць сокалаў
выпускаў на чараду лябёдак
высока,
а свае ксты вешчыя
клаў на струны жывыя,
вечныя;
яны-ж самі ў далі
славу князям ракаталі.
Пачнем-жа, братове, аповесьць гэтую
ад старога Ўладзімера да нашага Ігара,
што розум свой выверыў цьвёрдасьцю
і вывастрыў мужнае сэрца гордасьцю,
і, ратнага духу поўны,
палкі харобрыя павёў
на зямлю Палавецкую
за зямлю Рускую.

О Баяне, салавею старога часу!
Якую-б даў ты паходам акрасу,
скачучы, салавею, па дрэве думкі
высока,
залятаючы думкаю пад аблокі,
зьвіваючы абое сувоі славы нашага часу,
блукаючы па сьцяжыне Траяна
церaз палі на горы.
Так-бы ва ўнука Велеса
песьня Ігару пелася:
"Ня бура занесла сокалаў
церaз палі шырокія —
чароды галак спуджана ўцякаюць
да Дону вялікага".
Ці так-бы песьню пачаў ты,
вешчы Баяне,
унуча Велесаў;
"Коні іrзуць за Сулою,
зьвініць слава ў Кіеве:
трубяць трубы ў Новагорадзе,
стаяць сьцягі ў Пуціўлі!"
Ігар чакае любага брата Ўсевалада.
І сказаў яму буй тур Усевалад:
"Адзін брат, адзін сьлед,
адзін сьветлы сьвет —
ты, Ігару!
Абодва мы — Сьвятаслававічы!
Сядлай, браце,
сваіх борздкіх коней старанна,
а мае дык гатовы,
ля Курска раней асядланы.
А куране мае — воіны бывалыя,
пад трубамі спавіваныя,
пад шаломамі ўзьлюляныя,
з канца дзіды ўскормленыя,
шляхі ім вядомыя,
яры ім знаёмыя,
лукі ў іх напяты,
калчаны адчынены,
шаблі навостраны чынна;
ваўкамі шэрымі скачуць у полі самі,
шукаючы шаны сабе, а князю славы".
Тады Ігар зірнуў
на сьветлае сонца
і ўбачыў усіх сваіх вояў,
акрытых цемрай густою.
І казаў тады Ігар
да дружыны свае:



"Братове й дружыне!
Лепей пацятымі быць,
чым паддацца палону;
а ўсьсядзем, братове,
на сваіх борздкіх коней,
ды пагляд данясем свой
да сіняга Дону".

Саступіў розум князеў
жаданьню,
і засланіла знак наклікaны
ахвота дапасьці да Дону вялікага.
"Хачу, —кажа, — дзіду пераламаць
на Палавецкім полі шалёным,
з вамі, русічы, хачу сваю галаву злажыць,
альбо напіцца шаломам з Дону".
Тады князь Ігар уступіў у залатое стрэмя
і паехаў па чыстым полі.
І заступіла шлях яму сонца сьляпое;
ноч разбудзіла птушак стогнамі навальніцы;
сьвіст зьвярыны прачнуўся,
дзіў пасьпеў перахапіцца —
на вяршаліне загадвае ўслухацца
зямлі незнаёмай, як наракае,
Волзе,
і Памор'ю,
і Пасульлю,
і Суражу,
і Корсуню,
і табе, ідале Тмутараканскі!
І полаўцы дарогамі дзікімі
пабеглі да Дону вялікага:
крычаць калёсы ў поўначы недзе
крыкам распуджаных лебедзяў.
Воінаў Ігар вядзе да Дону.

Пасуць ужо на дубах бяссонна
птушкі бяду ягоную;
Ваўкі ў ярах страх навываюць,
арлы клёкатам клічуць зьвяроў
касьцямі жывіцца;
на шчыты чырвоныя брэшуць лісіцы.

О Руская зямля! Ужо ты за пагоркам!

Ноч гасьне доўга.
Сьвятло разьліла зараніца,
імгла палі спавіла.

Заснуў салаўіны шчокат,
абудзіўся голас галак нямлявы.
Русічы палі вялікія шчытамі чырвонымі
перагарадзілі,
шукаючы шаны сабе,
а князю — славы.

У пятніцу зрана
патапталі яны палавецкія палкі паганыя
і, па полю стрэламі рассыпанымі палавеючы,
памкнулі красных дзевак палавецкіх,
а зь імі золата,
і па́валакі,
і дарагія аксаміты.
Акрываламі,
і затуламі,
і кажухамі
яны ў ахвоту масьцілі
балоты і топістыя мясьціны,
гацілі палавецкімі ўборамі сьмела.
Чырвоны сьцяг,
харугву белую,
чырвоную грыўку,
срэбную зброю — вою
хmajораму Сьвятаслававічу!

Дрэмле ў полі Алегава гняздо харобрае.
Заляцела далёка!
Не на крыўду было народжана
ні сокалу,
ні крэчату,
ні табе, чорны воран,
паганы полавец!
Гзак бяжыць шэрым ваўком апрыклым,
Канчак яму правіць сьлед да Дону вялікага.

Другога дня вельмі рана
вестку сьвету дае крывавы сьвітанак:
чорныя хмары з мора сунуцца соўма,
хочуць акрыць чатыры сонцы,
а ў іх б'юцца сінія маланкі.
Быць грому вялікаму, быць ліху,
ісьці дажджу стрэламі з Дону вялікага!
Тут дзідам пераламацца,
тут шаблям павышчарбіцца ў запале
аб шаломы палавецкія,
на рацэ на Каяле,
ля Дону вялікага!



О Руская зямля! Ужо ты за пагоркам!

Вятры, Стрыбогавы ўнукі старэнныя,
веюць з мора стрэламі
на харобрыя палкі Ігаравы.
Зямля гудзе,
рэкі мутна цякуць,
пыл палі ахінае,
сьцягі гавораць:
полаўцы ідуць ад Дону,
і ад мора,
і з усіх бакоў рускія палкі абступілі.
Дзеці д'яблавы перагарадзілі палі галасамі,
а харобрыя русічы перагарадзілі
чырвонымі шчытамі.

Яр туру Ўсеваладзе!
Стаіш у віры бою,
стрэламі пырскаеш ты на вояў,
грыміш аб шаломы харалужнымі мечамі.
Куды, тур, паскачаш,
сваім залатым шаломам пасьвечваючы,
там ляжаць палавецкія галовы паганыя.
Калёнымі шаблямі шаломы аварскія
пашчапаныя
ад цябе, яр туру Ўсеваладзе!
Якая рана баліць, братове,
таму, хто забыўся на шану й на багацьце,
і ў Чарнігаве на стол залаты бацькаў,
занядбаў сваёй жаданай краснай Глебаўны
мілосьць і ласку?
Былі вякі Траянавы,
мінулі леты Яраслававы,
былі паходы Алегавы,
Алега Сьвятаслававіча.
Бо той Алег мечам каваў крамолу
і стрэлы па зямлі сеяў.
У залатое стрэмя ўступаў у горадзе
Тмутаракані,
звон гэты чуў сын Яраслаunion
вялікі Ўсевалад, а Ўладзімер
закладваў вушы ў Чарнігаве кожнае раньне.
Барыса-ж Вячаслававіча на суд прывяла слава
і на Каніну травы зялёнае акрывала паслала
для вечнага начлегу
хобраму маладому князю
за крыўду Алега.
Сьвятаполк з той Каялы

бацьку свайго прывёз у спакоі,
люляючы між угорскімі інаходцамі,
да Кіева да Сафіі сьвятое.
Тады пры Алезе Гарыслававічы
засявалася ўсобіцамі й прарастала,
занепадала спадчына Даждзьбогава ўнука,
у княскіх крамолах караціўся век чалавечы.
Тады па Рускай зямлі пераклікаліся рэдка
ратаі,
ды часта вораны граялі,
трупы дзелячы між сабою,
а галкі сваё гаварылі звычна,
хочучы паляцець на здабычу.
Гэта было ў тыя раці і ў тыя паходы,
а такой раці не чуваці!
Зраньняга раньня да вечара
зь вечара да сьвітаньня,
ляцяць стрэлы калёныя,
грымяць шаблі аб шаломы,
трашчаць дзіды харалужныя
у полі незнаёмым
сярод зямлі Палавецкай.
Чорная зямля пад капытамі засеяна
была касьцямі
і паліта крывёю:
яны ўзыйшлі на Рускай зямлі тугою.
Што мне шуміць,
што мне зьвініць —
здалёку чуецца да сьвітаньня?
Ігар палкі заварочвае:
бо любага брата Ўсевалада шкада яму.
Біліся дзень,
біліся другі:
трэцяга дня апоўдні палі Ігаравы сьцягі.
Тут два браты разлучыліся на беразе
быстрай Каялы;
тут стала крывавага віна мала;
тут пір дакончылі харобрыя русічы:
сватоў напаілі набеглых, а самі палеглі
за зямлю Рускую.
Нікне трава ад жалю,
а дрэва з тугою да зямлі схілілася.
А ўжо-ж, братове, не вясёлая настала часіна,
ужо сілу пустыня схавала.
Устала крыўда ў войску Даждзьбогава ўнука,
на зямлю Траянаву дзевай ступіла,
усплёснула лебядзінымі крыламі
на сінім моры ля Дону;



спудзіла, ўсплёснуўшы, часіны сытыя.
Усобіца войны князёў з паганымі супыніла,
бо сказаў брат брату, ня тоячыся:
"Гэта маё, таксама маё й тое ўсё".
І пачалі князі пра малое
"гэта вялікае" мовіць,
і каваць самім на сябе крамолу.
А паганыя з усіх бакоў прыходзілі
з перамогамі
на зямлю Рускую.

О, далёка сокал дапаў, птушак б'ючы, —
да мора!
А Ігаравага харобрага палка ўваскрэсіць
ня можна!
Па ім закрычала Карна, і Жля ў зьнямозе
паскакала па Рускай зямлі,
сеючы людзям гора зь пякельнага рога,
жанкі рускія ў горы заплакалі,
прыгаворваючы:
"Ужо нам сваіх любых ладаў
ні ўяваю ўявіць,
ні думаю здумаць,
ні вачыма згледзець,
а золата й срэбра й зусім не пакратаць".
А застагнаў бо, братове, Кіеў тугою,
а Чарнігаў напасьцямі.
Жальба па Рускай зямлі разьлілася;
смутак густа пацёк сярод зямлі Рускай.
А князі на сябе самі крамолу кавалі,
а паганыя самі,
зь перамогамі нарыскваючы
на зямлю Рускую,
з двара па белі даніну бралі.

Бо тыя два харобрыя Сьвятаслававічы,
Ігар і Ўсевалад,
ужо разбудзілі падступнасьць звадамі,
а яе прыспаў было бацька іхні,
Сьвятаслаў грозны вялікі Кіеўскі,
грознасьцю, каб заціхлі:
прыбіў сваімі палкамі дужымі
і мечамі харалужнымі,
наступіў на зямлю Палавецкую,
прытаптаў і яры, і пагоркі,
узмуціў рэкі й вазёры,
высушыў балоты й патокі.
А паганага Кабяка з лукі мора,

ад жалезных вялікіх палкоў палавецкіх,
як віхор, вырваў, —
і паў Кабяк у горадзе Кіеве,
ў грыдніцы Сьвятаслававай.
Тут немцы і венецічы,
тут грэкі і маравы
пяюць славу Сьвятаславу,
каюць князя Ігара,
што нáбыці, а нямала, патапіў на дне Каялы,
ракі Палавецкай,
рассыпаў золата рускае.
Тут Ігар-князь перасеў зь сядла залатога
ў сядло нявольніцкае.
І ад стогну засмуціліся ў гарадоў забаролы,
а весялосьць маркота забрала.

А Сьвятаслаў мутны сон бачыць
у Кіеве на горах.
"У гэтую ноч зь вечара мяне апраналі, —
гаворыць, —
чорным акрывалам
на ложы цісавым;
чэрпалі мне сіняе віно,
зьмяшанае з горам;
з пустых калчаноў паганцаў
буйным жомчугам абсыпалі мяне
і ласкаю суцяшалі.
Ужо без князька дошкі
ў маім золатаверхім цераме.
Усю ноч зь вечара
ля Плесеньска на балоні граялі
вароны шэрыя,
і крылялі з-пад лесу да сіняга мора".
І князю баяры сказаць схацелі:
"Ужо твой розум запаланіла гора,
бо гэта два сокалы зьляцелі
з прастолу бацькоўскага залатога
здабыць Тмутараканя-горада,
альбо напіцца шаломам з Дону.
Ужо сакалам паганых шаблі
крылкі падсеклі бяз жалю,
а саміх спуталі
жалезнымі путамі.
Бо цёмна было ў трэйці дзень:
два сонцы прыцьмелі,
абодва барвяныя слупы пагасьлі,
і зь імі два маладзікі ясныя
цемраю завалакліся



і ў мора абнізіліся,
і вялікую дзёрзкасьць паганцам дазволілі.
На рацэ на Каяле цемра над сьвятлом
сілу займела —
па Рускай зямлі распасьцерліся полаўцы,
быццам гайно гэпардаў.
Ужо на славу апала пагарда;
Ўжо насела сіла на волю;
Ўжо дзіў зямлю разбудзіў.
Бо гоцкія красныя дзевы
на беразе сіняга мора запелі:
звонячы золатам рускім,
часіну ўслаўляючы Бусаву,
пялегваючы помсту за Шарукана.
Тады вялікі Сьвятаслаў
сказаў залатое слова,
са сьлязамі зьмяшанае:
"О сыноўча мае, Ігару і Ўсеваладзе!
Рана вы пачалі зямлю Палавецкую
мечамі цьвяліць,
а сабе славы шукаць.
Ды не па чэсьці адолець змаглі,
не па чэсьці кроў пралілі.
Харобрыя вашыя сэрцы
зь цьвярдога булата каваны
і ў сьмеласьці гартаваны.
Што-ж нарабілі вы з маёй срэбранай
сівізною?
А ўжо ня бачу ўлады
магутнага,
ды багатага,
ды многавоіннага
брата майго Яраслава,
з чарнігаўскімі асілкамі,
з магутамі,
і з татранамі,
і з шальбэрамі,
і з тапчакамі,
і з равугамі,
і з альбэрамі.
Бо тыя без шчытоў, з нажом за халявай,
палкі клікам перамагаюць,
звонячы ў прадзедаўскую славу.
Ды вы сказалі: "Памужэем самі:
даўнюю славу сабе прысвоім,
а наступную самі падзелім!"
А ці ня дзіва, братове, памаладзець старому?
Калі сокал пер'е мяняе,

высока птушак зьбівае:
ня дасьць гнязда свайго ў крыўду.
Ды зло найшло — князі мне не дапамагаюць:
насталі часіны ганебныя.
Пад шаблямі палавецкімі крычаць
ля Рымава,
а Ўладзімер пад ранамі.
Туга й гора сыну Глебаву!"

Вялікі княжа Ўсеваладзе!
Ці-ж і думкай табе здалёку прыляцець
не змагчы
бацькаў стол залаты паберагчы?
Бо можаш ты вёслами распырскаць Волгу,
а Дон выліць шаломамі!
Калі-б быў ты тут,
дык была-б раба па нагаце,
а раб па рэзані,
Бо лацьвей табе посуху страляці
жывымі стрэламі —
адважнымі сынамі Глебавымі.

Ты, буй Рурыча, і Давыдзе!
Ці ня вашыя воі слаўныя
залочанымі шаломамі па крыві плавалі?
Ці ня ваша дружына харобрая
рыкае, як туры,
параненыя калёнымі шаблямі
на полі незнаёмым?
Дык уступеце-ж імасьці, ў залатыя страмёны
за крыўду дня нашага,
за зямлю Рускую,
за раны Ігара,
буйнага Сьвятаслававіча!
Галіцкі Асмамысл Яраславе!
Высока сядзіш як належыць
на сваім з золата кутым прастоле,
падпёр горы Угорскія доле
сваімі палкамі жалезнымі,
заступіўшы шлях каралю,
зачыніўшы Дунаю вароты,
цераз воблакі перакідваючы цяжары,
суды радзячы да Дуная.
Цякуць па землях грозьбы твае цяжкія,
адчыняеш вароты Кіеву,
страляеш з бацькоўскага залатога прастолу
здалёку ў султанаў.
Страляй-жа, імасьць, у Канчака,







кашчэя паганага,
за зямлю Рускую,
за раны Ігаравы,
буйнага Сьвятаслававіча!
А ты, буй Рамане, і Мсьціславе!
Харобрая думка ўзносіць на подзьвіг
ваш розум.
Ты крыляеш высока ў адвазе грозны,
сокалам раскашуесься на вятрах,
хочучы птушку зьбіць у быстрым лёце.
Бо ў вас жалезныя панцыры
пад шаломамі лацінскімі.
Ад іх зямля задрыжэла,
і краіны многія —
Хінава,
Літва,
Яцьвягі,
Дзерамела,
і полаўцы суліцы свае пасклалі,
а галовы свае пасхілялі
пад тыя харалужныя мечы зьнямела.
Бо ўжо, княжа,
Ігару сонца ўначэла ў сьвятле,
а дрэва не на дабро лісьце скінула:
па Росі й па Суле гарады падзялілі.
А Ігараў харобры полк не ўваскрэсіць!
Дон цябе, княжа, кліча
і просіць князёў на падмогу.
Ольгавічы, князі харобрыя, на раць
пасьпелі...

Інгвар і Ўсевалад,
і ўсе тры Мсьціслававічы,
сокалы шасьцікрылыя гнязда не благога!
Вам ня кідала жэрабя перамога —
самі параскрадалі ўладаньні!
Дзе-ж вашыя залатыя шаломы
і суліцы ляшскія
і шчыты?
Загарадзеце дзікаму полю вароты
неаслабла
сваімі вострымі стрэламі
за зямлю Рускую,
за раны Ігаравы,
буйнага Сьвятаслававіча!
Ужо срэбрам цячы перастала
Сула Пераяслаўлю,
і Дзьвіна ўчарнела цячэ

грозным тым палачанам
пад клікам паганых.
Толькі адзін Ізяслаў, сын Васількаў,
сваімі мечамі вострымі быў у сіле
пазваніць аб шаломы літоўскія.
Прыбіў ён славу дзеда свайго Ўсяслава,
а сам пад шчытамі чырвонымі
на траве крывавай
быў прыбіты літоўскімі мечамі
і ўчуў голас вешчы:
"Дружыну тваю, княжа,
птушкі крыламі ўбралі,
а зьвяры кроў палізалі".
Ня было тут брата Брачыслава,
ні другога — Ўсевалада.
І адляцела яго душа жамчужная
з харобрага цела
праз залатое аплечча.
Зажурыліся галасы,
весялосьць панікла,
трубы трубяць гарадзенскія.

Яраслававы ўсе ўнукі й Усяслававы!
Абнізьце сьцягі свае зрэджаныя,
схавайце мечы свае вярэджаныя.
Выпалі вы зь дзедаўскай славы, як сокалы
голыя.
Бо вы сваімі крамоламі
пачалі наводзіць паганых
на зямлю Рускую,
на Ўсяслававу нáжыць.
Вашыя ўсобіцы прывялі
гвалт ад зямлі Палавецкай!
На сёмым веку Траяна
кінуў жэрабя Ўсяслаў маўкліва
на любую сваю абраную.
Ды сабраў коней хітрасьці рана
і скочыў да горада Кіева
і дакрануўся дзідаю
да залатога прастола кіеўскага.
Скочыў ад іх лютым зьверам
апоўначы з Белгорада,
сінім воблакам ахінуўся,
урваў тры разы ён удачу,
вароты Новагорада адчыніў,
разьбіў славу Яраславу,
скокнуў ваўком хутка
да Нямігі з Дудутак.



На Нямізе галовы сьцелюць снапамі,
харалужнымі малоцяць цапамі,
жыцьцё кладуць на таку зьлюцела,
веюць душу ад цела.
Нямігі крывавыя берагі
ня збожжам былі засеяны ізноў —
засеяны косьцьмі рускіх сыноў.
Усяслаў-князь людзям чыніў суды,
радзіў князям гарады,
а сам уночы ваўком рыскаў
зь Кіева пасьпяваў да пеўняў да Тмутараканя,
Хорсу вялікаму шлях перацінаў.
Яму ў Полацку пазвоняць ютрань рана
ў званы ў сьвятое Сафіі,
а ён той звон чуе ў Кіеве.
Хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе,
ды часта ад бедаў цярпеў ён.
Яму вешчы Баян
прымаўку мудрую даўно склаў:
"Ні хітраму,
ні спрытнаму,
ні чарадзею дасьціпнаму
суда Боскага ня мінуць".

О, стагнаць Рускай зямлі,
ўспамінаючы часіны першыя
і першых князёў!
Таго старога Ўладзімера
нельга было прыкуць да гораў Кіеўскіх:
цяпер-жа сталі сьцягі Рурыкавы,
а другія — Давыдавы,
ды ў розныя бакі палошчуцца ў іх
палотнішчы.
І коп'і пяюць парознаму.
На Дунаі чуцен голас Яраслаўны,
самотнай чайкаю кігіча рана:
"Палячу, кажа, чайкаю па Дунаю,
абмачу белшаўковы рукаў у Каяле,
абатру князю крывавыя яго раны
на целе яго крамяным".

Яраслаўна рана плача
ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
"О ветру, вятрыла!
Чаму імкнеш палавецкія стрэлы згубныя
на сваіх лёгкіх крылах
на воінаў майго любага?
Ці-ж табе аблокамі ня стала прасторы,

караблі люляючы на сінім моры?
Чаму, валадару, весялосьць маю
па кавылю разьвеяў?"

Яраслаўна рана плача
ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
"О Днепра Славуцічу!
Ты прабіў каменныя горы
праз зямлю Палавецкую.
Ты люляў на сабе насады Сьвятаслававы
да Кабяковага стану.
Дык прылюляй, валадару, да мяне мой лёс,
каб ня слала я да яго сьлёз
на мора рана".

Яраслаўна рана плача
ў Пуціўлі на забароле, прыгаворваючы:
"Сьветлае і трысьветлае сонца!
Усім ты цёплае й яснае:
чаму, валадару, паслала свае гарачыя промні
на воінаў любага?
У полі бязводным сьпёкай ім лукі сьцягнула,
бядою ім калчаны затнула?"

Пырснула мора апаўночы,
хмары ад сьмерчаў стогнуць.
Ігару-князю Бог шлях кажа
зь зямлі Палавецкай
у зямлю Рускую,
да бацькавага залатога прастола.

Пагасьлі вечарніцы.
Ігар сьпіць,
Ігару рупіць,
Ігар думкаю поле мерае
ад вялікага Дону да малога Данца.
Сьвіснуў Аўлур апаўночы на каня
за ракою ледзь:
князю загадаў разумець:
князю Ігару ня быць у палоне!
Гўкнула,
грукнула зямля,
зашумела трава,
палавецкія вежы рухацца сталі.
А Ігар-князь паскакаў
у чарот гарнастаем,
на ваду белым гогалем.
На борздкага каня ўскочыў



і саскочыў зь яго ваўком шэрым.
і пабег да лукі Данца,
і паляцеў сокалам пад аблокамі,
б'ючы гусей і лебедзяў
на сьняданьне,
і абед,
і вячэру.
Калі Ігар сокалам паляцеў,
тады Аўлур ваўком пабег,
трусячы сьцюдзёную расу сабою,
бо загналі сваіх борздкіх коней абое.
Данец кажа:
"Княжа Ігару!
Ня мала табе велічы,
а Канчаку нелюбі,
а Рускай зямлі весялосьці".
Ігар кажа:
"О Донча!
Ня мала табе велічы,
што князя люляў на хвалях,
слаў яму траву зялёную
на берагох срэбных,
апранаў яго цёплымі туманамі
пад засеньню зялёнага дрэва;
ты сьцярог яго гогалем на вадзе,
чайкамі на бруях,
чэрнядзямі на вятрох".
Не такая яна, кажа, рака Стугна:
скупую брую маючы,
паглынуўшы чужыя ручаі й патокі,
шэрэйшаю ў вусьці стала
і юначка князя Расьціслава схавала
на дне ля цёмнага берагу.
Плача Расьціславава маці
па маладым сыну.
Ад жалобы кветкі абнылі
і дрэва з тугою да зямлі схілілася.

А не сарокі затраскаталі —
сьледам Ігаравым Гзак з Канчаком едуць.
Тады не граялі вораны,
галкі зьнямелі,
сарокі не траскаталі,
толькі поўзалі зьмеі.
Дзятлы стукам шлях да ракі кажуць,
салаўі вясёлымі песьнямі
сьвітаньне вітаюць.

Кажа Гзак Канчаку:
“Калі сокал да гнязда ляціць,
расстраляем саколіча
стрэламі сваімі залочанымі”.
Кажа Канчак да Гзы:
“Калі сокал да гнязда ляціць,
дык сакалца апутаем
краснаю дзеўкаю”.

І сказаў Гзак Канчаку:
“Калі яго апутаем краснаю дзеўкаю,
ні сакалятка ў нас,
ні краснай дзеўкі ня стане
і пачнуць нас птушкі біць
у Палавецкім стане”.

Сказалі Баян і Хадына,
Сьвятаслававы песьнятворцы
старых часін Яраслава,
Алега-князя ўлюбёнцы:
“Цяжка галаве без плячэй,
важка целу без галавы” —
Рускай зямлі бяз Ігара.
Сонца сьвеціцца на нябёсах —
Ігар-князь у Рускай зямлі;
дзеўкі пяюць на Дунаі —
галасы ўюцца цераз мора да Кіева.
Ігар едзе па Барычаву
да сьвятой Багародзіцы
Пірагошчай.
Рады сёлы, гарады вясёлы.
Пяяўшы славу князям старым,
потым пяяць і маладым.

Слава Ігару Сьвятаслававічу,
буй туру Ўсеваладу,

Уладзіміру Ігаравічу!
Будзьце ў здароўі, князі і дружына,
бароначы хрысьціян
ад паганай чужыны!
Князям слава і дружыне!

Амін!

Мастацкая апрацоўка ў новачасную мову —
**Рыгора БАРАДУЛІНА.**



# НЁМАН

(Прыродазнаўчы нарыс)

Нёман — рака на Беларусі й Летуве, часткова на мяжы з Усходняй Прусіяй. Нёман перадусім, гэта беларуская рака. Даўжыня Нёману ў межах Беларусі 475 км., а агульная даўжыня выносіць каля 937 км. Плошча вадазбору на тэрыторыі Беларусі 37 тысяч км² (без вадазбору ракі Вільля). Рака пачынаецца ў Беларусі пад назвай Нёманец із Стаўбцоўскай раўніны каля вёскі Верх-Нёман Узьдзенскага павету, цячэ ў Гродзенскай вобласьці й Летуве ды ўпадае ў Куршскі заліў Балтыйскага мора. Агульнае падзеньне ракі на Беларусі 96,5 м., а сярэдні нахіл воднай паверхні 0.21%. Аснаўныя прытокі ракі: Уса (даўжыня 115 км.), Сула, Уса (даўжыня 75 км.), Бярэзіна, Гаўя, Дзітва, Лебяда, Котра, Мяркіс, Вільля, Нявежа, Дубіса (справа), Уша, Моўчадзь, Шчара, Зальвянка, Рось, Сьвіслач, Шашупе (зьлева). Гідраграф. сетка на Беларусі больш разьвіта па левабярэжжы ракі.

Звычайна Нёман падзяляюць на 3 часткі: верхняе цячэньне (ад вытоку да вусьця Котры), сярэдняе (ад вусьця Котры да места Коўна), ніжняе (ад Коўна да вусьця). Вадазбор у верхнім і часткова сярэднім цячэньні ў межах Нёманскай нізіны. Вылучаюцца асобныя ўзвышшы (выш. 200-300 м.) Грунты сугліністыя, супяшчаныя, тарфяныя, для рачных далін характэрныя алювіяльныя пяшчана-гліністыя адклады. Вазёрнасьць вадазбору нязначная, найбольшыя вазёры Выганаўскае (на водападзеле Шчары, бас. Нёману й Ясельды, бас. Прыпяці), Рыбніца, Сьвіцязь, Берштаўскае. Лясы (25% тэрыторыі) мяшаныя зь перавагай хвойных парод, памяншаецца колькасьць ёлкі, адсутнічае шэрая вольха, узрастае колькасьць дубу, ёсьць граб. Аснаўныя лясныя масывы ў міжрэччы Нёману й Котры (Гродзенская пушча), на левабярэжжы Нёмана, каля вусьця Шчары (Ліпічанская пушча), у басейне Бярэзіны й Усы (Налібоцкая пушча). Найбольшыя балотныя масывы: Выганашчанскае балота, Карэлічы, Багна-Схеда, Лашанскі торфамасыў, Бярэзінскае балота ды інш.

Даліна амаль да вусьця Сулы невыразная, ніжэй па цячэньні да мяжы зь Летувою пераважна скрынкападобная, у сярэднім цячэньні, на ўчастку паміж вусьцямі Шчары й Чорнай Ганчы (ніжэй вёскі Шэмбелеўцы), дзе Нёман цячэ па ўсходняй ускраіне Гродзенскага ўзвышша, і на тэрыторыі Летувы ў межах Балтыйскай грады глыбокая й вузкая. Шырыня даліны пераважна 1-4 км. Схілы да ўпадзеньня Бярэзіны спадзістыя (вышыня 8-15 м., месцамі да 30-50 м.), на астатнім працягу стромкія, парэзаныя ярамі, вышыні да 25 м.

Марфалёгію даліны на Беларусі вызначаюць познаантрапагенавыя надпоймавыя тэрасы й галацэнавыя поймавыя ўзроўні. Сярод іх вылучаюць тэрасы муравінска-раньнепаазерскую (вышэй вусьця Шчары, вышыня ўверх па цячэньні ад 13-15 да 7-8 м.), сярэднепаазерскую (вышыня ад 8-9 м. каля Стоўбцаў да 33-35 м., паміж вусьцямі прытокаў Нёману Горніцы й Ласосны). Паазерскія позналедавіковыя тэрасы ўтвараюць на схілах даліны ўзроўні, разьмешчаныя паміж поймай і сярэднепаазерскай тэрасай. Іх колькасьць і вышыня павялічваюцца ўніз па цячэньні: у вярхоўі 1 тэраса, вышыня 4-5 м., у межах Гродзенскага ўзв. і Сярэднянёманскай нізіны — 8-9 узроўняў. Вышыня самага нізкага — 9-11 м., самага высокага — 30-32 м. Усе гэтыя тэрасы, акрамя самай ніжняй, — лякальныя.

Цыклавая толькі першая падпоймавая тэраса.

Пойма двухбаковая, нізкая, забалочаная, парэзаная старыцамі, шырыні 1-2 км., месцамі да 4 км. Ніжэй места Масты, дзе даліна глыбокая, пойма часта адсутнічае. Вышэй вусьця Шчары яна складаецца з 2 узроўняў, высокага (2-3 м.) і нізкага (0,5-1,5 м.), якія называюцца высокая й нізкая поймы. На астатнім працягу даліны вылучаюцца высокі, сярэдні й нізкі ўзроўні. Сярэдні й нізкі ўверх па цячэньні паступова збліжаюцца й зьліваюцца, утвараюць адзіны ўзровень — нізкую пойму. Вышыня высокай поймы ад 4-5 м. каля Мастоў да 5-6 м. каля вусьця Котры, 6-8 м. ніжэй вусьця Ласосны, сярэдняй — ад 2-3 м. каля вусьця Шчары да 3-5 м. ніжэй Гродна, нізкай (у межах Гродзенскага ўзвышша й Сярэднянёманскай нізіны) да 1,5-2 м.

Рэчышча амаль на ўсім працягу зьвілістае, у вытоку каналізаванае, шмат меляў, перакатаў, косаў, пясчаных астравоў. У межах Летувы ў рэчышчы трапляюцца каменныя грады й парогі, большасьць якіх затоплена ў Ковенскім вадасховішчы. Шырыня ракі ў межань у вярхоўях 35-40 м., ніжэй па цячэньні да 90 м., паміж вусьцямі Шчары й Чорнай Ганчы 120-150 м., у ніжнім цячэньні 180-380 м., месцамі да 640 м. За 46 км. ад вусьця Нёман падзяляецца на 2 рукавы: левы называецца Матросаўка (на тэрыторыі Усходняй Прусіі), правы — Русьне (на тэрыторыі Летувы), на яго прыпадае 80% агульнага сьцёку. Дно пясчанае, на перакатах пясчана-камяністае й галечнае. Берагі на Беларусі пераважна стромкія, пясчаныя, месцамі абрывістыя, вышыня 1-5 м., часам да 10-15 м., на ўчастку Шчара — Чорная Ганча на вялікім працягу зьліваюцца із схіламі даліны.

Рэжым Нёману на Беларусі вывучаецца з 1877 году, назіраньні вяліся на 24 гідралагічных пунктах, зь іх дзейныя (1985 г.) Стоўбцы, Беліца, Масты, Гродна. Жыўленьне мяшанае, пераважна сьнегавое. На пэрыяд веснавога разводзьдзя прыпадае 41%, на летне-асеньнюю межань 38, зімовую 21% гадавога сьцёку. Веснавое разводзьдзе з 2-ой дэкады сакавіка (у раньнія вёсны з пачатку лютага, у позьнія — з 1-ай дэкады красавіка), 30 - 50 сут. Звычайна праходзіць некалькімі хвалямі. Сярэдняя вышыня ўзроўню над самай нізкай межаньню 2,5 - 4 м., павялічваецца ўніз па цячэньні. Найбольшае разводзьдзе за апошнія 150 гадоў назіралася ў 1958 годзе, калі ўзровень вады падняўся да 3,1 м. каля Стоўбцаў і да 8,1 м. каля Гродна. Летне-асеньняя межань звычайна зь сярэдзіны мая да канца лістапада (192 суткаў), часта парушаецца дажджавымі паводкамі (у 1933 годзе былі 4 паводкі за сэзон), узровень павышаецца да 1 м., а ў асобныя гады да 2-ох м. Мінімальныя ўзроўні ў ліпені — жніўні. Зімовая межань 90 - 100 суткаў, часта парушаецца адлігамі, тады ўзровень павышаецца на 2-3 м. Нёман замярзае ў 2-ой палавіне сьнежаня, крыгалом у 3-ай дэкадзе сакавіка. Найбольшая таўшчыня лёду 54-63 см. (канец лютага — пачатак сакавіка). Веснавы ледаход 7 - 16 суткаў. Сярэдняя тэмпэратура вады ў чэрвені - жніўні 18,2 — 20,2°С, найбольшая ў ліпені 28,1°С (1959 г.).

Гадавы сьцёк завіслых наносаў каля Гродна 190 тыс. т. Вада ў рацэ гідракарбанатнай-кальцыевай клясы, умерана жорсткая. У пэрыяд веснавога разводзьдзя мінералізацыя й жорсткасьць 63 - 140 мг/л.

Вада на тэрыторыі Беларусі па гідрабіялагічных паказчыках умерана (слаба) забруджаная, выкарыстоўваецца для бытавога й прамысловага забесьпячэньня. У Нёмане водзяцца: шчупак, акунь, плотка, лешч, лінь, карась залаты, верхаводка, гусьцяра; з каштоўных — судак.



Суднаходства пачынаецца ад Гродна. Нёман злучаны з басэйнам Дняпра Агінскім каналам, а з басейнам Віслы Аўгустоўскім каналам. З пабудовай Вілейска-Менскай воднай сыстэмы частка сьцёку з басэйну Нёмна перакідваецца ў басэйн Дняпра. За 12 км. вышэй Коўні, Коўнаская ГЭС і вадасховішча. На беразе ракі каля вёскі Мікалаеўшчына Коласаўскі мэмарыяльны заказьнік.

На рацэ шмат гарадоў, як Стоўбцы, Масты, Гродна (порт) ды інш.

Залажэньне даліны Палеа-Нёмана адносіцца да неагену, аб чым сьведчаць знаходкі старажытнага алювію. У антрапагене даліна неаднаразова поўнасьцю або часткова зьнішчалася ледавікамі й адраджалася пасьля іх дэградацыі. Сучасная даліна Нёману пачала фармавацца ў сувязі з адступаньнем сожскага ледавіка ад краявых утварэньняў Паўд.-Зах. адгалінаваньня Беларускай грады. На фоне тэктанічных падняцьцяў тэрыторыі басэйну Нёмана ў сожскае позналедавікоўе ў далінах рэк узьніклі пераважна лякальныя тэрасы із слабаразьвітымі алювіяльнымі адкладамі. У муравінскае міжледавікоўе глыбіннае ўразаньне Нёману паступова зьмянялася бакавым зьмяшчэньнем рэчышча й свабодным мэандраваньнем, што выклікала пашырэньне дна даліны, фармаваньне поймавых узроўняў і намнажэньне алювію. Вадаём, які існаваў у катлавіне Балтыйскага мора, служыў базісам эрозыі ракі. Наступаньне раньнепаазерскага ледавіка, вусьцевы падпор рэк, якія ўпадаюць у гэты вадаём, частковае парушэньне рачных далінаў спрыялі павелічэньню магутнасьці алювію ў даліне Нёману перад фронтам ледавіка й паступоваму яе запаўненьню. У раньнепаазерскі час дно даліны было выраўнавана. Узроўні поймы перакрыліся раньнепаазерскім алювіем, завяршылася фармаваньне муравінска-раньнепаазерскай алювіяльнай сьвіты й пляцоўкі аднайменнай тэрасы, уступ якой утварыўся ў часе сярэднепаазерскага пацяпленьня клімату. Пры наступаньні ледавіка максымальнай стадыі паазерскага зьледзяненьня ізноў назіраўся падпор Нёману краем ледавіка й узьнікненьне ў даліне падпрудных вазёр. Паступовае зьмяшчэньне вазёр уверх па даліне й пад'ём іх узроўняў спрыялі адступаньню вусьця Нёмана, падняцьцю дна даліны й намнажэньню павялічанай магутнасьці алювію сярэднепаазерскай тэрасы. Пасьля максымальнае стадыі паазерскага зьледзяненьня адбылося перарывістае адступаньне ледавіка, адраджэньне й паглыбленьне даліны Нёману, фармаваньне лакальных паазерскіх позналедавіковых тэрас уразаньня. У галацэне даліна разьвівалася пад узьдзеяньнем кліматычных зьмен, пад'ёму ўзроўняў вадаёмаў, разьмешчаных у катлавіне Балтыцкага мора на фоне павольных тэктанічных падняцьцяў тэрыторыі Панямоньня.

Засяленьне басэйну Нёмана чалавекам пачалося з канца палеаліту. У мэзаліце жылі плямёны мікралітычнай і макралітычнай культураў. У 4-3-м тыс. да н. э. тэрыторыю верхняга й сярэдняга Панямоньня насялялі плямёны нёманскай, ніжняга — нарвэскай культураў. На левабярэжжы Нёману ў 3-м тыс. да н. э. жылі плямёны культуры шарападобных амфар. У бронзавым веку басэйн Нёману засялялі плямёны культуры шнуравой керамікі, прыбалтыцкай і тшцінецкай культураў. У жалезным веку Панямоньне насялялі яцьвігі, усходнялітоўскія плямёны культуры штрыхаванай керамікі, левабярэжжа ніжняга Нёману — прусы. З 10 ст. на большай частцы Панямоньня жылі славяне. Верхняе Панямоньне з 13 ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага, а нізоўе Нёману ў 2-ой палове 13 ст. захоплена крыжакамі. З 1815 г. увесь басэйн Нёману ў складзе Расейскай імпэрыі. Пазьней Панямоньне перажывала розныя рэжымы, акупацыі ды перамены...

Вось так выглядае менш-больш кароткі нарыс пра нашу раку — Нёман.

**Уладзімер СЯДУРА (ЗША)**

# ПОЛАЦКАЕ ДЗІВА

Да 500-годзьдзя ад нараджэньня Франьцішка **Скарыны**, якое прыпадае на 6 сакавіка 1986 г.

## 1

Зіма ў 1486 годзе была доўгай і лютай. Яшчэ на пачатку сакавіка трымаліся злосныя марозы. Усе рэкі былі скованыя тоўстым вэлюмам лёду, бялюткага ад штодзённага напластаваньня сьнегу. Ужо каторы месяц, як спыніўся рух чаўноў і купецкіх баржаў на Дзьвіне. Дзе-якія зь іх не пасьпелі сваім часам адыйсьці з Полацкае прыстані й цяпер, як тыя абледзянелыя прывіды, высокімі патарчакамі безнадзейна глядзелі на бясконцую беласьнежную роўнадзь шырака разлеглага рэчышча. Чакаць ім і не дачакацца вясновай цяплыні, што павінна разваражыць заснулую прыгажуню й адрадзіць бурнае жыцьцё ўздоўж Дзьвінскіх берагоў. Не чуваць цяпер на тых берагох зухаватых прыказных выкрыкаў купецкіх людзей, што давалі загады найманым, як і куды разгружаць прывезеныя ў Полацк з Смаленска й Віцебска або з маёнткаў Падзьвіньня футры й скуры, мёд і воск, лён і збожжа, смалу й попел. Не мазоліць цяпер тут мясцовае вуха мова рыскіх ды кралевецкіх купцоў, якія звычайна з самага раньня гарлапанілі па-нямецку на мясцовых грузчыкаў, устаўляючы для зразумеласьці дзе-якое зпольшчанае славянскае слова. Ня чутна шорганьня скрыняў зь сякерамі, нажамі, жалезам, волавам, медзьдзю й цынкам зь нямецкіх земляў. Заціхла водгульле гуканьня паміж людзьмі, калі перакідвалі адзін другому пакі вугорскага й валахійскага сукна, турэцкіх сукняў. Вецер даўно разнёс і выветрыў да рэшты пахі перцу й міндаля ўздоўж прырэчных будынінаў, выпетрыўся пах нямецкага піва й кіслых замежных вінаў. Жыцьцё як-бы запынілася, на ўсім была адзнака зімы-чарадзейкі.

Аднак сіла гэтае зімы слабела й зыходзіла на нішто ў самым Полацку. Ужо на ягоным заходнім узьмежжы, уздоўж выкручастай ракі Палаты натоўпы хлапчукоўпадлеткаў выраблялі сабе сьцяжынкі на лёдзе й з крыкам насіліся на коўзанках. Народ напаўняў вуліцы Вялікага пасаду. Быў гандлёвы дзень. Уздоўж Вялікай вуліцы на правым беразе Дзьвіны ды на Прабойнай з раньня ля крамаў праходзілі грамадкі людзей, апранутых у цёплыя ватоўкі з сабалінымі й куніцавымі каўнярамі ды лісінаю падшыўкаю. Звабленыя размаітымі вырабамі мясцовых і замежных майстроў, дзе-хто заходзіў у крамы. Па Віцебскай вуліцы, Невельскаму тракту ды па Прабойнай з поўначы цягнуліся цяжкія павозкі з дабром. Іхным возьнікам проста ўперадзе на Чорнай гары за Чорным ручаём, на Дзядзінцы, вырысоўваліся муры Верхняга замку. Магутна ўзносіліся абрысы выцягнутых стромка ўвысь званіцаў Сафійскага сабору. Па гэты бок Дзядзінца віднеліся павярховыя прыгожыя дамы полацкіх багацеяў Вялікага пасаду.

На поўначы гораду пад зімовым, але ўжо досыць высокім і зыркім у сакавіку сонцам, зіхацела золатам свайго купала Спаса-Ефрасіньнеўская царква. Мінуўшы курганныя палі й перасекшы Задзьвінскую дарогу, кіруючыся на Гандлёвую плошчу, пагляд возьнікаў упіраўся ў Бельчыцкія ўзгоркі. На іх нельга было ня ўбачыць чатыры высокія крыжы над званіцамі Барысаглебскага манастыра, якія асянялі



разлеглыя там вялікакняжыя замкі. Праўда возьнікам не было часу прыглядацца на горад. Ім трэба было трапіць як хутчэй на Гандлёвую плошчу, каб заняць лепшае, з гледзішча доступу да пакупнікоў, мейсца.

Гандаль у Полацку пачынаўся ад самага сьвітаньня. Запозьненыя ездакі з зайздрасьцяй паглядалі на пакупнікоў, якія ўжо ўправіліся нясьці адтуль поўныя кашы. Купчыкі, якія здолелі зручна прадаць свой тавар, цяпер цягнуліся да пітных двароў.

Тымчасам з Запалацьця й Вялікага пасаду новыя людзі йшлі й ехалі на конях усё ў тым-жа кірунку на Гандлёвы пляц. Мужчыны й жанкі, хлапцы й дзяўчаты, рухавыя дзеці, здавалася, усе палачане йшлі на рынак. Нябывалы ў Полацку чалавек мог вынесьці ўражаньне, што ўвесь Полацк, бяз вынятку, прымае ўдзел у той вымене.

А дзесятай гадзіне раніцы на Прабойнай вуліцы ля крутога берагу ручая, зьявіліся ваяводзкія стражнікі й пачалі зганяць адтуль тых ездакоў, якія запыніліся тут на прыбярэжжы й пачалі гандляваць на недазволеным мейсцы. На плошчыж пачалася зборка мыту, 5 пенязяў з падводы бралі мытнікі ваяводы. Зборка йшла гладка, тым балей, што тут-жа для астуджваньня жарсьцяў побач знаходзіліся стражнікі з стрыкусамі ці баёвымі сякерамі на доўгіх палках. Сяньня той збор прынясе ў ваяводзкую казну ладны куш, — багата копаў грашэй. Аднак вясёлае ўзбуджаньне панавала сярод людзей на Гандлёвай плошчы й вакол яе. Зычныя галасы тварылі гучнае рэха й несьлі яго далёка на вуліцы Полацкага Вялікага пасаду.

## 2

Дом купца футраў і скураных вырабаў Лукаша Скарыны высіўся ў Вялікім пасадзе на Вялікай вуліцы на ўзьбярэжжы ракі Дзьвіны. Адтуль добра быў бачны стары манастыр Багародзіцы, а за ім за Чорным ручаём на вышыні ўздымаўся ўвысь славуты Сафійскі сабор. Для тых, хто шукаў Скарыніну сялібу, бліскучы Багародзіцкі крыж заўсёды быў добрым арыентырам. Па той бок Дзьвіны ў паўднёвым кірунку віднеўся сваімі званіцамі манастыр Яна Папярэдніка. Кожны малы й стары мог паказаць знаны Скарынаў дом у тры паверхі з вычварнымі выкрунтасамі на падаконьніках. Фігура выразаная з моцнага дубу шарсьцістага бабра ўпрыгожвала будынак на падстрэшшы. У сярэдзіне дому кожны наведвальнік бачыў разьвешаныя на сьценах сабаліныя й гарнастайныя скуры. Яны таксама засьцілалі крэслы й тапчаны. Высокія сьцены, аднак, з усіх бакоў былі ўпрыгожаныя малярскімі працамі. На аднэй зь іх на шырокім палатне мастак перадаваў у колерах сцэну князёўскага паляваньня. Іншыя абразы паказвалі родзічаў і заснавальнікаў слаўнага дому Скарынаў. Вісела колькі іншых абразоў на біблейскія тэмы. Паміж імі вылучалася сваім памерам шматфарбная ікона, на якой малявалася Уваскрасеньне Ісуса Хрыста.

Тут, у гэтай упрыгожанай абразамі гасьцёўні адбываліся многія пагадненьні купцоў з усяго сьвету з старшынёй Полацкае купецкае гільдыі, Лукашом Скарынам. Скарына ведаў сабе цану. Вялікая ягоная крама знайходзілася недалёка адгэтуль, побач Гандлёвага пляцу. Калі ён часам ішоў пехатою да свае крамы каля яткаў, паглядаючы на дробныя крамкі, ён з гонарам думаў пра сваё багацтва. Як буйнейшы купец, ён быў шырака знаны ў сьвеце, яго часта згадвалі ў наказах князі й каралі. Кожны сустрэчны нізка яму кланяўся, аддаючы належнае вялікаму

Палачаніну.

Сяньня Лукаш Скарына не пайшоў у сваю краму. У той дзень, 6-га сакавіка, ён меў вялікую турботу. Жонка чакала дзіцяці. Дарма, што старэйшаму сыну было ўжо восем гадоў, але Іванька яшчэ не памочнік. З дачкі таксама невялікая дапамога, а тымчасам гандлёвы абыходак расьце. Вось-жа некалі свае хлопцы моцна спатрэбяцца, каб было на каго пакласьціся бяз ніякае рызыкі й круцельства. Лукаш зацешыўся сваім сынам Івасем, пялегаваў яго як зрэнку вока, меў надзею, што расьце будучы спадкаемца, каб пасьпяхова весьці далей слаўны й багаты дом Скарынаў.

Праз усё жыцьцё Лукаш любіў дзяцей. Любіў малых гладзіць па галоўцы, калі сустракаў іх у часе сваіх шпацыраў або па дарозе ў краму. Наглядаючы за тым ці іншым хлопчыкам, Лукаш заўсёды суадносіў яго й параўноўваў у думках з сваім малым Іванькам. Яму заўсёды яго малыш здаваўся лепшым за іншых, больш кемлівым ды спрытнейшым. Трэба было бачыць, якім спрытам Іванька ў імгненьне вока мог апынуцца на самым версе даху й пачаць парадкаваць сваю галубятню. Але Лукаш пры гэтым таксама не забываў, што немец, які вучыць Іваньку лічэньню й дае яму лекцыі латынскае мовы, надта-ж ужо хваліць малога за посьпехі ў латыні ды нямецкай мове.

— Даймаю я свайго малога рознымі даручэньнямі, — думаў цяпер Лукаш. — То зьбегай туды, аднясі рахунак гэтаму купцу-пакупніку, то паведамі таго, каб пасьпяшаўся з даўгамі, каб ня было патрэбы скардзіцца ваяводзкім людзям аб няспраўнасьці. Ёсьць-жа людзі для гэтага іншыя. Трэба будзе абмежаваць сынковую дапамогу. Няхай лепш вучыцца больш ды гуляе ўволю. Лепш будзе гадавацца на нашую радасьць, — разважаў далей Лукаш.

Тут ён прыгадаў сваю Магдалену. « З часіны на часіну яна чакае дзіцяці. Паводле ўсіх адзнакаў, нараджэньне мусіць адбыцца сяньня. Павітуха ўжо не адыходзіць ад яе ні на часіну. Можа трэба й яму быць блізка. Кожнай хвіліны можа яно пачацца. Яму трба быць тут, каб распарадзіцца». З гэтымі думкамі ён падаўся йсьці на другі паверх па шырокіх, бліскучых ад воску, драўляных усходках. Крыху задыхаўшыся ад таропкае хады, ён з хваляваньнем адчыніў дзьверы ў спальны пакой, дзе на шырокім ложку пад пуховай пярынай ляжала ягоная Магда. Ейны зьбялелы твар выразна акаймоўваўся шатэністымі валасамі, што беспарадкавымі пасмамі рассыпаліся вакол галавы на падушцы. Збалелыя рысы твару выказвалі, што парадзіха ўжо цярпела ад болю. Павітуха трымала яе за руку й нешта прыгаварвала.

— Ну як, Магдачка, прыйшоў час? — запытаўся Лукаш

Ён глядзеў у вочы Магды, нібы чакаючы ейнага адказу. Але за часіну Магда павяла вачыма на свой жывот і ледзь чутна сказала:

— Ужо пачынаецца... нешта надта забалела ўнізе... балець стала і ў грудзёх...

— Можа лепш лекара паклікаць? Тога немца, што некалі Іванька прыймаў...

Яна хацела яшчэ нешта дадаць, але ад болю не магла прамовіць, відаць, пачыналіся роды.

— Я зараз-жа загадаю прывезьці лекара, ён адсюль недалёка жыве... — сказаў Лукаш і хутка выйшаў з пакою ўніз.

— Іваська, Івась! — гукнуў ён свайго хлапца на двары, дзе ён коўзаўся на санках. — Бяжы хутчэй, Івась, на Нямецкую вуліцу да лекара Курта Бэйкмана. Ты-ж ведаеш, дзе ён жыве. Скажы яму, каб зараз-жа на кані ехаў да нас. Маці яго чакае.



— Слухаю, татка, — адказаў Іваська й хутка пабег да лекара.

Неўзабаве, стары лекар Курт быў ў Скарынінай гасподзе.

## 3

Тымчасам сонца, якое паднялося досыць высока, пачало з усходняга боку засланяцца нейкай цёмнаю плямаю. Пляма паступова расла й гусьцела, рабілася менш пранікальнай для сьвятла. На вуліцах Полацку рабілася ўсё цямней і цямней. Як у тумане пачалі хавацца ад віду людзей абедзьве брамы Дзядзінца. Народ з трывогай угледаўся ў гэтае дзіва на небе й пачаў хавацца. Было ўжо не да гандлю. Полацкія мяшчане беглі дамоў да сваіх родных. Прыезжым ня было куды бегчы ад сваіх коняў, і яны палахліва глядзелі на неба й пакрыты змрокам горад. Аднекуль зьявіліся шаптуны, якія прарочылі канец сьвету. Старая блазнаватая Анішчыха запынілася каля ятак і пачала апавядаць аб тым, як яна бачыла ў сьне нікому тут невядомага сьвятога Ахрыма, які раіў усім пакідаць Полацк перад нечуваным няшчасьцем. Горад нібы апануюць нячыстыя сілы й будуць вышукваць усіх праведнікаў, каб спаліць іх у смале на вогнішчы на віду блуднікаў... Спачатку яе слухалі з увагай, але пазьней нейкі малады дзяцюк зухавата запытаў старое:

— Дык чаму-ж ты сама не ўцякаеш, а чмурыш нам галовы?

Ён пачаў набліжацца да яе, але старая Анішчыха бліснула на яго злоснымі вачыма й дзесьці зьнікла. Яткі пачалі пусьцець, толькі адзінотныя пешаходы дзе-нідзе кандыбалі сваёю дарогаю дамоў.

Па часе каланча Спаса-Ефрасіньнеўскае царквы пачала таксама зьнікаць за даляглядам на поўначы гораду. У далёкай шэрасьці толькі залацістыя высокі крыж цяпер ледзь прыкметным зданьнем заўважаўся на пачарнелым небе. Цемень адбірала ўсе адрознасьці на званіцах Сафіі, затуляла іх узорчатыя падкрыжжы.

Зацьменьне сонца над Полацкам тога 6-га сакавіка захапіла палачан неспадзеўкі й напоўніла іх душы турботным непакоем. Усе хутка пахаваліся ў хатах. Вуліцы неўзабаве апусьцелі й пачалі выдавацца фантастычным марывам. Вялікімі прывідамі сярод маленькіх дамкоў вылучаліся шэрыя абрысы большых каміяніцаў. Людзі хрысьціліся, гледзячы на Сафійскія крыжы, перад тым, як увайсьці ў хату. Прайшло некалькі часу пакуль зьнікла першае ўтрапеньне.

Затым людзі пачалі выходзіць з сваіх сховішчаў... Яны стараліся хоць што пабачыць на сонцы, але дарма, бо надта доўга сонца не магло вызваліцца ад дзіўнага закрыцьця.

## 4

У доме Лукаша Скарыны тымчасам адбываліся іншыя падзеі. Нікога там зацьменьне не спалохала. Выклікала толькі нейкае нявыразнае зьдзіўленьне. Калі ў доме сьцямнела, пакаёўка запаліла сьвечкі й паставіла іх у гасьцёўні ды ў пакоі дзе ляжала парадзіха. Лекар хуценька распрануўся й на запросіны Лукаша пайшоў да Магды. Лекар агледзеў Магдалену, палічыў ейны пульс і загадаў прынесьці цёплай вады й рушнікі.

Ад бязупыннага руху людзей ля ложка хісталася полымя сьвечкі й на твар парадзіхі кладліся сьцені ды пасьпешліва й мітусьліва перабягалі зь ейнага твару на грудзі й коўдру... Лекар загадаў Лукашу выйсьці з пакою. Лукаш з трапяткім сэрцам стаяў за дзьвярыма ў другім пакоі ды ўслухоўваўся ў кожны шорах. Час

цягнуўся вельмі марудна. Ён пераступаў з нагі на нагу й шаптаў пацеры. Вусны ягоныя ціха вымаўлялі словы звароту да Бога.

Калі выразна пасьвятлела ў доме й на Лукаша пачала лагодна глядзець з іконы Божая Маці з Дзіцём Ісусам ля грудзей, ён пачуў за дзьвярыма выразны й прарэзьлівы крык дзіцяці. Во, як закалаціласяя ягонае сэрца! Ён ужо памкнуўся йсьці ў той пакой, але раптам запыніўся й пачаў чакаць адтуль навіны. Часіны здаваліся гадзінамі. Неўзабаве адчыніліся дзьверы й пакаёўка вясёлым голасам абвесьціла:

— Сын, ладны хлопец, віншую!

Яна знакам паказала, што Лукаш можа ўвайсьці.

— Дзякуй Богу, відаць дайшлі словы да Айца, — удзячна прамовіў ён шэптам і, калоцячыся ад узбуджаньня, увайшоў у спальны пакой. Магдалена выглядала ўспакоеная. Задаволеная нараджэньнем моцнага й здаровага хлапца, яна таксама чулася шчасьліваю. Толькі адна думка крыху турбавала яе, як пагадзіць нараджэньне з зацьменьнем сонца. Лукаш узяў лагодна ейную руку й моцна прыціснуў да сваіх вуснаў.

— Дзякуй табе, Магдачка за сынка й за ўсё твае цярпеньне, — ціха сказаў Лукаш, далікатна нахіліўшыся над жонкай.

— Гэта-ж такая цемень была найшла сярод белага дня, калі я радзіла! Што гэта мае значыць, ці не на біду якую? — запыталася Лукаша слабым голасам Магда.

Аднак лекар Курт Бэйкман пачуў і пасьпяшаўся заспакоіць сваім меркаваньнем.

— Гэта звычайная прыродная зьява, добра ведамая ў астранамічных ведах. Раз у якое дзесяцігодзьдзе сонца засланяецца месяцам. Гэтае зацьменьне звычайна прыносіць зямлі, над якой яно бачыцца, добрыя ўраджаі. Значыць, гэты год будзе ўрадлівым. Зьявіцца многа зьвяр'я й скаціны. Народзіцца шмат новых людзей. Кожнае зерне дасьць багаты плён. А ў вас у хаце ўжо добры прыбытак — такога сына вам Бог паслаў. Асьвяці, Войча, гэты слаўны дом вечнай любоўю ды ласкай Божай...

— А тое, што ваш сынок зьявіўся на сьвет якраз у момант, калі пачало сьвятлець і разцярушваць цямноту, дык гэта таму, — дадаў аўтарытэтна Курт, — што яму наканаванае вялікае прызначэньне быць сьветачам свайго народу. Сын ваш будзе множыць веду й добра прыслужыцца людзям паспалітым сваім навучаньнем.

Слова адукаванага чалавека было важкім для Скарынаў. Магдалена супакоена з удзячнасьцяй зірнула на лекара. Лукаш паціснуў яму старэчую руку. Раптам усе заўважылі, што ў пакоі рабілася зусім сьветла. Пакаёўка пачала гасіць сьвечкі.

Калі выйшлі на панадворак выпраўляць Курта Бэйкмана, усе глянулі на неба на паўдні. Сонца зноў сьвяціла над зямлёй, хоць левая частка сонца была накрытая маладзіковым сярпом, які засланяў сабою зыркасьць. Непранікальная шэрасьць тога сярпа на сонцы засталася ў памяці Лукаша. Ён даў сабе зарок расказаць некалі сыну, калі падрасьце, якім выглядала сонца ў дзень ягоных нарадзінаў. Ад таго дня ўсё жыцьцё й дзейнасьць нованароджанага пайшлі пад знакам месяца на сонцы. Ён надасьць ім чалавечыя твары й будзе ўжываць іх, як друкарскі гуманістычны гэрб. Такім вызначальным стаў сымбаль ягонага нараджэньня.



Васіль Сініца (ЗША.)

# МАЁ МЯСТЭЧКА

## (УСПАМІНЫ)

працяг

На гэтым хіба закончу апісаньне Млынскай вуліцы й перайду да Маставой. Чаму яна называлася Маставой ніхто ня ведаў. Праўда яна ўпіралася сваім канцом амаль што ў раку, але там спрадвеку ня было ніякага маста, хоць на другім баку ракі знаходзіўся даволі вялікі жыдоўскі магільнік. Ніжэй-жа па рацэ за якогась поўкілямэтра была шырокая кладка, па якой можна было перайсьці раку ўдваіх стаўшы ўпоплеч. Гэтая кладка была ўласнасьцю кагалу, але зь яе карысталі й жыхары недалёкай вёскі — Васілева, ад якой кагал быў купіўшы зямлю на магільнік. Кагал карыстаў з кладкі толькі ў часе паховінаў ды дзён у якія жыдоўская рэлігія наказвала адведваньне магілаў.

Трэба зазначыць, што кладка гэтая ня была сталаю, бо кожную вясну яе разьбіралі, каб усьцерагчы ад паводкі. Я кажу амаль кожную вясну таму, што часамі забываліся разабраць на час і тады Мнюта яе «разьбірала» сама. Тады бедныя жыды пераходзілі раку ў іншым месцы ўброд, закасаўшы калошы нагавіцаў й задраўшы на плечы полы лапсардакоў. Пераважна пераходзілі раку толькі некалькі ўпаўнаважаных да паховінаў асобаў, бо згодна тагачасных жыдоўскіх законаў, усе прысутныя на паховінах, уключаючы й радню памёршага ня мелі права ўступу на магільнік, а павінны былі стаяць здалёку.

На наступнае лета кладку ізноў адбудоўвалі на вялікае задаваленьне старога Максіма (ведамага чытачом з «Максімавай лаўкі»), таму што ён заўсёды пры гэтым ня дрэнна зарабляў.

Вышла неяк, што я пачаў апісаньне Маставой вуліцы ад яе канца. Вярнуся цяпер да яе пачатку.

Памінаючы ўжо раней успамінаную Шылаватку, якая стаяла фактычна на Маставой вуліцы, хоць фронтам выходзіла на Рынак, на ёй ня было большых і выдатнейшых дамоў, але й гэтыя меншыя амаль усе бяз выняткаў вызначаліся нейкай прытульнасьцяй, як да рэчы й ўся вуліца. Ня ў прыклад іншым вуліцам мястэчка, было на ёй вельмі шмат дрэў. І калі бывала глянеш з Рынку ў бок жыдоўскага магільніка, дык гэтыя дрэвы амаль стыкаючыся з сабой вершалінамі тварылі нібы вялізную фантастычную браму на тле неба. А яшчэ лепш выглядала гэтая брама зімою абсыпаная сьнегам, або яшчэ лепш, пакрытая іняем.

Вызначалася гэтая вуліца яшчэ й тым, што калі яе брукавалі ў канцы 20-ых гадоў, дык на брук ня ўжывалі звыклых, як казалі палякі «кашыных ілбоў», але шчапанага на плоска каменя, і таму паверхня яе была нязвычайна гладкай. Пры язьдзе возам па ёй не калаціла так, як на звычайным бруку. Якому з мясцовых войтаў прыйшла ў галаву гэтая ідэя, сёньня цяжка сказаць. Напэўна каштавала гэта шмат больш чым звыклы брук, затое яна вельмі падабалася месцачкоўцам, а асабліва таму пакаленьню, якое ўжо езьдзіла, або толькі вучылася езьдзіць самакатамі.

Хоць я ў тыя часы ня мог нават і марыць аб уласным самакаце, але заашчадзіўшы 60 грошаў пёрся ў гадзіньнікавую краму Грыкінэра, дзе можна было за гэтую

суму атрымаць самакат «на пракат» на цэлую гадзіну. Падумаць толькі, што за адзін грош можна было цэлую хвіліну чуцца «вялікай шышкай» і парадаваць на самакаце перад дзяўчатамі, якіх на Маставой вуліцы не бракавала. Праўда здараліся й няпрыемнасьці, калі ў выніку невялікіх аварыяў самакат прыходзілася адводзіць нават не закончыўшы аплачанай гадзіны з паламанымі сьпіцамі або пабухтаваным колам. Тады сухенькі й маленькі як хлапчук і зь вялікім «сэміцкім» носам Грыкінэр падымаючы ўгару палец, чамусьці казаў па-расейску:

— Помни я цебе это отшчытаю в следующий раз, Игнат помни это! — заканчаў сваю пагрозу Грыкінэр, ў апошніх словах зьвяртаючыся ў жо да свайго памагатага каваля Ігната. Усе ведалі, што гэта былі толькі пустыя пагрозы аб якіх хутка забываліся й Ігнат і сам Грыкінэр. Грыкінэр цаніў сваіх кліентаў і не хацеў іх траціць.

Трошкі наўскасяк ад Шылаваткі была пякарня Ёселя Цэпалевіча, перанесеная пазьней на Касьцельную вуліцу. З сынам Цэпалевіча, Моткам я жыў у добрых адносінах праз даволі доўгія гады. Ня быў ён маім прыяцелем у такой ступені, як Аба Казьлінер, але нашыя адносіны ўсталяваліся яшчэ са школьнай лаўкі. Мотка быў цікавы хлапец. Ён ня ў прыклад сваім адзінаверцам ня быў русафілам, як большасьць зь іх, але наадварот ягоныя сымпатыі былі па баку беларусаў, якімі маскалі пагарджалі. Ён таксама, чамусьці ня верыў у зьверствы нацыстаў у адносінах да жыдоў і лічыў гэта польскай шавіністычнай прапагандай. Незадоўга да польска-нямецкай вайны я аднаго разу ў размове запытаў яго ці ён не баіцца гітлероўцаў, на выпадак калі-б яны прыйшлі сюды. Тады ён незадумваючыся адказаў: «А чаго я іх маю баяцца? Я-ж нікому не зрабіў нічога дрэннага дый на жыда я не падобны. Дзесь перасяджу пэўны час, а там за «мяжу». Тут ён разумеў уцёкі ў Савецкі Саюз.

Бедны Мотка ў сваіх цьверджаньнях меў рацыю толькі часткава, г. з., што ён не зрабіў нікому нічога благога й, што ён не падобны з выгляду на жыда. Мотка гаварыў без ніякага жыдоўскага акцэнту. Ані хавацца, ані ўцякаць за мяжу яму аднак не прышлося. Яго разам з бацькам і старэйшым братам Копэлям гітлероўцы зьнішчылі яшчэ задоўга перад тым, як пачалося масавае зьнішчэньне жыдоў.

Даволі хутка пасьля прыходу немцаў, Цэпалевічам загадалі выпякаць хлеб з запасаў мукі, якая яшчэ была ў іх на складзе. Хлеб быў прызначаны для войска, якое хмарамі валіла праз мястэчка кіруючыся на ўсход. Аднаго разу хлеб чамусьці ня ўдаўся. За гэта ортс камандант, нейкі садыст, пастраляў іх ўласнаручна ў гародчыку за пякарняй.

Незадоўга перад пачаткам польска-нямецкае вайны я выехаў з Лужак і ня бачыў Моткі праз нейкі час. Але ў першых днях вайны я прыехаў туды аўтабусам і на прыстанку пабачыў знаёмых хлапцоў, якія згодна мабілізацыйных дакумантаў накіроўваліся на зборны пункт у Глыбокае. Паміж імі быў і Мотка. На разьвітаньне ён выхінуўшыся праз вакно аўтабусу сказаў: «Васіль, не бядуй, у сераду мы будзем дома». Штопраўда прайшло яшчэ са тры ці чатыры серады, але ўканцы Моткавы словы спраўдзіліся. На пачатку савецка-нямецкай вайны я ізноў спаткаў Мотку з валізкай у руцэ. Гэтым разам ён накіроўваўся ў ваенкамат. Пасьля кароткай гутаркі ён сьмяючыся сказаў: «Праваявалі «айчызну», а вось цяпер праваюем яшчэ й «родину». Тады ўжо будзе спакой. Бедны Мотка не прадчуваў, што вісіць у яго над галавой.



На Маставой вуліцы жылі таксама два мае найлепшыя сябры юнацкіх гадоў — Валодзя Шымка й Бронька Сасноўскі. Сям'я Шымкаў складалася з бацькоў, старэйшай прыгожай сястры Зосі й двух братоў, старэйшага Віці, майго аднагодка й маладзейшага ад яго на год Валодзі. Маці іх была вельмі хваравітая й не магла нічога рабіць у хаце й на полі. Дзеля гэтага ўсе хатнія абавязкі ляжалі на плячох Валодзі й Зосі. Стары Шымка быў запрацаваны на не малым кавалку зямлі ў мястэчку ды на некалькіх «пасажных» гэктарах маці, у вёсцы Верацеі недалёка ад мястэчка. Апрача таго ў нядзелі ды сьвяткі ён выпаўняў некалькі дапаможных функцыяў пры царкве. Старэйшы брат Віця яшчэ падросткам вывучыўся нядрэнна кавальству, пабудаваў пры дапамозе бацькі кузьню. Зь сям'ёю меў ён вельмі мала супольнага, хоць жыў у тэй самай хаце, ды еў за тым самым сталом, што наварыла сястра. Адным словам у сям'і вытварыліся дзіўныя адносіны. Калі яму было нешта патрэбнае ад сям'і, ён браў гэта нікога ня пытаючыся. Калі-ж узьнікала патрэба аплаты коштаў за лячэньне маці, ці сплаты падаткаў, дык ён запытаны пра гэта, моўчкі выцягваў зь кішэні партманэтку, выймаў адтуль суму якая яму заманілася, клаў бяз слова на стол і выходзіў з хаты. Бацька вельмі часта ў яго адсутнасьць злосна бурчэў: «Пр-р-ра-ганю сволач!» Але пагроза на гэтым і канчалася.

Што датычыць Валодзі, дык ён быў зусім адменным ад брата. Працавіты, ветлівы да сваіх і чужых, ён самаадданa апекаваўся й даглядаў у часе адсутнасьці Зосі хворую маці, і стараўся без прынукі дапамагаць бацьку. Аднак у адпаведны час ён любіў павесяліцца ў добрай кампаніі й выпіць чарку, але ніколі не перабіраў меры, ня ў прыклад свайму старэйшаму брату. Нягледзячы на запрацаванасьць, ён знайходзіў час на самаадукацыю й быў найбольш начытаным з усіх знаёмых мне хлапцоў, ведама-ж не бяручы пад увагу тых, якія атрымалі сярэднюю, або прадаўжалі вышэйшую асьвету. Ён ніколі не апранаўся ў даражэйшую «крамную» вопратку, але заўсёды хадзіў у саматканай вопратцы й юхтовых ботах.. Заашчаджаныя грошы выдаваў на закуп кніжак і на падпіску газэт ды часапісаў. Цікава й яшчэ адна рэч — ён ведаў на памяць усю «Новую Зямлю» Я. Коласа. Даволі было толькі сказаць яму які разьдзел ты хацеў пачуць, і ён не задумваючыся адразу пачынаў дэклямаваць жаданае.

Сябра Валодзі, а таксама й мой, Бронька Сасноўскі жыў толькі з бацькам, бо маці ягоная памерла, калі ён быў яшчэ малым. Жылі яны ў малюсенькай, нібы цацкавай, хатцы на самым канцы вуліцы. Яны мелі нязвыклы занятак — «лілі бронз». Каб было больш зразумелым, што гэта азначае, пастараюся растлумачыць: Кожны яшчэ з Бацькаўшчыны памятае конскую збрую, як — уздэчкі, хамуты, падсядзёлкі й шлеі. Гэтая збруя была штодзённаю. У багацейшых была яшчэ збруя й выязная, якая ўжывалася дзеля паездак у царкву, на вясельле, у госьці ды інш. Гэтая выязная збруя зазвычай была ўпрыгожана мядзянымі ўпрыгожаньнямі ў форме зорак, кружкоў, квадрацікаў ды іншых фігурак, якія спэцыяльнымі прышчэпкамі прымацоўваліся да скуранoй збруі й нацёртыя крэйдай ці таўчонай цэглай, блішчэлі, як залатыя. Гэта называлася «бронз» і каштавала часамі ня зусім танна. Вось Бронька з бацькам і лілі яго. Пераважна цэлую зіму ў спэцыяльнай пабудове на гародзе, яны плавілі на спэцыяльным, падобным да кавальскага гарне ў агністойкім графітным кацялку, медзь і цынк. Сплаў гэты вылівалі ў адпаведныя формы. Напаўгатовыя вырабы чысьцілі пазьней адпаведнымі напільнікамі й «шкляной паперай». Пасьля шліфавалі мяккай скурай — ірхай.

Калі надыходзіла вясна, бацька купляў паджылую каняку й ехаў па мястэчках

дзе жылі рымары, збываць свае вырабы. Ня мінаў ён таксама й местачковых кірмашоў, дзе меў індывідуальных пакупнікаў. Па дарозе ён скупліваў ужо загадзя замоўлены мядзяны лом, як старыя рондлі, мядніцы, самавары, чайнікі, жыдоўскія падсьвечнікі, а таксама ўжываны ўжо, але папсаваны «бронз». Усё гэта пазьней пераплаўлялася на новыя вырабы.

У другой палове лета бацька вяртаўся дамоў. Цяпер яны ўдваіх з Бронькам загатаўлялі на зіму сена для каровы, прыбіралі гародніну, якую на працягу лета даглядаў Бронька ды капалі бульбу. Неўзабаве яны былі ўжо гатовыя распачаць свой галоўны занятак. Каня яны прадавалі ў позьнюю восень, калі трэба было яго стаўляць ужо ў хлеў на зіму.

Бронька з Валодзем былі амаль неразлучнымі й часта адзін аднаму дапамагалі. У вольныя часіны Валодзя навучыў Броньку чытаць, а таксама крыху пісаць па беларуску, таму што той скончыў толькі 4 клясы польскай пачаткавай школы, а беларускай кірыліцы ня ведаў зусім.

Бронька меў дзядзьку, бацькавага дваюраднага брата, Стася й таксама Сасноўскага. Гэта быў запраўды дзіўны чалавек. Ён з усімі, хто зьвяртаўся да яго, гаварыў або на даволі папраўнай расейшчыне, або «па польскему»», на ламанай польшчыне. Апрача гэтага ён меў нейкую нэрвовую прывычку ці хутчэй недахоп. Ідучы па вуліцы ён неяк сьмешна растапырваў пальцы на абедзьвюх руках і перабіраў імі нібы граючы на гармоніку. Таму што Стась даводзіўся Броньку дзядзькам, дык гэты й павінен быў яго так называць, але дзеля таго, што ён быў мала старэйшы за пляменьніка, дык гэты й называў яго па йменi — Стась.

Часамі Стась ідучы па вуліцы, і аглянуўшыся ці яго хто ня бачыць, пачынаў свае пераборы на пальцах. Тымчасам з-паза вяргіняў у Бронькавым агародчыку раздаваўся голас:

— Стась, чэму ты бэлташ пальцамі?

Стась аж падскакваў на месцы ад неспадзеўкі й таксама «па польскему» адказваў:

— А чы ты не веш, жэбы цябе трасца юж взена, жэ то така праціўна пжывычка! А ты лепей ідзь і назьберай ахрап'я для своіх прасякув, бо оні пішчаць як глоднэ собакі, — дадаваў ён ужо зусім злосна.

Або ізноў ідзе Стась з Рынку нясучы ў руках нейкі малы мяшэчак. На пытаньне дзе ён быў і што нясе ён скорагаворкай адказвае:

— Да вот был в лавке, жене фунт сахару купил, вчера она доч родила, — і хуценька зьнікае ў сваім панадворку.

Бацька Стася, стары Антон, быў вельмі заядлым і бадай што ці не найлепшым рыбаком ня толькі ў мястэчку, але й у аколіцы. Бывала яшчэ Мнюта не ачысьціцца як сьлед ад лёду, а ўжо Антонава зімовая, папрадзіраная да ваты, шапка тырчыць з паза яшчэ затопленых кустоў. Ён, як і ўсе іншыя рыбакі, любіў пахваліцца, і часта калі яму заздросьцілі ўдачы казаў: «Гэта яшчэ нічога, але каб ты толькі бачыў які шчупачышча парваў мне ў шчэнт вуду за Лапуновам? Во-о-сь такі!» Тут Антон кінуўшы на зямлю свае рыбацкія прылады раскладаў як мага шырэй свае не так ўжо кароценькія рукі й паказваў якой даўжыні быў шчупак.

Антон быў вельмі забабонным і верыў не на жарт у благія вочы, уроцы ды інш., ня менш чымся Мосьпядзі з Гарманаўскай вуліцы. Таму баючыся людзкіх «благіх вачэй», ідучы да ракі ён ніколі ня йшоў па дарозе ці сьцежцы, дзе можна было спаткацца вока ў вока з чужымі людзьмі, а галоўнае з жанчынамі, жыдамі ці сьвятарамі, якія ніколі не прыносілі дабра. Цікава, што гэтая тэорыя не стасавалася



да паваротнай дарогі дамоў, калі ў выпадку шчасьлівага ўлову, Антон сам стараўся каб зь кімсь спаткацца ды пахваліцца ўдачай. Таксама ён страшэнна ня любіў, каб хтосьці жадаў яму ўдачы ў часе лову. Ведаючы гэта мясцовыя хлапчукі пабачыўшы яго ля вады крычалі, ведама з бясьпечнай адлегласьці: «Памажы Божа, дзядзька Антон!» Той зараз-жа адказваў страшэннай лаянкай і пасьпешна сабраўшы свае вуды адыходзіў на іншае месца далей ад няпрошаных жычліўцаў.

На пачатку апісаньня Маставой вуліцы, я толькі мімаходам успомніў аб жыдоўскім магільніку. Цяпер-жа пастараюся апісаць яго больш-менш дакладна. Знаходзіўся ён на левым, гэта значыць супроцьлеглым ад мястэчка беразе Мнюты, на даволі крутым склоне гары й даходзіў амаль да самае вады. Навокал магільнік быў агароджаны плотам з палявога неабчэсанага каменьня й з драўлянай, даволі высокай і масыўнай, але ўжо напоўгнілой брамай. Увесь магільнік быў чамусьці засаджаны векавымі асінамі. Ніякія іншыя дрэвы ці кусты там не расьлі. Асіны-ж, нягледзячы на пагоду ці пару году, разносілі няпрыемны для вуха шум. Ня ведаю чаму, можа гэта было маё ўяўленьне, але ў дзіцячым веку гэтае месца наводзіла на мяне нейкае прыгнабляючае ўражаньне. Памятаю, калі мой дзядзька ехаў на Луку, як называліся палеткі ад канца вуліцы й да ракі,, і забіраў мяне з сабой, дык я згаджаўся вельмі неахвотна, нягледзячы на тое, што на гэтай Луцэ расла асаблівага гатунку вярба, зь якой выходзілі «найлепшыя ў сьвеце» жалейкі. Праўда з часам гэтае дзіўнае пачуцьцё зьнікла. Трэба аднак дадаць, што я ня быў адзінокім. У некаторых людзей, гэтае нічым не абгрунтаванае пачуцьцё захоўвалася праз усё жыцьцё. Гэта можна тлумачыць толькі тым, што ў іх зразуменьні там былі пахаваныя людзі іншае рэлігіі,— «нехрысьці», і дзеля гэтага яны маглі страшыць іншых ад сябе людзей.

Больш-менш праз год ці яшчэ пазьней ад таго здарэньня, калі я меў «перапалох» на «ксяндзоўскім» мосьце, каля жыдоўскага магільніка мела месца трагічнае здарэньне, якое магчыма й было прычынай сьмерці шаснаццаці гадовага юнака Пётры Івашкевіча з Маставой вуліцы. Ён з малых год быў вельмі хваравітым і таму бацькі часамі дазвалялі яму больш чым старэйшаму на некалькі год ад яго брату Кастусю. Дзеля гэтага ў яго можа часьцей чым у іншых вадзілася адна, або й некалькі залатовак у кішэні, бо бацькі мелі поўны «вучастак» зямлі й даволі вялікі сад. Гэта было прычынай, чаму старэйшыя хлапцы прыймалі яго ў сваю кампанію, аб чым ягоныя аднагодкі не маглі й марыць.

Хутка ён пачаў наведваць вёску Ламачына, дзе яму падабалася прыгожая дзяўчына Ліда. Мясцовыя хлапцы зь ведамых ужо прычынаў прынялі яго да сябе, і глядзелі праз пальцы на ягоныя залёты да вясковай прыгажуні, чаго яны напэўна не даравалі-б іншым.

У трагічны вечар, якраз у Купальскую ноч хлапцы й дзяўчаты з Ламачына хадзілі па полі сьпяваючы купальскія песьні й зьбіраючы кветкі багатырак. Сярод іх быў і Пётра са сваёй сымпатыяй. Калі яны ўсе знаходзіліся якраз каля брамы пры ўваходзе на магільнік і стаялі каля гнілога драўлянага шула, Пётра выцягнуў з разгніўшага дрэва жалезны крук ад завесаў і прымаючы яго ў руцэ як пісталет, пачаў страшыць дзяўчат. Тыя, ведама, дзявочым звычаем нарабілі гоману й піску. Якраз у гэтую хвіліну загрымеў неспадзявана гром і ўсе пабачылі, што з-паза лесу падымаецца чорная страшная хмара. Пётра ўлажыў крук на яго месца й уся грамада бягом пусьцілася ўбок вёскі. Не пасьпелі яны дабегчы да першых хатаў, калі лінуў патокам дождж. Дождж аднак перастаў таксама раптоўна як і пачаўся.



© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

 

Дзеля таго, што на поле вяртацца ўжо было нeяк, бо ўсё было мокрае, усе сабраліся каля аднае хаты, дзе была хіба найдаўжэйшая ў вёсцы, на даўжыню ўсёй сьцяны, лаўка. Пасеўшы пачалі апавядаць розныя гісторыі й здарэньні зьвязаныя з Купальлем. Нарэшце адна дзяўчына асьведчыла, што яна цяпер не пайшла-б адна на жыдоўскі магільнік за ніякія скарбы. Ёй запярэчыла некалькі хлапцоў, што праўда ня вельмі пераконліва. Яны казалі, што там няма ніякіх страхаў і ўсё гэта бабскія выдумкі. Нарэшце адазваўся Пётра, сказаўшы, што ён пайшоў-бы на магільнік, каб ведаў напэўна, што ён атрымае як узнагароду за гэта. Дзяўчаты ледзь не ў адзін голас сказалі: «Ліда цябе пацалуе». Ліда нічога не сказала, але каб ня было так цёмна, можна было-б пабачыць, што яна густа пачырванела. Тады Пётра ўстаўшы зь месца запытаў: «А як я дакажу, што быў на магільніку?» Тут Ліда са злосьці, што яе ўвязалі ў гэтую справу таропка адказала: «Прынясі той крук, якім ты нас страшыў». Пётра зь месца ірвануўся бегчы й за пару хвілінаў зьнік у цемнаце.

Пасьля гэтага неяк самі-сабой заціхлі жарты й сьмехі. Напэўна кожны думаў аб Пётру, дзяўчаты з жалем, а хлопцы з сорамам. Неўзабаве прайшло хвілін дваццаць ці больш, а Пётра не вяртаўся. Тады некалькі хлапцоў вырашылі пайсьці й паглядзець, што зь ім сталася. Тымчасам купальская кароценькая ночка канчалася й пачынала ўжо шарэць. Па нейкім часе ў канцы вуліцы паказаліся хлапцы, якія несьлі штосьці цяжкое. У адну хвіліну лаўка ля хаты апусьцела, бо ўсе як мага хутчэй паімчаліся ім насустрач. Два дужыя хлапцы ўзяўшы адзін другога за рукі наперакрэст нясьлі Пётру, а трэйці падтрымоўваў яго за галаву ззаду. Данёсшы яго да першай хаты палажылі на лаўцы. Дзяўчына, гаспадыня хаты хутка вынесла вядро вады й ручнік. Пачалі вадой мачыць яму галаву й твар. На ім нідзе ня было відаць параненьня або крыві. Выбег з хаты старэйшы брат дзяўчыны — Сяргей, які нядаўна вярнуўся з войска, дзе служыў у санітарах. Стаўшы ля лаўкі на калені пачаў слухаць сэрца й шчупаць пульс. З хвіліну ён падняў галаву й сказаў, што Пётра жыве, але ён абамлеў.

Тут-жа суседні хлапец запрапанаваў запрэгчы хутка каня й адвесьці Пётру дадому.

Калі яго клалі на воз, ён на некалькі сэкундаў адплюшчыў вочы, аднак яны пазіралі няпрытомна. Акружаны хлапцамі воз памаленьку рушыў у бок мястэчка. Па пэўным часе Пётра ізноў расплюшчыў вочы й пачаў нешта ціхенька шаптаць. Пахілены над ім Сяргей здолеў толькі пачуць: «цёмна... цёмна... гром... цёмна...

Выкліканы лекар ня мог распазнаць прычыны хваробы. Тады хворага адвезьлі ў шпіталь. І там ён праз некалькі дзён ня прыходзіў да сябе. Пазьней ён заўсёды адварочваўся тварам да сьцяны, калі нехта пытаў адносна ягонай хваробы.

Лекары сьцьвердзілі ў Пётры наварот «зласьлівай анэміі», званай у нас «жаўтачкай», на якую ён хварэў некалькі год раней. Пасьля некалькіх тыдняў яго прывезьлі дадому. Яго часта адведвалі хлапцы й дзяўчаты, але ён зь нікім не хацеў гаварыць аб тым, што зь ім сталася. Нават бацьку й брату ён нічога не сказаў. Праз некалькі месяцаў у глухую восень ён памёр. Сваю таямніцу ён панёс у магілу.

Маставая вуліца была, так сказаць, ведамай на цэлае мястэчка яшчэ й з тэй прычыны, што там жыў Навіцкі, рахункавод з маёнтку Гарадца. Ён жыў у даволі прыгожым дамку ўдавы былога ўрадаўца Мацяса й быў старым кавалерам. Але не за тое Маставая вуліца была слыннай, што Навіцкі быў рахункавод, стары ды



ў дадатку кавалер. Не! Прычына была ў тым, што ён меў першае ў мястэчку радыё ды яшчэ з галасьнікам. Праўда радыяў у мястэчку было ўжо некалькі, так званых «на крышталіках» з навушнікамі, у якіх часамі нешта пішчала, або нават і гаварыла хрыпатым голасам. Авось у Навіцкага яно грала, сьпявала ды гаварыла даволі выразна. Цёплымі летнімі вечарамі Навіцкі прысоўваў столік з апаратам бліжэй да вакна, адчыняў вакно й уключаў апарат. На вуліцы тады зьбіраўся цэлы натоўп дзяцей, моладзі й нават старэйшых. Навіцкаму гэта відавочна імпанавала, таму ён часта папраўляў галасьнік, каб было лепш чуваць слухачом на вуліцы. Пазьней відаць для большай папулярнасьці сваіх аўдыцыяў ён часта купляў танныя й дробныя цукеркі «рачкі» й час-ад-часу набраўшы іх у жменю сыпаў іх у тым напрамку, дзе стаяла або сядзела на ўзроўку найбольш дзяцей. Для мужчын і старэйшых хлапцоў ён часамі выносіў у драўлянай скрыначцы даволі добрыя, хоць і самаробныя папяросы. Ён гневаўся, калі па іх выцягвалі рукі недарослыя падшыванцы. Тады ён злосна казаў: «Уцякай смаркач, не хачу атручваць цябе! Для цябе вось рачкі», — дадаваў ён лагадней.

Аднак гэтыя радыёаўдыцыі трывалі ня доўга. Пачала пратэставаць старая Мацясіха супроць зборышчаў каля яе хаты. Рабіла яна гэта здаецца на дамаганьні дачок Валі й Мілы (Аміліі), бо гэтыя зборышчы перашкаджалі залётам падафіцэраў у гародчыку перад другой паловай хаты.

Што датычыць радыя з навушнікамі, дык яно было ўжо з паўгода перад гэтым у піўнушцы Сімана Цэпэлевіча, на рагу, якраз насупраць Шылаваткі. Хітры Сіман думаў пры помачы гэтай штучкі зрабіць гэшэфт, але, нажаль, вышаў на ім, як той знаны Заблоцкі на мыле.

Сіман перагарадзіў на малыя каморкі-катушкі палову свайго можна сказаць абшэрнага дому, назваўшы шумна гэтыя каморкі «намярамі». Усё абсталяваньне гэтых намяроў складалася з маленькага століка й двух табурэцікаў-зэдлікаў. Між іншым гэтыя зэдлікі неахвотна стаялі без дапамогі з боку. У выніку гэтага, калі на іх хтосьці сядаў, дык мусеў растаўляць ногі падобна, як гэта робяць хлапчукі зьяжджаючы на санках з гары. Галоўнай атракцыяй намяроў былі невялікія шафкі прымацаваныя да сьценаў і замкнутыя вісячымі замкамі. У агульным і трошкі абшырнейшым пакоі стаяў стол-стойка. На стале ў самым цэнтры віднеўся вялікаватага разьмеру радыёапарат і блізенька каля яго на высокім крэсьле заўсёды сядзеў Сіман. Ад апарату па сьцяне былі праведзеныя падобныя да тэлефонных драты, палучаныя з шафкамі ў намярох. За сталом стаяла бочка зь півам, а другая зь селядцамі ды невялікая дзежка з салёнымі гуркамі. На сьцяне былі папрыбіваныя паліцы, а на іх стаялі пляшкі з напіткамі чырвонаватага й зеленаватага колеру й неакрэсьленага смаку. Гэтае пітво Сіман называў «ліманадам». Там-жа ляжалі сухаватага выгляду булкі й хлеб-сітніца ды віселі маткі абаранкаў.

Ведама, сюды ніхто не заходзіў, каб пасмакаваць Сіманавага піва, селядцоў ды абаранкаў. Заходзілі сюды галоўна дзеля таго, каб паслухаць гэтага дзівоснага «радзіва». Але Сіман думаў зусім інакш: «Слухаць, то ты слухай, але мусіш выпіць таксама піва ці ліманаду ды штоколечы зьесьці».

Вось вымоўны абразок. У піўную ўваходзіць новы кліент. Сіман хуценька саскаквае са свайго крэсла й падбегшы да яго так-жа хуценька пачынае: «Здрасьце, хочаце піва? «Акацімскае», — з павагай дадае ён. Калі-ж кліент ня можа адразу здэцыдавацца, ён не чакаючы хапае яго пад руку й цягне ў каморку. Там садзіць яго на зэдліку, сьпярша спраўдзіўшы, ці той моцна стаіць на сваіх нагах, наступна



 

адмыкае шафку, выймае адтуль навушнікі й хітра падміргнуўшы накладае іх на галаву кліента. Зрабіўшы ўсё гэта, ён падымаючы многазначна палец кажа: «Толька пажалсна быць асьцярожным, эта стоіць баальшой дзеньгі». Кліент думаючы, што тут ходзіць пра зэдлік, — рагоча, а Сіман абражана кажа: «Какой непонятлівый мужчына, вот это стоіт дзенгі», — ужо са злосьцю паказваючы на апарат ды выбягае. За хвіліну ў каморцы зьяўляецца жонка Сімана, таўшчэзная Зэльда з куфлем піва й селядцом на бляшанай талерцы. Яна стаўляе ўсё гэта на століку й баўтануўшы галавой у бок кліента паважна адходзіць. Тымчасам Сіман перабраўшы ў радыёапараце ўсе гузікі й галкі, і чамусьці яшчэ пастукаўшы сагнутым пальцам па яго вечку, вяртаецца ў каморку й таямніча паўшэптам пытае: « Ну как, іграет?» «Пішчыць», — таксама чамусьці шопатам адказвае кліент. «Это нічаво, січас заіграет». І сапраўды часамі здаралася, што ў навушніках пасьля скрыпу й піску раздавалася даволі выразна: ...кіі-пу-чая, маг-учая... ніі-кем..., або: ...есьлі заавтра вой-на... Пасьля гэтага Сіман зьнікаў з каморкі, а кліент быў зданы на ласку й няласку зэдліка й навушнікаў. Калі-ж па нейкай паўгадзіне ці больш часу кліент зьяўляўся на парозе номяру, яму насустрач на ўсе лапаткі пёрся Сіман і адразу спраўджаў ці навушнікі ў парадку й ці вісяць на сваім месцы ў шафцы. Здаволены агледзінамі ён выцягваў ні то з-за вуха, ні то з даўгаватых валасоў абломак алавіка, а зь кішэні кавалак пакамечанай паперы, хвіліну нешта грызмоліў на ёй, а пазьней зь вельмі жаласнай мінай заяўляў, што за ўсю гэтую прыемнасьць з кліента належыцца ўсяго толькі паўтара злотага. Той ведама-ж не пагаджаўся й падносячы голас крычаў, што Сіман «скуралуп» і за цёплае піва ды за гнілы селядзец ніхто не бярэ такой цаны. «Што значытся цёплае піва, а машыны ты не слушал?» — ужо зусім плачлівым голасам прычытвае той у адказ. Паспрачаўшыся яшчэ хвілінаў пяць, кліент плюнуўшы выходзіць, бяднейшы толькі на 1 злоты й 25 грошаў.

Ведама, што пасьля такога абслужваньня Сіман хутка пачаў траціць ня зусім сабраную кліентуру. Праз некалькі месяцаў у яго засталася толькі дзесяцігрошовая публіка, — заўсёдныя бывальцы ведамай Максімавай лаўкі. А даход зь іх быў, «як кот наплакаў». Яны зазвычай прыходзілі па двое й купіўшы ў складчыну бутэльку ліманаду й шклянку гарбузовага семя - «гарбузікаў», важна кіраваліся ў каморку-номер. Праз некаторы час Сіман не дачакаўшыся далейшага замоўленьня, заглядаючы ў каморку пратэставаў: «І што ві себя думаечэ? Я торговал від вас толька трыццаць грошы, а ві дзелаечэ цэлы воз мусар!» Ведама, што на ягоныя пратэсты публіка не зьвяртала найменшай увагі. Часамі ў часе гэтай слоўнай перапалкі ў суседняй каморцы зьяўляўся нейкі лішні кліент, якога Сіман не прыпамінаў, каб ён штосьці купляў.

Так што незадоўга Сіманава культурная ўстанова закончыла сваё існаваньне, і то вельмі проста. Над яе дзьвярыма аднаго ранку зьявілася, і то даволі парадная, шыльда, на якой коратка й ясна абазначалася: «Хлеб, булкі, обважанкі». І хоць над гэтымі «обважанкамі» часамі й задумвалася пэўная частка насельніцтва мястэчка, але ўсётакі яны былі больш зразумелыя для іх, як папярэдняя «Ядлодайня й піво».

На гэтым прыйдзецца закончыць апісаньне галоўных вуліц Майго Мястэчка. Застаюцца толькі званыя па лужэцку «вулкі». Найбольшай з гэтых вулак была Жынгялёва. І хоць пазьней адміністрацыя перахрысьціла яе на «Вейскую» (вясковую вуліцу, гэты назоў ніяк ня прывіўся, бо жыхары мястэчка й надалей называлі яе Жынгялёвай вулкай. Чаму яе так называлі, ніхто дакладна ня ведае. Штопраўда сям'я Жынгялёў зьяўлялася жыхарамі вулкі, але іх сяліба ня была ані такой аказалай, ані не знаходзілася недзе на франтовым месцы, каб гэта было прычынай назваць ад яе цэлую вулку. Гэта была старая напоўрослая ў зямлю хаціна, якую нават маладыя Жынгялі, мой школьны сябра Янка, званы ў сям'і з польскага Янэк, і тры старэйшыя за яго сястры, з пагардай называлі «палацам».

Але Жынгялёў я ўспомніў толькі ў сувязі з тым, што іх прозьвішчам была названая вулка, бо апрача іх, пачынаючы ад Млынскай вуліцы, было яшчэ некалькі жыдоўскіх дамоў, і адзін зь іх нават мураваны. У ім месьцілася пякарня, якая выпякала вельмі смачныя булачкі ды ведамыя «куханы». Яны былі падобныя да мацы, толькі што таўсьцейшыя й круглыя памерам зь невялікую талерку. Пахлі надзвычай прыемна ды былі пасыпаныя макам або цукрам. З сынам уласьніка пякарні Довідам, ці як мы яго называлі — Додзем, мы былі ў аднэй клясе. Таму што Додзя быў страшэнным невукам, мне таксама часамі даводзілася пасмакаваць куханаў, а ў замен я даваў Додзю перапісаць арытмэтычнае ці нейкае іншае заданьне.

(далей будзе.)



✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕✕

В. СТОМА (ЗША)

## РАЗЬДЗЕЛ І

# АБРАДЫ Й ЗВЫЧАІ ДЗІСЬНЕНШЧЫНЫ ЗЬВЯЗАНЫЯ З РЭЛІГІЙНЫМІ СЬВЯТАМІ

## КАЛЯДНЫЯ СЬВЯТЫ

(працяг)

### Бедная або Галодная Куцьця (перад Вадохрышчам).

Гэтую Куцьцю ладзілі вельмі скромна. Апрача традыцыйнай стравы Куцьці, якая нічым не закрашвалася, была толькі капуста й амаль нічога больш. Аднак пры стале павінна была прысутнічаць уся сям'я, хоць сама вячэра не складалася зь ніякіх спэцыяльных абрадаў ці варожбаў.

Штопраўда гаспадыні варажылі са смаку й выгляду самой куцьці аб ураджаі, а таксама пагодзе на будучы год. Калі казаць, што «гаспадыні варажылі» толькі на гэту куцьцю, дык гэта будзе недакладна, бо фактычна гэтая варажба пачыналася ўжо ад каляднай Куцьці й выглядала наступна: Усе тры разы куцьця павінна была варыцца ў тым самым гаршку, а таксама вада й крупы былі дакладна адмераныя. Пасьля апошняй, галоднай куцьці яна пытала ў прысутных, і таксама прыпаміала сама, якая з куцьцяў была найсмачнейшая, або найбольш удалая. Пры гэтай ацэне не бралася пад увагу закрасу ці дадаткі, але толькі самую куцьцю. Калі найбольш удалай была першая, гэта значыць калядная куцьця, дык гэта

азначала добрую й цёплую вясну, а таксама ўраджай на жыта, — галоўную збажыну селяніна-беларуса. Калі гэта прыпадала на багатую — новагоднюю куцьцю, — дык гэта азначала добрае лета й ураджай на ярыну, а калі-ж на бедную ці галодную, — прыгожая й сухая восень і ўраджай на садавіну ды гародніну.

На Вадохрышча ў некаторых цэрквах, асабліва калі яны знаходзіліся недалёка ад ракі ці возера, адбывалася ўрачыстае пасьвечаньне вады. Дзеля гэтага ўжо за пару дзён перад сьвятам, выразаўся зь лёду вялікі колькімэтровы крыж, які фарбаваўся найчасьцей ясна сіняй хварбай і ўстанаўляўся на лёдзе недалёка ад берагу ракі. Навокал крыжа расстаўляліся зялёныя ялінкі ды іншыя ўпрыгожаньні. Пасьля заканчэньня Богаслужбы ў царкве ў бок ракі ці возера йшоў Хрэсны ход. Над вадою пасьля кароткіх малітваў сьвятар апускаў у загадзя прасечаную палонку Напрыстольны Крыж, і гэты самым асьвячаў ваду. У часе апусканьня Крыжа, паліцыя, войска ці іншыя стралкі давілі залпам тры выстралы.

Пасьля заканчэньня Богаслужбы на рацэ, кожная сям'я набірала з палонкі вады ў загадзя прыгатаваную пляшку. Гэтая вада лічылася Сьвятой ды перахоўвалася праз цэлы год для ўжытку ў розных выпадках, як пажар, наглая хвароба і г. д.

У каталікоў Вадохрышча называлася Тры Каралі (ў памяць 3-ох Каралёў-Мудрацоў, якія прыходзілі пакланіцца Нованароджанаму). У гэты дзень у касьцеле пасьвячалі крэйду. Гэтай крэйдай пасьля рысавалі крыжы на вушаках у хаце, і наагул ува ўсіх гаспадарчых будынках, каб усьцерагчы дом ад пажару, хваробаў ды іншых няшчасьцяў. Праваслаўныя-ж выпальвалі гэтыя крыжы прынесенай з царквы сьвечкай.

На самы дзень Вадохрышча, здаецца, нідзе ня ладзілася ніякіх вечарын.

Вось на гэтым й заканчаліся народныя абрады зьвязаныя з Калядамі, апрача «Вясельля Цярэшкі», або як у скароце называлі гэтую гульню «Цярэшка».

## Цярэшка.

Цярэшка гэта рэдкі калядны народны звычай, які захаваўся, калі ня мыляюся, толькі на Дзісьненшчыне, Полаччыне й часткава Случчыне. Нават на блізкай да Дзісьненшчыны Пастаўшчыне й Вілейшчыне ён прыняў зусім іншыя формы й чамусьці называўся «Катом» ды папросту быў вечарынай з пачастункам. Гэта выглядала так, што моладзь зьбіралася ў адно месца, ладзіла супольны пачастунак, а пазьней танцы.

Як-жа выглядаў «Цярэшка» на Дзісьненшчыне? Да Цярэшкі пачыналі рыхтавацца ўжо загадзя перад Сьвятамі. Сьпярша падшуквалася адпаведная, прасторная хата ў якой маглі-б зьмясьціцца прыблізна 30 вясельнікаў, «бацькі» й музыкі. Пры выбіраньні хаты браўся таксама пад увагу склад сям'і, каб ня было за шмат дзяцей ды іншых лішніх, непатрэбных асобаў. На функцыю «Бацькоў» выбіраліся зазвычай старэйшыя векам хлапец і дзяўчына, паважаныя й добрых паводзінаў. Часта гэтую функцыю выпаўнялі маладыя й яшчэ бяздзетныя сужонкі, асабліва калі ў іх хаце адбывалася гульня.

Пастанова «бацькоў» у кожнай справе была безапэляцыйнай і ня выконвнючыя яе заслужвалі на агульную пагарду.

Пазьней да «бацькоў» згалашаліся ахвотнікі й ахвотніцы гатовыя прыняць удзел у гульні, а яны вызначалі кожнай дзяўчыне адпаведна да яе матэрыяльнага стану колькасьць прадуктаў, якія яна павінна была даставіць на гульню. Ня трэба й казаць, што колькасьць вызначаных й прынесеных прадуктаў павінна была захоўвацца ў таямніцы, дзеля таго, каб часамі не сароміць некаторых дзяўчат, што нібы яны бяднейшыя за іншых. Трэба ведаць таксама, што й кожная маці старалася, каб яе дачка не выглядала на горшую. Хлапцам-жа вызначалася пэўная колькасьць гарэлкі й піва, але ніколі не зашмат, каб унікнуць мажлівых авантураў. Зразумела, што некаторыя хлапцы пасьля агульнага пачастунку «кулялі» яшчэ чарку ці дзьве дзесь па суседству, але таксама вельмі асьцярожна, бо «бацькі» маглі загадаць вінаватаму «ісьці праспацца», і той бываў змушаны падпарадкавацца.



У часе зглашваньня да бацькоў, дзяўчаты (цяпер будзем называць іх «бабамі», а хлапцоў «дзядамі») павінны былі перадаць матцы «выкупы», — якіясь невялічкія рэчы, як: шпількі, завушніцы, танныя тамбаковыя пярсьцёнкі. Неахвотна, або й зусім ня прыймаліся большыя рэчы, як: хустачкі, большыя грабяні ды інш.

Матка зьбірала здадзеныя выкупы ў адмысловую, часамі па мастацку вышытую, торбачку, сьцягнутую ўверсе шнурком і перахоўвала гэта аж да дня Цярэшкі.

Часамі здаралася, што згалошваўся ня роўны лік «дзядоў і баб», з чаго вынікала, што некаму ня хопіць пары. Найчасьцей не хапала «баб», а вынікала гэтае зь ведамай дзявочай хванабэрыі. Тады «бацькі» рознымі спосабамі стараліся палагодзіць гэтую справу, а калі й гэтае не памагала, дык усе бяз вынятку «дзяды» павінны былі «цягнуць саломкі». Гэта азначала, што «бацька» падгатаўляў роўнае даўжыні саломкі колькасьцяй адпавядаючай колькасьці «дзядоў». Пазьней-жа згодна ліку нехапаючых «баб», караціў некаторыя зь іх. Далей «дзяды» падыходзячы да яго, выцягвалі зь ягонай заціснутай жмені саломку, а ён тут-жа прымяраў яе да нарысаванай на стале меркі. Калі саломка аказалася карацейшай, дык даны «дзед» ставаўся «ўдаўцом» і «матка» павязвала яму рукаў белай хусткай, якую ён насіў да канца гульні. Некаторых гэта вельмі бянтэжыла, хоць фактычна «ўдаўцы» нічога ня трацілі. Выглядала, што яны на гэтым выгрывалі, бо ў часе бяседы сядзелі яны побач «бацькоў» ды маглі браць да танцу любую «бабу», ня пытаючы дазволу яе «дзеда».

У дзень Цярэшкі, з прызначанай на гэта хаты, выносілася па магчымасьці ўсё што можна было вынесьці, каб было больш месца. Ад покуці да парогу ставілася ў рад некалькі сталоў ды лаваў з такім разьлікам, каб навокал іх быў вольны й ня зусім вузкі праход.

Сталы застаўляліся пачастункам, а бацькі садзіліся ў цэнтры, на покуце. Дзяды станавіліся па правым баку ў рад, а бабы па левым. Пазьней дзяды па адным пачыналі падыходзіць да «бацькоў», якія іх пыталі: «Хочаш злавіць бабу?» «Хачу» — адказваў дзед. Тады матка падавала яму торбачку з выкупамі, аднак не выпускаючы яе з рук і зашмат не аслабляючы шнурка. Музыкі пачыналі йграць мэлёдыю Цярэшкі, а ўсе прысутныя сьпявалі:

Цярэшка хаху́, хаху́,
Што ў цябе ў мяху, у мяху?
Напарстачкі, іголачкі,
Залатыя пярсьцёначкі.
А ўсё для бабулечкі,
Ад яе дзядулечкі.
Пярсьцёначкі на пальчыкі,
А хустачка ў кішэнь, —

Бабцы сьлёзы выціраць,
Калі дзед наб'е ў каршэнь!

Калі пачыналіся словы аб падарунках для бабы, дзед укладаў руку ў торбачку й вымаючы адтуль выкуп падымаў яго высока над галавой. Тады баба пазнаўшы свой выкуп пачынала ўцякаць, аднак у адваротны ад дзеда бок, а ён павінен быў дагнаць яе бягучы ў права. Прысутныя тымчасам ізноў сьпявалі:

Даганяй сваю долю дзядок,
Падары ёй срэбны грабянёк.
Пуд пернікаў медавых
Ды гарэшкаў залатых.

Дагнаўшы бабу, дзед меў права яе пацалаваць, а тая магла трохі бараніцца, але не занадта. Пасьля гэтага ён зьвяртаў яе выкуп дадаючы пры гэтым яшчэ штось ад сябе, як цукеркі, крамную хустку ці грэбень. Тады яны падыходзілі да бацькоў, а тыя загадаўшы ім пацалавацца яшчэ раз, вызначалі месца за сталом. Яны абавязкава ўзяўшыся за рукі йшлі памаленьку на паказанае месца, а прысутныя далей сьпявалі:

Што-ж мне са старой бабай рабіць?
Хіба прыйдзецца яе ўтапіць!
Бо яе й сьмерць не бярэ,
А яна толькі мой хлеб жарэ.
Дык дзед бабу тапіць вядзе,
А баба крычыць, — ня йдзе.
Дзедка што-ж табе стала?
Я-ж яшчэ ня дужа стара!

Калі ўжо ўсе «бабы» былі палоўленыя, «бацькі» садзілі каля сябе «ўдаўцоў», калі такія былі. Пазьней «бацька» коратка прамаўляў-навучаў ды заклікаў усіх да парадку й паслухмянасьці «бацьком». Зазначаў пры гэтым, што ніхто ня можа браць у танец чужую «бабу» без дазволу яе «дзеда», а ў выпадку дазволу, ня больш чым два танцы запар. Ад гэтага звальняліся «ўдаўцы», але таксама не маглі танцаваць больш як два разы з аднэй «бабай».

Калі «бацька» канчаў сваю прамову, яму й матцы крычалі «горка!». Тады яны выпівалі першую чарку, пасьля чаго пачыналася агульная бяседа, якая розьнілася ад запраўднай вясельнай толькі тым, што была карацейшая. Пасьля бяседы пачыналіся танцы, як на кожнай вечарыне, але з захаваньнем правоў «дзядоў», адносна танцаў. Танцы пачыналі «бацькі» й танец гэты так і называўся — «бацькоўская полька». Пасьля яе ішла традыцыйная «Лявоніха», якую танцавалі ўсе.

Танцы прадаўжаліся даволі доўга, аднак не пазьней, як да першых пеўняў. Гэты звычай вёўся хіба ад таго часу, калі мала ў якой хаце былі гадзіньнікі. Карыстаючы з гэтага вясковыя жартаўнікі сьпявалі пеўневымі галасамі пад вокнамі, чым выклікалі незадаваленьне прысутных, бо шмат якія дзяўчаты, асабліва тыя, якім хлапцы былі ня зусім па душы, зьбіраліся йсьці дадому, матывуючы гэта тым, што сьпяваюць самыя запраўдныя пеўні.

Дзяды адводзілі дамоў сваіх баб, але паводле звычаю толькі да варотаў. Гэты звычай захоўваўся цьвёрда, і тая пара, што яго ламала, заслужвала на пагарду, бо пазьней цёткі часта шапталі пра такую дзяўчыну, што, маўляў, яна нават зь Цярэшкі хлапцоў у сваю хату водзіць. І гэта цёткі шапталі «пабожна» падымаючы вочы ў гору, нягледзячы на тое, што часамі іх уласныя дачушкі дапускаліся й шмат горшых учынкаў.

У некаторых мясцовасьцях палучаныя на Цярэшку пары лічыліся «дзедам і бабаю» аж да Запустаў, а дакладней аж да апошняй перад імі сыботы, калі ўжо кожны меў права танцаваць зь кім толькі хацеў бяз ніякага дазволу. Часамі здараліся выпадкі, калі жарты ператвараліся ў праўду, і «дзед з бабаю» ставаліся нарачонымі, а пазьней і жаніліся.

Пасьля пачынаўся Мясаед — сэзон сватаўства й вясельляў.

### Грамніцы.

Першае большае сьвята пасьля Калядаў было Грамніцы (сьвяткуецца 2-га лютага). Сьвята гэтае паводле царкоўнай тэрміналёгіі называлася інакш, а менавіта: у праваслаўных, — Сустрэча Хрыста, у скарочаньні «Сустрэча», а ў каталікоў, — Божае Маці Грамнічнай. Пэўна з гэтай прычыны й праваслаўныя пачалі называць яго Грамніцамі.

На Грамніцы, як у цэрквах, так і ў касьцёлах пасьвячалі сьвечкі называныя таксама грамнічнымі. Гэтыя сьвечкі вельмі часта ўжываліся ў сямейным і гаспадарскім жыцьці абодвух веравызнаньняў. У першую чаргу іх давалі ў руку ўміраючым. Імі багаслаўлялі сыноў і дачок да шлюбу, сыноў ідучых ў салдаты, або наагул сяброў сям'і, якія выбіраліся ў далейшае падарожжа, таксама дзяцей ідучых першы раз у школу, ці выганяючы жывёлу першы раз на пашу. Запальвалі іх таксама ў часе бураў зь пярунамі. У часе пажару абыходзілі з запаленай сьвечкай навакол гарэўшай будыніны веручы, што пасьля гэтага агонь ня будзе пашырацца далей.

Прынёсшы гэтыя сьвечкі са сьвятыні, бацька запальваў адну зь іх і памаліўшыся, браў у пальцы кончыкі валасоў усіх сяброў сям'і ды крышачку падсмальмаў іх, «каб не балелі галовы». Таксама закурваў дымам гэтай-жа сьвечкі знак крыжа на вушаках хаты ды іншых пабудоваў, каб у будучыні ўсьцерагчы іх ад вагню.

На час між Вадохрышчам і Ггамніцамі выпадалі найбольшыя маразы, а таксама «воўчыя красы», гэта значыць калі ваўкі зьбіраліся ў стады вакол ваўчыцы й часамі ставаліся небясьпечнымі для падарожных, асабліва едучых праз лес ўначы. Ваўкі таксама часта рабілі шкоды, падкопваючыся пад сьцены аўчарняў. Таму што на Дзісьненшчыне было шмат лясоў, дык выйшаўшы ноччу за вёску можна было пачуць, няраз нават зь некалькіх бакоў, выцьцё ваўкоў. Дзеля гэтага жартам называлі іх «зімовымі салаўямі». Або калі хтосьці ня маючы голасу ні слуху намагаўся сьпяваць, дык аб ім казалі, што «ён сьпявае, як воўк на Грамніцы». Аб гэтым сьвяце злажылася ведамая народная пагаворка: «Грамніцы для людзей — хлеба палавіцы, а для скаціны сена траціна». Гэта мела значыць, што да наступных жніваў засталося яшчэ столькі сама часу, як мінула ад старых, а да таго часу, калі жывёла пойдзе ў поле, заставалася яшчэ адна траціна. Таксама людзі верылі, што калі на Грамніцы з пад капіжа (з крапляў, якія сьцякаюць са страхі ад растаўшага сьнегу) нап'ецца певень, дык на Сараکі (9-га сакавіка) хопіць і для вала. Гэтая прымета азначала, што будзе хуткае прадвесьне, а за ім і вясна.

### Запусты-Масьленіца.

Хутка пасьля Грамніцаў, у залежнасьці на якую пару ў даным годзе прыпадаў Вялікдзень, прыходзілі Запусты, званыя яшчэ Масьленіцай або Масьленкай. Гэтак называўся апошні дзень, мо дакладней цэлы тыдзень перад Вялікім Пастом, які трываў 7 тыдняў. Ад назову Масьленіца, відаць, пайшла пагаворка: «Не заўсёды кату Масьленіца». Значыла гэта, што ў гэты дзень ані адно жывое стварэньне ў гаспадарцы не павінна было адчуваць голаду. Таму нават кату й сабаку давалі нешта смачнейшае.

На Масьленіцу, праз увесь тыдзень, а найбольш у апошнія дні, — сыботу й нядзелю, быў звычай катацца на конях, або хоць на санках з гары. У каго быў маладых, яшчэ ніколі не запраганы конь, дык яго абавязкава трэба было «аб'яжджаць» у гэтую пару, запрагаючы ў лёгенькія санкі. Маладыя хлапцы ніколі не каталіся самі, абавязкава бралі з сабою знаёмых дзяўчат.

Падобны звычай, хоць моцна зьменены й пашыраны, існаваў і сярод старавераў, ці як у нас іх называлі «маскалёў». Праўда, яны не каталі дзяўчат, але папросту кралі іх, штопраўда, каб пазьней ажаніцца з гэтай крадзенай дзеўкай. Дзеля гэтага, хіба наўперад «загавораная нявеста» апрануўшы модную сярод маскалёў «шубу» з шырокімі рукавамі й вялікім каўняром зь лісіцы, пахаджала, як-бы ні ў чым ня бывала каля «малельнай», як у іх называлася царква. Раптам дзесьці з-за вугла вылятаді прыгожыя санкі, запрэжаныя прыгожым канём. У санках сядзеў адзін, або часьцей двух маладых абавязкава няголеных хлапцоў, з вельмі слабенькімі яшчэ бародкамі. Кандыдатка на замужжа лёгенька ўскрыквала й «млеючы» падала на сьнег, аднак старанна ўважаючы, каб пры гэтым не пабрудзіць дарагой шубы. Хлопцы падхоплівалі яе пад рукі, хуценька садзілі ў санкі й вачавідкі зьнікалі дзесь у завулку. Тады ля малельнай пачынаўся вэрхал. У пагоню пускаліся браты, бацька, а часамі й тыя, хто й сам ня меў-бы нічога супроць, каб украсьці гэтую дзяўчыну. Зразумела, што ў выніку гэтага часамі паўставалі даволі сур'ёзныя бойкі. У сувязі з гэтым звычаем, старыя маскалі падчас гаварылі: «Мой Ванька, смотры яну как вырас, наверна в этам гаду будзя жану сябе вараваць, бесіна касманогая».

На самы дзень Запустаў ладзіліся «бліны» зь верашчакай ды гучныя складковыя вечарыны з пачастункам. У гэтых вечарынах брала ўдзел ня толькі моладзь, але й маладыя сужонкі. Вечарыны гэтыя заўсёды канчаліся роўна ў поўнач, бо лічылася грэхам танцаваць у пост. Звычай гэты датычыў галоўным чынам праваслаўных, бо ў каталікоў пост фармальна пачынаўся толькі ў чацьвер, пасьля «папельцавай серады». З гэтай прычыны праваслаўныя часамі бяззлобна падсьмейвалі іх, што яны моў «у Бога цялё ўкралі, дык трэба-ж зьесьці».

На грунце гэтых танцаў у пост часамі даходзіла да непаразуменьняў са сьвятарствам, як праваслаўным так і каталіцкім. Адбывалася гэта ў тыя гады, калі розьніца ў сьвяткаваньні праваслаўнага й каталіцкага Вялікаднаў даходзіла аж да пяці тыдняў. Тады ксяндзы гамілі недаверкаў, якія сплямілі каталіцкую веру, танцуючы ня толькі ў пост, але ў дадатку яшчэ ў «схізматыкаў». Калі-ж прыйшлося правініцца й праваслаўным, дык і яны атрымоўвалі «нагане» ад сваіх папоў і за танцы й за тое, што гэта адбывалася ў «адшчапенцаў». Трэба аднак дадаць, што гэтыя клічкі пераважна ўжываліся сьвятарамі абодвух веравызнаньняў, і на іх «радавыя» вернікі не зьвярталі асаблівае ўвагі. (працяг будзе)



Аляксандра Саковіч (ЗША)

## АСІРОЧАНЫЯ

Летні дзень. Чыстае паветра, поўнае сонца. Марына, разам із сваёй малодшай прыяцелькай, Галінаю Тышкевіч, сядзіць на бальконе невялікага двухпавярховага катэджу. Яна адкінулася на сьпінку палатнянага крэсла. У яе на каленах кніжка, але яна ня чытае.

Пад бальконам галасы дзяцей. Марына чуе, як ейная дзевяцігадовая Аленка выхваляецца перад сваім сябрам Барысам:

— А ў нас навіна. У Бібарах едзе Юрка.

— Які Юрка?

— Наш! Мой дзядзька!

— Вы атрымалі ліст?

— Не, ня мы, а Тышкевічы. Наш Юрка ня ведае, што мы тут. Ён нават ня ведае, што мы ў Нямеччыне. Гэта будзе яму цудоўная неспадзеўка... такая неспадзеўка... — паўтарае некалькі разоў, і словы, быццам вольныя птахі, радасна вырываюцца з клеткі дзіцячых грудзей.

— Вы чуеце, як цешыцца Аленка? — заўважвае Галіна.

— І мяне гэта трывожыць, — адказвае Марына. — Нажаль, я сказала ёй аб Юрку адразу, як пачула, што ён у Равэнсбургу. Тады я яшчэ ня ведала аб ягоным лісьце да твайго бацькі. Цяпер я ёй нераз кажу: "Аленка, няма пэўнасьці, што гэта наш Юрка".

— А яна?

— Просіцца: "Калі ласка, мама, не кажы мне так, бо тады мне хочацца плакаць".

Галіна сьмяецца.

— О, гэта так падобна на Аленку. Вы памятаеце гасторыю з "бабкаю"?

— Я ніколі не забудуся на яе, — адказвае Марына, і голас яе гучыць усхвалёвана.

У Бібараху Марына з дачкою жывуць сярод невялікай групы беларускіх эмігрантаў. Сям'я Тышкевічаў асабліва блізкая ім. Аднойчы Галіна паскардзілася Марыне: "Вы ведаеце, вашая Аленка ўсім немцам рэкамэндуе маю маму сваёй бабкай". "Скажы мне, — запытала Марына ў той-жа дзень дачку, — чаму ты выдумваеш, што спадарыня Тышкевіч — твая бабка?" Ясны, заўсёды ажыўлены твар малой спахмурнеў. Яна сьціснула вусны, апусьціла вочы й нічога не адказала. "Чаму?" — паўтарыла маці срога. Аленка маўчала, але Марына бачыла, што малая блізкая да сьлёзаў. "Цяпер ты мусіш пайсьці перапрасіць спадарыню Тышкевіч. Яна не старая жанчына й чуецца пакрыўджанай... і Галі няпрыемна, а мне сорамна..." Раптам Аленка ня вытрывала:

— У нас з табою нікога няма, нікога, — загаласіла яна задыхаючыся ад сьлёзаў. — У Барыса — тата, мама, дзед... у Галі брат...

Толькі ты ў мяне адна.

На момант боль і крыўда ў дрыжачым голасе дзіцяці зьдзівілі Марыну. Тады яна зразумела. Гэта быў боль ад таго, што яны тут, на чужыне, ня маюць нікога із сваякоў. Гэта было жаданьне мець іх, як іншыя. Марыне самой хацелася плакаць.

— Мама, — кліча Аленка з саду.

Марына падымаецца з крэсла й схіляецца над парэнчамі балькону.

— Мама, ці магу я пайсьці да Інгі?

Барыса ўжо няма ў садзе, і Аленцы, відаць, аднэй сумна. Марына глядзіць на гадзіньнік.

— Цяпер чацьвертая, — кажа яна. — Не забывайся, што а шостай вячэраем. Не чакай, каб я клікала, вярніся на час сама.

— Добра, — абяцае малая й бяжыць да брамкі.

Маці глядзіць на Аленку, ажыўленую, вясёлую й ведае, што любіць яе болей ад свайго жыцьця.

— Галіна, — просіць яна, — калі прыедзе Цытовіч, прыбяжы адразу мне сказаць.

— Абавязкава.

— А калі табе будзе здавацца, што гэта якісь ашуканец, нічога не кажы Аленцы... Я не хачу, каб яна яшчэ й гэта перажывала.

— Ведаеце, — прапануе Галя, — калі будзе сумлеў, я забяру яе куды-небудзь, а вы самі пойдзеце да нас.

— Дзякую.

Галінка йдзе дадому. Марына застаецца адна. Адсюль, дзе яна сядзіць, відаць увесь Бібарах. Прыгожае невялікае места. Вабяць Марыну сваім прыгаством ціхія вуліцы, стромкія, лёгкія вежы кірхаў, белыя дамы з чырвонымі дахамі ў зеляніне садоў. Сёньня відаць у далячыні сьветлыя абрысы Альпаў із сіняватымі галовамі. Новы край, новы сьвет, такі непадобны да таго, дзе нарадзілася яна.

Год таму Марына з дачкою пакінулі родны дом. Тады шмат людзей ішло па шляхох на захад. Адны адыходзілі, каб падрыхтаваць сілы й вярнуцца, калі надыйдзе адпаведны час, іншыя — шукаючы ратунку. У тыя дні на кожнай сьцежцы вартавала сьмерць, але людзі йшлі...

Увесну 1945 году Бібарах акупавалі французы. Вайна скончылася. Першы раз пасьля шмат гадоў гора й няшчасьця людзі пачыналі дыхаць вольна, пачыналі шукаць сваіх. Толькі Марыне й Аленцы ня было каго шукаць... і раптам вестка аб Юрку, стрыечным брату Марынінага мужа, сыну выдатнага прафэсара Аляксандра Цытовіча. У 1931 годзе Цытовіча ў Менску расстралялі. Тады думалі, што загінуў і Юрка. “Проста няверагодна, што гэта ён”, — думала й выказвалася Марына. “Мо самазванец які, а мо й горай — чыйсь агэнт?” — казалі ёй знаёмыя. Марына пагаджалася зь імі. Немагчыма было не пагадзіцца. Незадоўга перад тым у Бібараху зьявілася савецкая місія. Адразу на сваім будынку, у цэнтры гэтага старажытнага, някранутага разбурэньнямі, места, павесілі яны вялічэзны партрэт Сталіна. Усе эмігранты насьцеражыліся. Да іх пачалі даходзіць палохаючыя навіны. Казалі, што ў УНРРА паналазіла безьліч камуністых, што альянты выдалі саветам беларускіх вайскоўцаў у Францыі. Калі стала ведама аб Ялцінскай згодзе, нават найбольш аптымістычныя з эмігрантаў занепакоіліся. Здавалася, жыцьцё навокал ізноў рабілася цёмным, няпэўным.



У гэты трывожны час сям'я Тышкевіча, капітана Беларускае Краёвае Абароны, сталася цэнтрам, ля якога гуртаваліся эмігранты. Тышкевіч умеў разважыць, парадзіць, супакоіць. Хто-б із беларусаў ні прыяжджаў у Бібарах, абавязкава складаў яму візыту й вельмі часта спыняўся ў яго.

У сям'і Тышкевічаў пачула Марына, што ў Бібарах па дарозе на Мюнхэн затрымаецца Юрка Цытовіч. Яны мелі ад яго ліст. Пісаў ён, што шмат чуў добрага аб самім Тышкевічу й хоча зь ім пазнаёміцца. Такія лісты капітан атрымліваў часта, і гэта ня дзівіла. Дзівілі, насьцярожвалі асобныя радкі ліста — “...намазаў пяткі, змывацца зьбіраюся... думаюць, тут брахунец — шукаюць як-бы зрэзаць...”

— Вы неяк прыгадвалі, што блізка ведалі Цытовіча? — спытаўся Марыну Тышкевіч, калі яна прачытала ліст.

— Вельмі блізка, — адказала яна. — Юрка нават па мужу мне свой. Але мова гэтага ліста дужа непадобная да Юркавае.

— Жыцьцё мяняе чалавека, — заўважыў ёй Тышкевіч. — А мне казалі, што ён расказвае пра гады ў “працоўнай калёніі й бяспрытульніцтва...” Калі так — хлапцу трэба дапамагчы.

— А калі гэта ня так? — спыталася Марына.

— Усяк на сьвеце здараецца, будзем бачыць.

Твар Тышкевічаў стаўся суровым, заклапочаным. “Відаць, ён і сам ня верыць, што гэта Цытовічаў сын”, — падумала Марына, і яна амаль згубіла надзею на спатканьне. Але ўсё-ж думкі аб Юрку не пакідалі яе. Яны абуджалі ўспаміны пра Менск, пра гады юнацтва. Якой была яна сама тады? Якім быў Юрка? Якім здаваўся ім сьвет?

... Успомніла Марына 1926 год, калі з Амэрыкі ў Беларусь вярнуўся Аляксандар Цытовіч. Марына была тады на першым курсе ўнівэрсытэту, у тым шчасьлівым веку, калі кожны дзень чуеш сябе ў кагосьці закаханым. Ці прафэсар Цытовіч захапіў ейнае выабражэньне тым, што Беларусь не памерла ў ягоным сэрцы на багатай чужыне, ці тым, што ён быў выдатным гісторыкам, ці тым, што выглядаў прыгожа, — яна тады не задумвалася. Ёй прыемна было наведваць ягоныя лекцыі.

Марына любіла маляваць. На палёх сшыткоў із запісамі лекцыяў “увекавечвала” яна тых, каго бачыла вакол, а найбольш Цытовіча. Падабаліся ёй ягоныя рукі — тонкія, даўгія, надзвычай прыгожае формы. Няраз ёй хацелася прытуліцца да іх сваім тварам. Ці было гэта каханьне? Тады яна думала, што так.

Марына была ўжо на трэйцім курсе, калі ў Цытовіча пачаліся няпрыемнасьці. Спачатку зьявіліся няпрыхільныя публікацыі афіцыйнае прэсы пра ягоныя навуковыя працы. Іх называлі чужымі, варожымі. Пазьней пачаліся турботы ў унівэрсытэце, і ягоны прад-

мет абвесьцілі неабавязкавым для залікаў.

Сымпатыі студэнтаў заставаліся на баку прафэсара. Увесну, калі Марына здала ўсе залікі, што вымагаліся, і засталося яшчэ тры вольных дні, яна наважыла падрыхтаваць залік і Цытовічу. Да яе далучыліся дзьве сяброўкі. Сабраліся ў Марыны. Але таму, што гэта быў канец сэсіі, яны чуліся зморанымі й ня столькі займаліся, колькі гутарылі. Праз адчыненае вакно ўрываўся цёплы вясновы вецер, гартаў лістамі раскрытых, забытых на стале кніжок. За тры дні яны ня былі гатовыя.

— Давайце аднясем яму кветак, — прапанавала Марына. — Няхай гэта будзе нашае "даруй", што не падрыхтаваліся.

— Яшчэ падумае, што закаханыя ў яго, — запярэчылі сяброўкі.

— Ну дык што, калі закаханыя? — не згаджалася Марына. — Хіба гэта грэх?

Калі ты так думаеш, дык і нясі сама.

— І панясу, — сказала Марына.

У той-жа дзень купіла яна букет белых і чырвоных ружаў.

Цытовіч жыў у доме прафэсуры. На другім паверсе Марына знайшла дзьверы зь ягонай карткай. Пазваніла й адразу пачула крокі. Дзьверы адчыніліся. Высокі худзенькі хлапец стаяў на парозе. Марына адразу пазнала ў ім сына Цытовіча. Ён меў цёмныя ўважлівыя вочы, бялявыя валасы. Хвалістая прадка зьвісала над вокам, і ён адкінуў яе назад тонкаю, прыгожаю, як у бацькі, рукою.

— Добры дзень, — павіталася.

— Добры дзень, — адказаў хлапец.

Ён паглядзеў на яе, на кветкі. На ягоным твары адбілася зьдзіўленьне.

— Калі ласка, перадайце гэтыя кветкі прафэсару.

— Дзякую, перадам.

— Бывайце, — сказала Марына.

— Бывайце, — адказаў ён і зачыніў дзьверы.

Зьдзіўлены твар хлапца выклікаў у Марыны дакоры сумленьня. "Ці добра я зрабіла? Што падумае прафэсар? Што сказалі-б дома, каб даведаліся?" — задумалася яна й тут-жа сябе супакоіла: "Прафэсар не здагадаецца, хто прынёс... дома ніколі не даведаюцца".

Марына памылілася. У тое лета апынулася яна на дачы ў суседзтве з Цытовічамі. На ейнае шчасьце, Цытовіч ня прыехаў адразу, бо быў у навуковай камандыроўцы. Але ў першы-ж дзень, як спаткалася зь Юркам і ягонай мамай, Юрка пазнаў яе.

— Я ведаю вас. Гэта вы прыносілі тату ружы, — сказаў ён.

— Чаму вы такі пэўны, што гэта я? — паспрабавала жартаўліва запярэчыць Марына.

— Бо добра запамятаў вас, — настойліва паўтарыў ён.

Марына бачыла, як ягоная маці паглядзела на яе спачатку сур'ёзна, дапытліва, і тады мяккая й разам з тым хітраватая ўсьмешка кранула ейныя вусны.

— О, — сказала яна, — у нашага Юркі надзвычайная зрокавая



памяць.

Марына адчувала, як запалалі ейныя твар і вушы. Цытовіч падыйшла зусім блізка й паклала руку ёй на плячо.

— Не чырванейце, я сама вельмі люблю прафэсара й разумею ягоных студэнтак, — казала яна, ласкава перабіраючы рукою канцы Марыніных валасоў.

Адчуваньне пяшчотнае рукі гэтае жанчыны адразу супакоіла Марыну. Ёй падабалася жонка прафэсара. Чулася дабрата ў ейным голасе. Ветліва сьвяціліся вочы. Уся манера ў абыходжаньні выклікала давер.

— Калі ласка, аб кветках нічога не кажэце маім і прафэсару, папрасіла яна.

Цытовіч расьсьмяялася:

— Даражэнькая, якое-ж вы яшчэ дзіця.

У тое лета Марына й Юрка моцна пасябравалі. Так бывае рэдка паміж дзевятнаццацігадовай дзяўчынай і чатырнаццацігадовым хлапчуком. Праўда, аднойчы яны пасварыліся. Здарылася гэта недзе ў сярэдзіне лета. Да Цытовічаў прыехаў на тыдзень з Койданава стрыечны Юркаў брат, Алесь Солтан. Алесь — малады лекар, прыемны, разгаворлівы, дасьціпны — адразу спадабаўся Марыне. Ёй было цікава зь ім. Цешылася зь візыты пляменьніка й сама Цытовіч. Толькі Юрка быў ня ў гуморы. Марына часта лавіла ягоныя цёмныя вочы на сабе й бачыла, як ён незадаволена крывіўся, калі ўсе сьмяяліся. "Няўжо гэтае хлапчанё зайздросьціць Алесю?" — мільгала ў Марынінай галаве здагадка.

Тыдзень мінуў хутка. У вапошні дзень Марына хадзіла прыцiхлай. Думка аб расставаньні з Алесем прыносіла сум. "Я закаханая ў ім?" — пыталася яна сябе й адказвала: "Моцна"... "А ён?"... Яна ня ведала й маркоцілася, што ён паедзе, а яна не даведаецца. Пайшла правесьці яго да аўтобуса. Ішлі па вузкай лясной дарозе. Юрка крочыў наперадзе ад іх. Алесь быў нязвыкла маўклівым. "Мо таксама засмучаны, што расстаецца са мною?" — думала Марына, і ёй прыемна было так думаць. Калі ён узяў ейную руку й прыціснуў да сябе, яна не адабрала.

— Вы ведаеце, Марынка, я, здаецца, моцна захапіўся вамі, — сказаў Алесь.

Ягоны голас гучэў шчыра. Марына адразу павесялела, стала пэўнай. Ёй нават здалося, што ўжо й ня так моцна пранятая Алесем.

— Толькі здаецца?

— Я не жартую, — сказаў ён сур'ёзна.

Раптам Юрка спыніўся й павярнуўся да іх. Ён глядзеў проста на Алеся й зьедліва ўсьміхаўся.

— Ня выабражай, што яна запраўды прападае па табе, — сказаў ён.

— Юрка, не гарадзі глупства, — засьмяялася Марына.

Юрка быццам ня чуў яе. Ён ня зводзіў вачэй з стрыечнага брата й працягваў:

— Калі хочаш ведаць, яна закаханая ў майго тату. Яна прынесла

яму ружы.

— Ружы твайму тату? — перапытаў Алесь і зьдзіўлена паглядзеў на Марыну.

— Я прынесла белыя й чырвоныя ружы, — сказала Марына, робячы асаблівы націск на "белыя й чырвоныя", стараючыся, каб голас гучэў бястурботна. — Прафэсар такі патрыёта.

— Я разумею, — прамармытаў Алесь і неяк дзіўна зьмяніўся, стаў абыякавым ягоны твар і голас.

Расстаньне было сапсаваным. Марыну трэсла абурэньне на Юрку. Як толькі яны засталіся ўдвох, яна сказала:

— Гэта нясумленна. Ты абяцаўся нікому не гаварыць пра кветкі.

Ён пацісьнуў плячыма.

— Я абяцаўся не казаць тату й тваім.

— Добра, я табе гэтага не дарую, — гнеўна сказала яна.

Але праз некалькі дзён даравала. Ня мела яна там нікога, каб сябраваць. Ейны брат, драматург, у сям'і якога яна вырасла, сьпяшаўся скончыць замоўленую яму тэатрам п'есу. Цытовіч была кволай, мела хворае сэрца й не адыходзіла ніколі далёка ад дачы. Марыніна швагерка, занятая малымі дзецьмі, таксама заставалася заўсёды блізка хаты. Марына й Юрка мелі шмат вольнага часу й лёгкія ногі. Зусім бяз стомы маглі яны прайсьці за дзень шмат кілямэтраў. Ня раз яны выходзілі з дому на сьвітаньні й пачыналі зьбіраць грыбы ці ягады, калі яшчэ ў лесе з паветра й кустоў ліпла да скуры халодная вільгаць начное расы. Удзень, назьбіраўшы поўныя кошыкі, садзіліся яны адпачываць дзе-небудзь па дарозе. Юрка любіў углядацца ў неба.

— Глядзі, — казаў ён Марыне, паказваючы рукою на сіняву, на грудкі лёгкіх белых хмаркаў, — так выглядае акіян у сонечны дзень.

А калі калыхаліся ад ветру ды шумелі над імі верхавіны хвояў, Юрка заплюшчваў вочы, прыслухоўваўся:

— Я чую шум хваляў, — казаў ён Марыне.

З бацькамі Юрка пакінуў край, дзе нарадзіўся тры гады перад тым. Ягонае сэрца было яшчэ поўнае ўспамінаў. Ён захапляў імі й Марыну. Разам зь ім пачынала яна бачыць шчасьлівы далёкі край.

У наступным годзе ўлетку спатыкалася Марына зь Юркам ізноў, але ня ў лесе й ня ў полі. Спатыкаліся яны ў Менскім ГПУ, прыносячы перадачы арыштаваным: Марына — брату, а Юрка — бацьку. Міналі месяцы ў горы й страху. У кожнай знаёмай сям'і адбываліся вобыскі й арышты. Ніхто ня быў пэўным, што чакае яго заўтра. І гэта гняло.

Найбольш разгубленай выглядала Цытовіч. Кволая, яна не магла йсьці працаваць. Яе палохала будучыня. Вартавыя ГПУ часта ня бралі для ейнага мужа перадачаў. Аднойчы, пасьля адмовы яна спыталася: "Чаму?" Ёй коратка адказалі : "Расстраляны". Гэтага было зашмат для беднае кабеты. У той-жа дзень яна памерла на атак сэрца.

У віры тых падзеяў лёс Юркі стаўся асабліва трагічным. Марына



прыгадала Юрку на могільніку ў дзень паховінаў ягонае маці. Людзі разыйшліся, Марына засталася зь ім. Было сьцюдзёна, хоць зырка сьвяціла сонца, і з-пад адталай зямлі прабівалася першая зеляніна муравы. Юрка стаяў ля сьвежае магілы акамянелы, бяз сьлёзаў. У Марыны сьціскалася сэрца ад болю за яго.

— Юрка, — сказала яна яму, — пойдзем.

— Куды?

— Да нас.

— Ад вас яны могуць забраць мяне. А я не хачу, я ўцяку ў Амэрыку.

На момант ён заплюшчыў вочы, і Марыне здавалася, што ён прабуе ўбачыць край і акіян, якія чакаюць яго.

— Не дзяцінься, — сказала Марына срога. — Ты мусіш разумець, што гэта немагчыма.

— Мне толькі-б трапіць за мяжу, — сказаў ён. І тут-жа спытаўся. — Ты была калі ў Койданаве?

— Ніколі.

— А я быў у Алеся. Там блізка мяжа й лес...

— І пагранічная варта, — дадала Марына ўсхвалёвана. — Там кожны мэтар сьцеражэцца.

— Ты думаеш, я так сёньня й пабягу праз мяжу? — усьміхнуўся ён. — Раней я прыйду да Алеся. Мне й мама казала йсьці да яго. Спачатку параюся зь ім, агледжуся.

Ягоны голас гучэў пэўнасьцю. Марына зразумела, што ўсё гэта было абдумана яшчэ разам з маткаю.

— Алесь ведае, што мама памерла? — запыталася яна.

— Не... Толькі аб тату... што арыштавалі ведае, — сказаў ён, і першы раз ня вытрымаў, задрыжэў ягоны голас, і на вачох паказаліся сьлёзы.

— Ты мне напішы, — папрасіла на разьвітаньні Марына.

— Абавязкава. Як толькі прыйду да Алеся.

Дарэмна Марына чакала ліста. Праз тыдзень яна напісала Алесю. Той адразу прыехаў у Менск. Юркі ня было ў яго. Прабаваў яго Алесь шукаць у акалічных вёсках — усё дарэмна. Юрка зьнік, як зьнікае кінуты ў ваду камень, не пакідаючы па сабе ніякага сьледу.

У тую-ж вясну быў засуджаны й высланы ў Вятку Марынін брат. За ім паехала сям'я. Марына засталася, бо пабралася з Алесем. Нарадзілася Аленка. Калі Аленцы было два гады, арыштавалі й вывезьлі на Калыму Алеся. Марына жыла ў Менску да самае вайны. Чакала цуду — чакала звароту мужа, чакала Юрку, чакала брата... Ад брата мела лісты. Ад Алеся й Юркі — нічога.

Успаміны былога заўсёды прыносяць Марыне адчуваньне адзіноцтва, страху. Там у яе адабралі мужа, адабралі блізкіх, і яна заўсёды была напалоханай, што ў яе могуць адабраць і Аленку.

Сонца зайшло за дом. Даўгія цені таполяўляглі праз вуліцу. Марына глядзіць на гадзіньнік. Хутка шостая. Неўзабаве прыбяжыць Аленка. Марына ўстае, каб ісьці гатаваць вячэру. "Са мною Аленка.

Якое шчасьце, што мы ня там", — думае яна. І ў яе робіцца цяплей на сэрцы.

На другі дзень паклікала Галіна Аленку на рэчку. Марына выходзіць зь імі на вуліцу разам. Яна зьбіраецца йсьці да Тышкевічаў.

— Глядзеце, — перасьцерагае Марына, — ня йдзеце на глыбокае. І ты, Аленка, слухайся Галю.

Дзяўчаткі йдуць уніз па вуліцы, трымаючыся за рукі, аб нечым весела гутараць. Галіна паварочваецца й, убачыўшы, што Марына ўсё яшчэ стаіць, усьміхаецца, махае ёй рукою, быццам хоча запэўніць, што дагледзіць малую. Паварочваецца й весела махае рукою Аленка. Яна ня ведае, што Цытовіч ужо прыехаў.

Калі Галіна прыйшла сёньня ўпоўдзень, Марына была ў пакоі. Яна заўважыла на плячы Галіны рушнік.

— Ты па нас на рэчку? — запыталася.

— Не, па Аленку толькі... Цытовіч прыехаў, і тата прасіў, каб вы прыйшлі да нас.

— Робіць дрэннае ўражаньне?

— Я ня ведаю, што й казаць, — ухілілася ад адказу Галіна. — Якісь ён нэрвовы... Мітусіцца без патрэбы... Голасна гаворыць... Бутэльку з сабою прывёз...

Тое, што расказала Галіна, ня цешыць. І цяпер, ідучы да Тышкевічаў, Марына чуецца зморанай. "Мне ўсё роўна, калі ён ня Юрка, — імкнецца заспакоіць яна сябе. — Добра, што Аленка будзе на рэчцы... Галіна кажа, за некалькі гадзінаў ён едзе на Мюнхэн... Мне толькі-б самой пабачыць, пераканацца... Чаго ты хочаш? Хочаш, каб гэта быў ня ён? Сама ня ведаю. Я хачу, каб Юрка быў жывы, але не такі..."

— Божа, даруй мне, — просіць яна тут-жа.

У калідоры дому, дзе жывуць Тышкевічы, некаторы час Марына стаіць. Із-за зачыненых дзьвярэй пакою даходзяць галасы. Сярод іх — незнаёмы.

— Іншы дакарае — зашмат п'еш, а ня ведае, што мусіў я зьесьці пуды паскуднага жыцьця... Яно застрала ў горле... у сэрцы... Прапалосквую...

Голас няпрыемны, хрыплаваты, быццам застуджаны.

— Божа мой, а калі гэта запраўды Юрка? — думае Марына й прыціскае рукі да сэрца, каб сьцішыць хваляваньне.

Марына стукае ў дзьверы й, пачуўшы голас Тышкевіча "Заходзьце", уваходзіць у пакой. Яна бачыць Тышкевічаў і іхнага сына: яны сядзяць ля стала. Бачыць і таго. Ён сядзіць ля стала таксама, сьпіною да вакна, ягоны твар у цені.

— А ў нас госьць, Марына, — кажа Тышкевіч. — Мо пазнаеце сына прафэсара Цытовіча?

Пры імені "Марына" той устае й ідзе насустрач ёй. Чырвоны, успацелы твар, расшпіленая нясьвежая кашуля ля шыі, шэры паняты гарнітур з пашарпанымі абвіслымі кішэнямі. Уся ягоная постаць касьлявая, неахайная. "Гэта ня Юрка... Юрка ня мог так зьмяніцца", — вырашае яна й адчувае раптоўны выбух гневу, нянавісьці да гэтага самазванца. Ёй балюча й крыўдна за тых, хто згінуў... за Аленку..."

Ён працягвае руку, кажа:

—Юры Цытовіч.

Марына глядзіць на грубую патрэсканую руку, на шырокія ў суставах пальцы з паламанымі бруднымі пазногцямі й не бярэ яе.

— Прабачце, — гаворыць яна, — вы ня сын прафэсара Цытовіча.

У пакоі наступае ціша. На ягоным твары на момант адбіваецца разгубленасьць, быццам хтось удырыў па ім.

— Вы памыляецеся, — мармоча ён, нэрвова сьціснуўшы свае кулакі.

У Марыны твар варожы, суровы.

— Вы памыляецеся, — паўтарае ён, і ягоныя вусны дрыжаць:

— Думаеце ашуканец? А я вас, здаецца, пазнаю.

Марына не ўважае за патрэбнае яму адказваць. Яна паварочваецца, каб пакінуць пакой, бо ня ў сілах валодаць сабою. Ёй здаецца, што яна ня вытрывае й заплача. Але ён загарадзіў ёй дарогу й глядзіць проста ў вочы. Ягоны голас набывае нейкае новае адценьне, пэўнае й вясёлае, калі ён кажа:

— Вы памятаеце... Марына... як аднойчы вы прынесьлі прафэсару Цытовічу кветкі?

Марына ашаломленая.

— Юрка!.. Прабач мне, Юрка! — цьвердзіць яна бясконца й плача.

Яна адчувае сябе вельмі вінаватай перад ім. Але больш ад усяго ёй сумна. Яна ня можа знайсьці ў сваім сэрцы радасьці ад спатканьня, толькі жаль...

---

Раман Тармола

## БЕЛАРУСЬ

Найменьне бацькаўшчыны —
Беларусь,
Не ад таго,
што зьзяе плямай белаю.
Хутчэй за ўсё таму,
Што Беларусь
Для некага —
заўжды незразумелая.
Нялёгка зразумець народ
Ціхманы ў працы,
У змаганьні — ваяўнічы,
Які гэройскім
сам сябе ня лічыць,
Ды вечна у гэроях яго род.

*Уладзімер* Глыбінны (ЗША)

# ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

**працяг**

— А чым-жа я небясьпечны? — думаў ён. — Што ў маёй душы ды ў сэрцы — гэта-ж мне аднаму толькі ведама. А ў іншых адносінах я запраўды нічога благога рабіць ня зьбіраюся. Сакрэтамі ніякімі не ўладаю, доступу ў забароненыя дзялянкі дзяржаўнае абароны ня маю, у партыях удзелу ніколі ня браў, вось-жа — звычайны шэры чалавек.

— Каму я патрэбны? — цешыў ён сам сябе. Такіх, як я, — тысячы... На ліха я ім здаўся... А гэтыя выпадкі... ў Інстытуце ды іншыя... дык, фактычна, гэта вялікае глупства... Цяпер у вайну не да гэтага ім... Не да дробнае рыбы. Трэба раней шчупакоў ім вылавіць. А да драбязы калі й дойдзе час, дык... толькі-ж ня сёньня... — думаў ён, разам з тым ловячы сябе на дарэмнай спробе пацешыць ды заспакоіць сябе.

— Вось-жа, лепш ня думаць...

І можа больш з мэтай адвесьці ад сябе гэтыя чорныя думкі ды адшпурнуць гэтае насланьнё няпрыемных развагаў ён адчыніў дзьверы ды падаўся на панадворак.

Сьвежае, даволі халаднаватае, як з хаты, паветра прыемна абдало яму твар і адразу вярнула да належнае роўнавагі. З прыемнасьцяй, нібыта той бальзам, што адразу ратуе ад усіх хваробаў, ён удыхаў яго поўнымі грудзьмі й раз-па разу адчуваў сябе здаравей і здаравей. Прыходзіла бадзёрасьць і прыўзьнятасьць.

Сіні полаг неба, усыпаны тысячамі зораў, пачаў ужо здаваць у сваёй сіняве. Відаць, ноч перайшла сваю першую палову й набліжалася да часу сьвітаньня.

З садка, адгароджанага ад панадворку драўляным старым пахіленым плотам, несла сьвяжынёй адыйшоўшага ад расы лісьця й пахам узбуялых у начным халадочку кветак. Дрэвы стаялі нібы тыя стройныя мачты параплаваў каля прыстані. Ні шолаху, ні руху. Усё ў мораку быццам заснула й застыла ў нярухомасьці. Ня чуваць было ні шоргату чалавечых ног, ні шапаценьня лісточкаў.

— Вось, гэта казка! — яшчэ раз пасьпеў ён выказаць сваё зьдзіваваньне чарам начное прыгажосьці ў прыродзе.

У гэты самы момант зноў узьнік, як з пад зямлі, якісь шум каля брамы. Хтосьці шоргаў ботамі, перамінаўся з нагі на нагу, і чагосьці не знаходзіў, а другі даволі гучна наракаў на немагчымасьць штосьці азначыць.

Кастусь падыйшоў бліжэй да брамы. Цяпер пачаў разьбіраць ужо асобныя словы. Але ўсё неяк ня мог дайсьці да сэнсу гэтых гаворак.



Сьвятло ручнога ліхтарыка бездапаможна бегала па верхніх перакрыцьцях весьніцаў, дарэмна спрабуючы адшукаць нумар дому. Да гаворкі ўсё часьцей пачала дамешвацца адборная лаянка са слоў спрадвечнага расейскага "мату".

— Што ім патрэбна? Каго яны шукаюць? — зацікавіўся Кастусь і рушыў да брамы насустрач незнаёмым. У гэтую часіну яму й на момант не прыходзіла думка, што гэта могуць якраз шукаць яго. Ён проста кіраваўся жаданьнем дапамагчы людзям у нейкіх цяжкасьцях, што нечакана ў начы напаткалі іх.

Адчыніўшы весьніцы ды сьмела высунуўшыся на другі бок, ён заўважыў дзьве шэрыя ў мораку постаці.

— Прабачце, таварышы, каго вы шукаеце? — ветлівым нягучным голасам запытаў ён.

— А вы хто будзеце? — замiж адказу запытаўся бліжэйшы зь іх, і яны абодвы падаліся да Кастуся.

Толькі тут Кастусь пабачыў, што гэтыя людзі былі апранутыя ў надта добра знаныя яму ўжо даўно цёмна-зялёныя мундзіры. Іх галовы аздаблялі сіня-зялёныя высокія шапкі з чырвонай акаймоўкаю навокал.

Сьведамасьць таго, зь кім мае справу, няпрыемна кальнула яго й дзесьці ў сярэдзіне захаладзела. Аднак устаяў, ня даючы яшчэ й найменшае веры, што гэта па яго.

"Мала чаго яны шукаюць у такі час. Ці мала ёсьць людзей на гэтай вуліцы? А гэта-ж звычайны для іх працы час" — заспакойваў сябе Кастусь.

"Можа гэта толькі нагляд за тым, каб зацямненьне праводзілася так, як належыць?" — падумаў ён.

— Я тутэйшы жыхар гэтага дому. Выйшаў, пачуўшы вашыя галасы, каб дапамагчы.

— Як прозьвішча?.. Імя?.. Зь якой кватэры?..

Атрымаўшы адказ, ды не знаходзячы мусіць лепшых словаў, каб распачаць выкананьне свайго заданьня, яны, як згаварыўшыся, абодвы накінуліся на яго са словамі дакору за быццам-бы парушаныя правілы зацямненьня.

Пачуўшы гэтыя закіды, Кастусь яшчэ больш пасьмялеў. Ён добра ведаў, што ягоныя вокны зусім добра былі пазавешваныя тоўстымі ватнімі коўдрамі (адмысловае сіняе паперы яшчэ не пасьпелі здабыць для гэтае мэты). Акрамя таго, знадворныя вокны, што на вуліцу, пазачыняныя на ваканіцы. Ды дарэчы ўжо прайшло колькі часу, як ён наагул вылучыў сьвятло. Так што ніякай і адзнакі, ня то што самога праменьчыка сьвятла, не магло паказвацца навонкі зь ягонае хаты. А суседзі з двух іншых кватэраў доміку ўжо даўно спалі й ніякага сьвятла не было ўлучана. Што за ліха іх змушае чапляцца да таго, чаго няма.

Вось-жа у той момант ён усё яшчэ не здагадваўся, у чым палягала прычына іхняе візыты. Ён толькі рашуча запярэчыў, цьвердзячы,

што тут якраз у яго ўсё ў парадку. І вокны завешаны, і сьвятло ня ўлучана.

— Можна зайсьці да вас у кватэру? — азваўся адзін зь іх, відаць старэйшы.

— А як-жа, калі ласка, заходзьце, — прапанаваў ён, паказваючы рукой кірунак.

Кастусь пайшоў першым паказваць ім дарогу ў ягоную хату. Яны йшлі за ім крок у крок. Штосьці было злавеснае ў постуку іхных ботаў па бруку на панадворку па дарозе ў хату.

Прагрукацелі яны за ім праз першую прыбудову да сенцаў, затым праз сенцы й нарэшце ўваліліся сьледам на кухню. Там, зірнуўшы на старога, як лунь, бацьку, што прачнуўся ад іхнага грукату і, улучыўшы сьвятло, жмурыўся ад ягонай рэзкасьці, не даючы яшчэ рады, што адбылося, пайшлі яны ў пакой цяпер без папярэдняга запытаньня дазволу.

Напалоханая маці, прыўзьняўшыся на ложку, толькі й пасьпела сказаць балючым голасам:

— Ужо, ужо прыйшлі...

Як-бы на нейкі час яна заціхла, спрабуючы ўцяміць, што з гэтага будзе. Неўзабаве яна пачала пры іх надзяваць на сябе вопратку.

Тут толькі, пры сьвятле, Кастусь убачыў іхныя прыпухлыя бледныя твары з няяснай ухмылкай. Старэйшы зь іх меў аж два ромбы на сваім каўняру і, відаць, быў у гэты адказны час мабілізаваны проста з габінэту сьледчае працы на гэтую апэратыўную, паважнейшую цяпер, працу вылоўліваньня "небясьпечных элемэнтаў". Ды й другі, прыдадзены яму на дапамогу, таксама, відаць, быў у нейкім чыне, бо меў кубікі на каўняры ды новенькі бліскучы галаўны ўбор паверх гладка прычэсаных і намазаных валасоў.

З прычыны поўнае мабілізацыі ўсіх апэратыўных работнікаў, прышлося самім сьледчым ды іхным практыкантам упрэгчыся ў гэтую чорную працу арыштоўваньня ворагаў. Не хапала ўжо для гэтае мэты ні чорных воранаў, ні звычайных аўтамабіляў, якімі ў спакойныя часы езьдзілі па сваіх ахвяраў.. Не з дабра пайшлі пехатой... ды яшчэ не радавыя, а самі афіцэры, гэтак багата расплоджаныя хуткім павышэньнем за выслугі ў гэтай катняй працы.

Зірнуўшы на зьбянтэжаную старую маці й ня хочучы выдаваць адразу мэты свайго неспадзяванага начнога наведваньня, старэйшы зь іх зноў пачаў з таго, што й каля брамы:

— Чаму ў вас зацямненьне не наладжана? Га?..

Кастусь ужо памкнуўся да вокнаў, каб давесьці, што яны ў іх зусім добра ўладжаныя... Але тыя раптоўна перайшлі на іншы тон:

— Давайце вашую зброю!.. — як з пісталета выпаліў другі.

Толькі тут Кастусю сталася зразумелай і яснай мэта іхнае візыты. Гэтыя словы маланкай прарэзалі ягоную сьведамасьць. Нешта важкае абарвалася ў сярэдзіне, і ўсё там захаладзела ў нейкім шчыпячым, цягучым, доўгім і млосным болю.

Сэрца пачало паскорана стукаць у грудзёх.



— Дык вось яно што! — адразу бліснула зразуменьне сытуацыі, — гэта прышлі па мяне.

Ён добра ведаў, што патрабаваньне аддаць зброю — гэта стары выпрабаваны спосаб пачаць вобшук з мэтай арышту. Толькі маці яшчэ не разумела гэтага й зьдзіўлена запярэчыла:

— А якая гэта ў нас зброя можа быць? Што вы, адумайцеся, адвеку яе ня мелі.

— Мама, — перабіў яе Кастусь, — не пярэч, я табе мушу праўду сказаць. Мяне, бачу, палічылі небясьпечным і мусяць адаслаць далёка ў тыл паводле сёньняшняга ўрадавага загаду аб ізаляцыі паліты-чна-небясьпечных элемэнтаў. Ты ня турбуйся, нічога страшнага мне не пагражае, — з зразуменьнем, дзеля заспакаеньня маці, сказаў Кастусь.

Аднак для маці гэтая праўда прагучэла зусім не заспакойліва. Якраз яна й вярнула яе да сьведамасьці бесспагаднага лёсу, што зноў навальваецца на яе сям'ю. Яна пачала ўжо чуць не галасіць.

Тады ў службоўцах абудзілася нейкая спагада, відаць, праняло трохі й іх чужое няшчасьце. І, каб як уцешыць маці, абодвы пачалі яе запэўніваць, што нічога, усё выясьніцца, вернецца яе сын дамоў.

Выглядала, што часу яны мелі не багата, стараннага вобыску рабіць не маглі, бо трэба было йсьці шмат каго яшчэ арыштоўваць. Таму насьпех павярхоўна акінуўшы зрокам пакой, запатрабавалі пашпарт ды іншыя дакуманты. Кастусь схітрыў, — пашпарт даў, а вайсковы білет надумаўся ўтаіць, каб хоць што-небудзь на будучае захавалася. Сказаў, што на працы пакінуў, хоць ён і ляжаў за кнігамі тут-жа на стале.

— А што за кнігі маеце?

— Калі ласка, глядзеце, вось яны ўсе тут на стале, — упэўнена й сьмела прагаварыў ён. Ведаў, што на стале ў яго колькі кніжок найноўшых выданьняў у расейскай мове па моваведзе, якія ня могуць ніяк быць залічаныя да забароненых і ня могуць яго нічым скампрамітаваць нават у ваччу гэткіх пільных змагароў супраць усялякае крамолы й адхіленьняў.

І запраўды, яны толькі абыякава перагарнулі зь дзьве-тры першых, што трапілі ім у рукі ды адразу пакінулі займацца нявартасным зь іх гледзішча матэрыялам.

— А вы другое якое літаратуры ня маеце, старых выданьняў, беларускіх кніжак?

— Не, ня маю, — схлусіў Кастусь, бачачы іх сьпешку й неахвоту пароцца па кутках.

Падбадзёраны ўдачай з утоеным вайсковым білетам, ён спадзяваўся, што шукаць ня будуць. А ў самога аж ёкнула ў душы, бо ўраз прыгадалася яму цэлая паліца кніжак старых выданьняў і прыхаваных на кухні высока пад самай стольлю, пад пажоўклай, укрытай густым пылам паперай, да якое ён сам ужо колькі гадоў не дакранаўся. Гэта там перахоўвалася шмат кніжак, набытых праз гады студэнцкага жыцьця, калі ён сьпяшаўся купіць кожнае бела-

рускае выданьне, як-бы баючыся, што неўзабаве яго ня будзе — забароняць. А яно гэтак і было ад 1930 году. Не пасьпее кніга выйсьці, як у "Зьвязьдзе" або ў якой іншай газэце яе ўжо вінавацяць у нацыянал-дэмакратычным ухіле. Гэта значыла, што будзе яна неўзабаве забароненая. Справа толькі ў часе — пакуль бюракратычны апарат Наркамасьветы або Глаўліту выдасьць загад аб забароне. І кожны, сьведамы нацыянальных інтарэсаў з пачуцьцём болю за разбурэньне роднае культуры, сьпяшаўся купіць гэтую кнігу. Купіць, пакуль яшчэ яе не зьнялі з гандлёвых паліцаў ды як забароненую ня выкінулі на ўтыль-паперу.

Гэтак было з усімі акадэмічнымі выданьнямі калішняга Інстытуту Беларускае Культуры, пазьнейшай Акадэміі Навук Беларусі, або з творамі беларускіх пісьменьнікаў, якіх што два-тры гады арыштоўвалі групамі й кнігі якіх пасьля хутка зьнікалі з прадажы.

Кастусь не прапускаў ніякае нагоды, калі заводзілася якая капейка ці то ад свае студэнцкае стыпэндыі, ці то ад першых сваіх невялічкіх ганарараў, і абавязкава заўсёды з гораду да хаты прыносіў партфэль набіты даверху кнігамі.

А тады, калі лепшы беларускі літаратурна-мастацкі часопіс "Узвышша" разносіўся ў друку, як кулацка-буржуазны, але яшчэ разам з тым льга было на складзе танна купіць цэлыя камплекты яго за ўсе мінулыя гады, Кастусь не прапусьціў нагоды набыць яго. Аднаго разу заплаціўшы ў канторы за патрэбныя кнігі, пайшоў з квітанцыяй на склад.

Старэнькі вартаўнік адчыніў яму дзьверы ў якуюсь хлева-падобную будыніну ды прапанаваў падбіраць кнігі самому, — яму старому не да гэтага. Перад вачыма ляжала вялікая гара розных выданьняў без ніякага ладу й парадку. Відаць, ссыпалі гэта сюды, каб перадаць па часе на зьнішчэньне. Забалела ў Кастуся сэрца па гэтых здабытках роднае культуры. Узяўшы вялізарны мяшок, ён адабраў сабе спачатку поўныя камплекты. Тады набраў яшчэ боль і панёс мех дахаты.

— Няхай перахоўваецца, — думае сам, — на асалоду аматарам прыгожае літаратуры ў прышласьці. Нашчадкі будуць удзячныя за перахаваньне. Гэта-ж непаўторныя здабыткі нашае культуры, багацьці нашае нацыянальнае душы, россып дум лепшых сыноў нашага народу, ягонага цьвету.

Таму пазьней пазайздросьціць Кастусёвай калекцыі кніжак з беларусаведы маглі нават дзе-якія дзяржаўныя бібліятэкі, якія ў часы пагрому на беларускую культуру, у часе дзеяньня строгіх прадпісаньняў аб забароненых кнігах, панішчылі бальшыню сваіх кніжных багацьцяў.

У гады выгнаньня з бацькаўшчыны Кастусёў кнігазбор перахоўваўся ў ягоных старых бацькоў, невядомых афіцыйным колам асобаў. Таму пад пластом пылу й пад пажоўклай паперай праляжалі ў бясьпецы гэтыя цікавыя беларускія кніжкі.

Аднак на гэты раз агентам НКВД было ні да гэтага. Пацікавіліся яшчэ толькі, ці няма якіх трацкістаўскіх кніжак, але атрымаўшы адмоўны адказ, яны адразу перайшлі да фармальнае працэдуры. Перш прапанавалі суседцы з-за сьцяны прыйсьці за панятую й падпісаць пратакол вобыску. А тады загадалі Кастусю зьбірацца йсьці зь імі.



Тут толькі Кастусь успомніў, што яны мусяць паказаць афіцыйны ордар на арышт, ды запытаў іх пра гэта.

— Нічога, зьбірайцеся, хутка вернецеся. А калі ўжо так хочаце гэтага, дык калі ласка. І яны, нявыскаючы са сваіх рук, паказалі яму якісь цэталь паперы. Толькі й пасьпеў заўважыць друкаваны назоў, — "Ордер на Арест", а ніжэй чарнілам упісанае ягонае прозьвішча й імя, але гэтак нявыразна, што ледзь-ледзь можна было дадумацца, што гэта датычыць яго. Што да адрасу, то не пасьпеў ён угледзець сярод якіхсьці там знакаў.

— Вось падпішыце пратакол вобыску ды пойдзем, — сказаў старэйшы, — час ня церпіць.

Кастусь хутка прабег вачыма ўжо некалі добра знаёмую яму форму. Там было колькі балонак капіравальнай паперы пад ёю. Дрыжачай рукой зь нявымерным сумам у вачох неяк нязвычна доўга падпісваў ён гэты пратакол адмыслова для гэтай мэты прапанаваным хімічным алаўком.

Адну копію аддалі Кастусю. Мэханічна, нават не прыпамінаючы пасьля, як гэта было, нейкім інстыктыўным рухам паклаў ён яе ў сподню кішэю свае камізэлькі, ды адразу пачаў зьбірацца ў дарогу. Ён ведаў, што іхныя заспакаеньні, што хутка вернецца — пустыя словы, якія яны гавораць кожнаму арыштаванаму, калі забіраюць яго з дому.

Папярэдняе дасьведчаньне падказвала яму, што вельмі й вельмі няхутка прыдзецца, калі наагул гэта й станецца калі-небудзь, пераступіць зноў гэты парог. Прад ягоным уяўленьнем стаялі даўгія этапныя шляхі, начныя допыты, азьвярэлыя твары канваераў і канцлягерных паганятых, гады прыгоньніцкае нявольніцкае працы дзесьці на далёкай халоднай поўначы.

Ён ведаў, чаго каштуе чалавеку паляжаць колькі месяцаў на каменнай сырой халоднай падлозе камэры папярэдняга ўвязьненьня ў часы сьледзтва.

Таму на гэты раз ён цьвёрда наважыўся ня выйсьці з хаты, дарма што лета, без зімовага ватняга паліто. Ён добра ведаў, якім яно будзе ратункам, калі будзе заступаць і коўдру, і матрац у бясконцыя дні й ночы папярэдняга зьняволеньня, даўгое дарогі на полках таварных вагонаў ды на жорсткіх нарах у лягерных бараках. На гэты раз ён не рабіў ніякіх ілюзыяў адносна прышласьці, ня цешыў сябе магчымай памылкай, што, можа, разьбяруцца й выпусьцяць. Ён ведаў, куды й для чаго яго забіраюць ўначы з ягонае хаты гэтыя людзі.

Тыя былі зьдзіўленыя зь ягонага прадугледжаньня. Старэйшы незнарок усьміхнуўся, калі адчуў, што Кастусь не дае веры іхным

 

уцешлівым словам, аднак перашкаджаць ня сталі.

Узяў Кастусь яшчэ колькі параў бялізны. З сьлязамі на вачох маці сунула яму ў рукі клумачак з сухарамі ды цукрам, як-бы сумысьля прыгатаваным дзеля такога выпадку.

Наапошку маці ня вытрывала й залілася буйнымі сьлязьмі, яна пачала галошаньне на той вясковы лад, які можа ёй даводзілася чуць у маленсьцьве ў роднай вёсцы.

— А, мой-жа сынок, карміцель ты наш, уцеха наша адзіная, куды-ж яны цябе забіраюць ад нас старых, хворых, бездапаможных, чаму-ж яны адрываюць цябе ад нас ды на пагібель вядуць?...

— Мама, ня плач, дарэмна, не ад іх гэта залежыць. Загад загадам. Яны толькі выканаўцы. Гэта з гары ўказ вышаў — ізаляваць... Каб ня шкодзілі. Вось я й трапіў у гэты лік. Нічога ня зробіш. Трэба ператрываць. Можа калі спаткаемся. Цярпі. Трымай сябе, матулька, пакінь плакаць.

Гэта мала ўспакойвала маці. Адчувала ейнае сэрца, што можа назаўсёды забіраюць ад яе іхную адзіную надзею й уцеху, дзеля якое яшчэ можна й варта было ім жыць. Што-ж ім рабіць на сьвеце, калі яго ня будзе зь імі — адно гора ростані, калі й сьлёзаў ня выплачаш.

Перад разьвітаньнем да ейнага галошаньня далучыліся ўсхліпы старога бацькі, які да гэтага сядзеў на сваім тапчане як-бы анямеўшы, нібыта доўга не даходзячы да сэнсу ўсіх гэтых падзеяў.

Нязьмерна глыбокі жаль да сваіх пакіданых бацькоў агарнуў душу Кастуся.

— Чаму ім такі лёс? Яны-ж за сваё жыцьцё нікому нічога благога не зрабілі. А іх цяпер зноў пазбаўляюць апошняга сына.

У гэты момант ён зусім ня думаў пра сябе, не прыгадваў больш сваіх былых выпрабаваньняў. Ягоная існасьць пранялася цяпер нясьцерпным болем за тых, без каго ён — самотны, а без яго — яны нешчасьлівыя.

Пякучы глухі боль за сваіх родных выціснуў усе страхоцьці за сябе самога. Цяпер ён толькі бязустанку прыгаварваў, зьвяртаючыся то да бацькі, то да маці:

— Родненькія, не бядуйце, ня плачце, ня трэба, можа дасьць Бог, усё абернецца добра, і мы яшчэ пабачымся.

— Прабачце мне, калі чым-небудзь калі ўгнявіў вас. А я заўсёды буду думкамі з вамі, мае даражэнькія.

І ён падыйшоў да старога бацькі, абняў ягоную сівую галаву, ды пачаў горача цалаваць. Затым пацалаваў маці ў мокры твар, доўга ўглядаючыся ў яе поўныя гарачых сьлёзаў вочы. Яму й самому было цяжка ўстрымацца, каб не заплакаць. Ён адчуваў, як комам цісьне жаль у сярэдзіне, і як у самога на вочы міжвольна набягаюць сьлёзы.

Перад растаньнем маці яшчэ мацней загаласіла наўзрыд ды ўскінула рукі яму на шыю.

— А мой-жа ты родненькі, даражэнькі сыночак... мусіць ня ўбачу



я цябе больш... Забіраюць ад нас... забіраюць...

Яна гэтак ахапіла ягоную шыю, што канваеры ня сьцерпелі й пачалі адрываць яе сілком ад Кастуся.

— Выходзьце, даволі!... крыкнулі яны разам на яго.

Не адрываючы вачэй ад упаўшае на падлогу маці, якая сударгава білася ў канвульсіі, і яшчэ больш узрушанага й бездапаможнага бацьку, што далей сядзеў ня ведаючы, што рабіць яму ў гэтай складанай сытуацыі, Кастусь пераступаў за парог свае роднае хаты.

А на двары, як і над усёй зямлёю віднела ўгары тое-ж бяздоннае неба, усыпанае карункамі зоркавага россыпу. Скрозь адчуваўся непарушаны спакой, панавала цішыня летняга перадсьвітаньня. Усё спала перадранішнім непрабудным сном... Ня чуваць было яшчэ птушынага сьпеву... Толькі шчабятаньне конікаў у садох усьведамляла, што жыцьцё не памерла й за якіх колькі гадзінаў зноў прабудзіцца да снаваньня свае адвечнае песьні.

## 4. БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ

Яго павялі праз ускраінныя вуліцы, мабыць сумысьле, паводле інструкцыі, каб не спатыкацца з магчымымі праходжымі, якія часьцей маглі трапляцца на вялікай вуліцы. Спачатку йшлі ўздоўж, зь дзяцінных гадоў добра ведамай яму, Стара-Віленскай вуліцы. Гэта ёю можна было незаўважна выйсьці да старога Ніжняга рынку, адтуль, прайшоўшы каля колішніх гандлёвых шэрагаў, падняцца па Козьма-Дзямянскай вуліцы на Пляц Волі, далей, прайшоўшы сквэрыкам, можна было апынуцца на былой Турэмнай, цяпер Інтэрнацыянальнай вуліцы, што проста ўпіралася ў колішнюю гарадзкую турму, цяпер цэнтральны ізалятар НКВД БССР. Якраз, праходзячы гэтай вуліцай, на поўдарозе да турмы ў яе ўпіралася невялічкая вуліца Ўрыцкага, што проста налева ўгору, праз адзін квартал, вяла да будынкаў Галоўнае Ўправы НКВД з адмысловай турмой, знанай Амэрыканкай. Гэтая апошняя ўжо даўно была ведамая Кастусю сваімі каменнымі мяхамі-камэрамі, ды вялізарнай колькасьцяй прыстасаваных для тутэйшых мэтаў скляпеньняў. Турма заўсёды была поўная пакутнікаў-арыштантаў, што ляжалі даўгія месяцы або гады, на сырых камянёх і чакалі вырашэньня свайго лёсу — шматгадовых прысудаў да прымусовае ссылкі за ўяўную контррэвалюцыйную дзейнасьць.

Моўчкі, без ніводнага запытаньня, ішоў Кастусь з клумкам пад пахай уздоўж Інтэрнацыянальнай вуліцы. Канваеры, нібы трохі засаромленыя сваім службовым учынкам, ішлі таксама моўчкі. Можа і ў іхных заспаных душах, дарма што прывыклі да ўсяго, апошняя сцэна разьвітаньня Кастуся з сваімі старымі бацькамі, зрабіла якісь гуманны зрух і змусіла задумацца. І хоць іхныя душы й былі закарузлыя ад тое чорнае няўдзячнае працы, да якое яны прызвычаіліся, як да нармальнае дзейнасьці, нешта-ж чалавечае магло абудзіцца і



 

ў гэтых бяздумных выканаўцаў загадаў свайго начальства. Пэўна-ж, людзкая самасьведамасьць заганяная ў падпольле, можа выйсьці часамі зь яго й заявіць пра сваё існаваньне. Усё залежыць ад абставінаў. І тады чалавек становіцца тым, чым ён мусіць быць — чалавекам зь вялікае літары. У абставінах нагляду за чалавекам і страху пакараньня за праявы чалавечае спагады, спачуваньня ці толькі жаданьня дапамагчы ў бядзе або няшчасьці, ва ўмовах сталае пагрозы пазбавіцца становішча, усіх матэрыяльных перавагаў, а не, дык проста й жыцьця, чалавечая істотнасьць бывае праявіцца толькі адным сваім невялічкім бокам, пасьля спалохаецца за сваю рызыку й ізноў адыйдзе ў падпольле.

Яны йшлі брукам, пасяродку вуліцы, балазе ня было ў гэты час аніякага руху, і ім ня прыходзілася збочваць на ходнікі. Усе трое маўчалі, як-бы завароржаныя водгульлем іхных гулкіх крокаў.

Кастусь мінаў родныя, знаёмыя й дарагія з раньняга дзяцінства мясьціны. Яны будзілі прыемныя ўспаміны пра незваротныя гады, калі ён хлапчуком абегаў тут кажнае мейсца, і ці мала вытаптаў тут травіцы каля платоў. Мінулі колішнюю сэмінарыю, пазьнейшую Беларускую вайсковую школу, а цяпер проста вайсковы гатэль, дзе калісьці на вялікім даступным двары ён гайсаў з раньня да вечару зь ягонымі аднагодкамі, і дзе ачуў першыя інтарэсы да тэатральных пастановак, да кінапаказаў, шахматаў ды спартовых забаваў.

Мінулі татарскі мост праз Сьвіслач, пад якім калісьці прастойваў гадзіны ў вадзе, ловячы рыбу, або выпорваючы дубцамі чарных мянтузоў з-пад карчоў.

Гэта недалёка адгэтуль некалі ўзімку малым, калі яшчэ ня плаваў, зазнаў патрэбу вучыцца плаваць, калі адпіхваючы ад краёў крыгу, пасьлізнуўся ды ўваліўся ў досыць глыбокую плынь. Вада ў момант аднесла яго далей ад лёду, на якім маці паласкала бялізну. Пакуль тая заўважыла, ужо значная адлегласьць адлучала ейнага сынка ад яе. Спалоханая, яна пачала крычаць, каб плыў сюды, да берагу. І малыш інстынктам пачаў як мага мацней біць рукамі паверх вады, гроб пад сябе яе, і неяк рухамі ўтрымаўся на вадзе. Нават пачаў набліжацца да маці.

Селянін, што ехаў з рынку й павярнуў да ракі, каб напаіць каня, здалёку заўважыў боўтаньне ў вадзе й падбег на дапамогу. Косьцік ужо быў блізка ад берагу, і маці нагнулася над вадой падаць яму руку, адылі сама пасьлізнулася й ледзь-ледзь не ўвалілася ў ваду. Аднак затрымалася на самім ускраю лёду і ўсё-ж такі выцягнула мокрага й абцяжэлага хлопца.

Косьцік вобмiргам пабег дамоў, зьдзеў мокрую адзежыну, і да матчынага звароту ўжо сядзеў пераапрануты й адагрэты на печы ды з спалохам пазіраў уніз, чакаючы новых матчыных настаўленьняў. Але ўсё абыйшлося ціха.

Тут-жа калісьці, яшчэ за пару гадоў да гэтага выпадку, будучы зусім малым, гадоў чатырох ці болей, усеўся ён у човен, пакінуты нейкім рыбаком пад мостам каля берагу. Човен неяк адплыў ад берагу й паплыў па волі плыні. Неўзабаве човен плыў пасярод ракі, а хлапчанё ў ім чуць не заходзілася ад страху ды крычала: Ратуйце За якіх сотню мэтраў човен урэшце прыгнала бліжэй да берагу, большыя хлапчукі, закасаўшы нагавіцы, падыйшлі да яго й падцягнулі човен да берагу...

І ці мала яшчэ ўспамінаў мог узбудзіць у Кастуся гэты мост рака, каб ня чорныя думы пра лёс ягоных родных, што цяжкім насланьнем адганялі ўспаміны даўняга.

Прыемныя ўспаміны пра ясныя сонечныя дні дзяцінства мяшаліся з гораччу жыцьцёвай явы. Гэтая апошняя выціскала ўсе сны дзяцінства й панавала над душой Кастуся, як ноч, што разлягласа скрозь і безаглядна.

Калі яны дайшлі да ўспамінанай вуліцы Ўрыцкага, адкуль льга было зьвярнуць да будынку НКВД, або далей проста да вязьніцы, малодшы канваер азваўся.

— Куды павядзём яго, у наркамат (ён меў на ўвазе НКВД) ці ізалятар? — спытаў ён скрозь зубы старэйшага.

— Вядзем проста ў ізалятар, — адказаў старэйшы, мусіць зусім прыпадкам, тут-жа, нахаду, рашаючы, куды адвесьці Кастуся.

Ніхто, ні яны, ні зьняволены, у гэты момант ня мог ведаць, што гэтае, прыпадковае, тут на вуліцы рашэньне канваераў было найзначнейшай у жыцьці Кастуся пастановай, якая нібы штось напісанае яшчэ на раду чалавека, вызначыла ўвесь далейшы ягоны лёс. Ад гэтага прыпадковага рашэньня залежыла існаваць ці не існаваць Кастусю, застацца жывым на гэтым белым сьвеце, ці за якіх усяго толькі некалькі дзён разлучыцца з жыцьцём на векі вечныя.

Выбіраючы гэтую пастанову, магчыма ў канваераў і былі нейкія меркаваньні, што для драбнейшае рыбы — мяльчэйшыя мясьціны перабываньня. Можа скляпеньні самога НКВД прызначаліся для больш значных палітычных нявольнікаў. Іншай-жа драбязе і ў турме месца знойдзецца, каб адразу хутчэй адтуль на высылку прызначыць. Але абярнулася гэтая пастанова, як ня трэба спрыяльна для Кастуся. Ён сам дойдзе да зразуменьня гэтага пазьней ужо ў разбураным Менску, пасьля памятных здарэньняў, што зьінаначылі зусім ягонае жыцьцё.

## 5. ДЗЕ ЦЯЖКА ВЫБРАЦЬ ПРАЎДУ

Яны спыніліся перад шырокай і высокай жалезнай турэмнай брамай. Канваер пацiху пастукаў у выраз вакенца ў правай палове. Чалавечае вока паказалася ў сачку, круглай дзірачцы ў жалезе, затым дзьверы ў браме адчыніліся. Той штосьці сказаў, і яны ўсе трое прайшлі за браму. За гэтай першай жалезнай брамай відаць было другую браму на іншым баку будынку, за якою быў ужо турэмны двор і галоўная вязьніца ў колішнім Літоўскім замку, параўнаўча ня так даўно, толькі ў мінулым стагодзьдзі, прыстасаваным для гэтых мэтаў.

Сам гэты каманданцкі будынак з двума жалезнымі брамамі, і ўсё што за ім, было даўно добра вядомым Кастусю. Некалі яго таксама ўводзілі й выводзілі праз гэтую браму. З той толькі розьніцай, што тады прывезьлі яго ў "чорным воране" пасьля заканчэньня сьледзтвай шматмесячнага прабываньня ў "Амэрыканцы".

Тады, пасьля галоднае й халоднае "Амэрыканкі", турма здалася яму "домам адпачынку".

Цяпер адразу з волі яго вялі сюды пехатой знаёмымі шляхамі, што ўжо самі па сабе будзілі тысячу розных успамінаў. Праўда, у дарозе ён яшчэ мог даць волю гэтым успамінам без асаблівых перашкодаў. Таму ён не заўважыў, як ад Татарскага мосту яны мінулі лазьню ў канцы Старавіленскай вуліцы, прайшлі мост перад Старым рынкам уздоўж гадлёвых радоў, падняліся на Пляц волі, адтуль спусьціліся на Інтэрнацыянальную й ураз апынуліся перад гэтай жалезнай брамай. А тут ужо не было магчымасьці аддавацца ўспамінам.

Адразу-ж, як апынуліся за брамай, яго павялі ў адзін з пакояў і распачалі допыт, запаўненьне анкеты й нават закід абвінавачаньня.

— Ага, яны сапраўды працуюць з вайсковай спраўнасьцяй. Ужо ўсё ў іх падрыхтавана, — зьдзіўлена падумаў Кастусь, калі пачуў прапанову падпісаць абвінаваўчы акт. На стале ляжала прапанаваная імі стандартная блянка з ужо ўпісанымі ягонымі данымі ды артыкуламі абвінавачаньня.

— Вы абвінавачваецеся ў контррэвалюцыйнай прапагандзе ды ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі, паводле артыкулаў 72 і 76 Крымінальнага Кодэксу БССР, — прагаварыў старшы канваер даўно завучаны й абрыдлы казённы стандартны сказ тонам з прэтэнзіяй на аўтарытэтнасьць і безапэляцыйнасьць, быццам віна ўжо на гэтульки даведзеная, што разьбірацца далей няма патрэбы. Застаецца толькі подпісам фармальна падцьвердзіць даведзенае й бясумніўнае.

— Я ні ў чым не вінаваты, ніякай контррэвалюцыйнай дзейнасьцяй не займаўся, — рашуча сказаў Кастусь, — і таму падпісаць гэтага не магу.

Ён быў даўно ўжо добра абазнаны з гэтымі прымітыўнымі, загадзя гатовымі мэтадамі допыту, калі сьледчаму ходзіць, абы вырваць подпіс пад актам абвінавачанага ды ўпросьціць справу.

Ён ведаў, што слабейшыя істоты, якія без супраціву падпісваюць сабе розныя абвінавачаньні, ад гэтага толькі трацілі, бо ўжо пэўна атрымлівалі вялікшыя тэрміны зьняволеньня, як асобы, віна якіх быццам падмацавана нават іхнымі прызнаньнямі й подпісамі.

— Дзеля таго, што вы адразу пачынаеце трымаць сябе адмоўна, тым горш для вас! — пагрозьліва прагаварыў сьледчы, уставіўшы свой пільны пагляд на Кастуся. Кастусь вытрымаў яго на сабе й рашуча заявіў:

(далей будзе)



## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Такі вузкі спэцыяліст, што й твару ня відаць.

**Калі жадаў камусьці зла, то ад усяго сэрца.**

Абрэзаўся, адточваючы вострыя думкі.

**Сусьвет параўнаў-бы зь пярсьцёнкам — і той і другі ня маюць пачатку й канца.**

— Розуму ў мяне не адбярэш, — хваліўся асёл.

**Век жыві — век вучыся!.. А жыць калі?**

На кожнае балота чорт знойдзецца.

**Чаму многія жэняцца па любові? Бо ня ўмеюць жаніцца па разьліку.**

— Немагу цярпець тупых, — гаварыла швэйная йголка ў адрас напарстка.

**Белыя рукавіцы можна надзець і на брудныя рукі.**

Кропка ніколі не прызнае малых велічынь. За ёю стаяць вялікія... літары.

**Доўга прыглядаўся, каб закахацца зь першага погляду.**

Я на дробязі, як ты, не разьменьваюся, — папракнуў цэнт даляра.

**Мела адзіную каштоўнасьць — залатыя зубы.**

— Няўжо курыца ў дастатку жыве? — разважала мыш. — Усе грабуць да сябе, а яна — наадварот.

**Ён быў кволым, бо ўсё жыцьцё піў за здароўе іншых.**

Скажы іншаму, што ў яго кароткая памяць, і ён скажа, што ў цябе доўгі язык.

**Палымянае каханьне, пажаніла яе з пажарнікам.**

Каханьне маладажонаў было такое гарачае, што разводзіцца ім давялося зімою.

# *ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ*

— Трымаць няма чаго ў сакрэце:
Я, каб зусім не растаўсьцеў,
Два тыдні, верыш, на дыеце,
На самай строгай прасядзеў.
— Ды ну! Табе зайздрошчу, браце!
Характар твой, як ёсьць, відзён!
І многа ты, прызнайся, страціў?
— Ды роўна чатырнаццаць дзён.

— Дзядуля! Ёсьць ў цябе зубы?
— Няма.
— Ніводнага?
— Ніводнага.
— Тады, дзядуля, патрымай маю булку.

Курылі хлопцы й гулялі ў карты,
І раптам сіплы бас Марціна:
— Канчай, браткі, смаліць. Ня варта
Губіць здароўе нікацінам.
Ужо даўно няма сакрэту:
Курыць-жа шкодна, няпрыгожа.
І ведайце, што цыгарэта
Каня забіць, напрыклад, можа.
— Марціне, не мялі пустога, —
Сказаў хтось, ляснуўшы валетам. —
Дзе бачыў ты каня такога,
Які курыў-бы цыгарэты?



### НІШТО Й НІЧОГА...

Адзін пяе пра хараство.
Няма нічога тут такога...
Другі-ж пяе абы пра што,
А часам проста пра нічога.
Зь нічога зробіць ён нішто,
Зь нішто змайструе ён нічога.
Яшчэ й скажа: «Што благога,
Калі пішу я пра нічога?»



— Пра майго тату напісалі ў кнізе!
— У якой кнізе?
— У тэлефоннай...

Ня мог Кузьма й дня пражыць,
каб дзе каго не падкузьміць.

— Мікола, я прасіў паказаць на мапе пустыню Гобі, а ты на Эльбрус забраўся...
— А з гары лепш бачна, спадар настаўнік.

— П'еш?
— Не!
— Курыш?
— Не!
— Гуляеш у карты?
— Не!
— То што, у цябе ніякіх заган?
— Ёсць адна.
— Якая?
— Махлюю.

— Гэты прайдзісьвет на тым сьвеце трапіць у пекла.
— Ну й што? Такі й на смале пагрэе рукі.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК










— Скажы дзякуй, што я і такі прыйшоў.





